КУЛЬТУРА › ГРАМАДСТВА › ЭКАНОМІКА ›
ЛЮДЗІ › ПАДЗЕІ › ФАКТЫ

‹ № 25 (346) ‹ 28 чэрвеня ‹ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**ПАД ПАГРОЗАЙ СВІНАКОМПЛЕКСУ**

Стар. 4–5

**СЕРБІЯ МАРЫЦЬ ПРА МАНАРХІЮ**

Улады Сербіі дазволілі пахаванне на радзіме чальцоў каралеўскай сям'і Карагеоргіевічаў, якія эмігравалі ў 1941 годзе. Урачыстае пахаванне, якое адбылося напрыканцы мая, выклікала шмат спекуляцый наконт перспектыў рэстаўрацыі ў краіне манархіі

Стар. 28

**КІРАЎНІК ПАТРЫЯТЫЧНАЙ «ЧАЙКІ»**

Васіль Супрун разам са сваімі аднагодкамі ў 1946 годзе стварыў патрыятычную антысталінскую арганізацыю «Чайка». За гэта ён быў пакараны 25 гадамі зняволення

Стар. 30

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**ВЫ ЯШЧЭ МОЖАЦЕ ПАСПЕЦЬ АФОРМІЦЬ ПАДПІСКУ НА II ПАЎГОДДЗЕ**

З НАГОДЫ

# НАВОШТА МАКЕЮ ВІЗА?

Сяргей ПУЛЬША

**Гандаль з Еўропай наконт выдачы візы беларускаму міністру замежных спраў Уладзіміру Макею скончыўся. Савет міністраў замежных спраў ЕС у Люксембургу «ў мэтах спрашчэння дыпламатычных кантактаў» часова выключыў спадара Макея з пераліку асобаў, якім забаронены ўезд у краіны Еўрасаюза. Гэтае выключэнне дзейнічае да таго часу, пакуль Макей з'яўляецца міністрам замежных спраў.**




Рашэнне Еўропы выклікала шмат водгукаў не тое што абурэння, але непаразумення ў асяроддзі беларускай апазіцыі. Канешне, размовы пра тое, што Макея выключаць з «ганебнага спісу», хадзілі дастаткова даўно, так што грамадская думка да гэтага была падрыхтаваная. Ніхто не спрачаецца і з тым, што «неўязны» ў Еўропу міністр замежных спраў — гэта проста нонсэнс. Але ж у выпадку з Макеем быў парушаны асноўны прынцып паслядоўнасці палітыкі Еўрасаюза ў дачыненні да Беларусі. Увесь час Еўропа кажа пра захаванне «нязменнай палітыкі да беларускіх уладаў да таго часу, пакуль у турмах застаюцца палітвязні». «Выняцце» з санкцыйных спісаў Макея парушае «нязменнасць і паслядоўнасць» гэтай палітыкі.

Для таго, каб такая падзея сталася магчымай для Макея, павінна быць моцная падстава. Навідавоку такіх падстаў няма.

Найперш, Макея ўключылі ў санкцыйны спіс за парушэнні правоў чалавека падчас прэзідэнцкай кампаніі 2010 года. Вынікі гэтай кампаніі не скасаваныя, больш за тое, шмат хто церпіць за ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах дагэтуль. Такім чынам, не знікла прычына, па якой Макея маглі б пусціць у Еўропу.

Што б там ні сцвярджаў даклад літоўскага еўрапарламентара спадара Палецкіса, сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі таксама не палепшылася. Як трапна заўважыў сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталь Рымашэўскі, санкцыі ў дачыненні да Макея скасавалі ў той час, калі ў Беларусі ідзе разбіральніцтва сумнеўнай «шпіёнскай справы» дэмакратычнага актывіста Андрэя Гайдукова, распачатая новая крымінальная справа па сумнавядомым артыкуле 193.1 за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі супраць каталіцкага верніка Аляксея Шчадрова, які арганізаваў у Шчучынскім раёне прытулак для бяздомных, у царквы «Новае жыццё» ў чарговы раз спрабавалі забраць будынак, а ў Гомелі аднавіліся рэйды супраць баптыстаў, якія сустракаюцца для набажэнстваў без дзяржаўнага дазволу.

Лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька лічыць, што зняцце візавых санкцый у адносінах Макея — своеасаблівы «аванс» Еўропы. Пры ўсёй няўдаласці гэтага рашэння, кажа ён, «толькі вызваленне палітвязняў зможа хоць неяк апраўдаць рашэнне аб скасаванні санкцый супраць Макея».

Палітвязні пакуль застаюцца ў турмах. Але праз два месяцы частка з іх апынецца на волі. У канцы жніўня заканчваецца тэрмін другога прысуду для Дзмітрыя Дашкевіча, і прыкладна ў гэты ж час — «хімія» Паўла Севярынца. Напачатку восені таксама скончыцца тэрмін Аляксандра Францкевіча. Калі Еўропа з нагоды іх вызвалення будзе пляскаць у ладкі і казаць: «Мы дамагліся вынікаў!», гэта будзе вяршыняй цынізму. Тады еўрачыноўнікам можна будзе параіць вітаць вызваленне любога вязня, які адседзеў свой тэрмін поўнасцю.

Але ж нейкія ўмовы для выключэння Макея са спісу ўсё ж былі. Інакш бы афіцыйны часопіс Еўрасаюза «EUR-Lex» не паведамляў бы, што рашэнне ў справе Макея «можа быць перагледжана, калі Савет ЕС палічыць, што мэты, дзеля якіх яно было прынята, не дасягнутыя».

Сама па сабе віза Макею не патрэбная. Па-першае, у яго ёсць дыпламатычны пашпарт, па якім ён можа ездзіць на ўсялякія міжнародныя канферэнцыі. Забарона на ўезд у Еўропу і ЗША, як вядома, не тычыцца мерапрыемстваў, якія ладзяцца міжнароднымі арганізацыямі, такімі, як ААН альбо АБСЕ. Па-другое, у маі Макей тры разы праігнараваў сустрэчы з амерыканскімі і еўрапейскімі калегамі ў Нью-Ёрку, Кракаве і Брусэлі. Тым ён яўна прадэманстраваў, наколькі высока цэніць супрацоўніцтва Беларусі з ЕС. Не сакрэт, што, на думку афіцыйнага Мінска, супраца павінна быць выключна меркантыльнай, а там, дзе няма грошай, туды не варта і ездзіць.

Для чаго ж Макею віза? Якія мэты меў на ўвазе часопіс «EUR-Lex» разам з Саветам ЕС? Як ні дзіўна, на гэта адказаў міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус. Каментуючы рашэнне па Макею для радыё «Свабода», ён заявіў: «Так было вырашана для таго, каб усталяваць канал сувязі, таму што нам трэба падтрымліваць сувязь, нам трэба размаўляць — не толькі слухаць, але і перадаваць паведамленні наўпрост. Гэта асноўная прычына. Лічым, што мы павінны ўзаемадзейнічаць з Беларуссю, каб схіліць яе да нейкіх зменаў, асабліва ў дачыненні да палітвязняў. Для гэтага трэба выкарыстоўваць усе сродкі і ўсё каналы».

Тады рашэнне Еўрасаюза зняць з Макея санкцыі цалкам зразумелае. То бок, Макей больш патрэбны Еўропе, чым Мінску, і з'яўляецца толькі «каналам сувязі». Гэткі старажытны ганец, якога ў сярэднявеччы цары і каралі ганялі туды-сюды і якому рабілі «секір-башка» ў выпадку дрэнных вестак.

Каму Макей наўпрост будзе перадаваць паведамленні Еўропы — таксама не сакрэт. Кіраўнік у яго адзін, і гэта непасрэдна Аляксандр Лукашэнка. Бачна, што Еўрасаюз жадае, каб ягоныя «мэсыджы» даходзілі да беларускага кіраўніка ў мінімальным скажэнні.

Можна, канешне, скарыстацца для гэтага факсам альбо электроннай поштай, але еўрапейцы, хутчэй за ўсё, не ўпэўненыя, што наш кіраўнік дастаткова валодае замежнымі мовамі, каб адрозніць важнае еўрапейскае пасланне ад спаму кшталту розных нігерыйскіх прынцаў, якія абяцаюць паўцарства потым за тры тысячы долараў зараз. То бок, Макей павінен быць яшчэ і «талмачом», каб словы еўрапейскіх палітыкаў Аляксандр Лукашэнка разумеў правільна.

Калі разглядаць рашэнне Савету МЗС ЕС у гэтым рэчышчы — усё лагічна. Макей больш патрэбны ім, чым яны — Макею. І таму візу трэба даць.

Але ці ўдасца праз Макея «перавыхаваць» Аляксандра Лукашэнку? Вось у гэтым можна вельмі-вельмі сумнявацца.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### СЛОНІМ. АКЦЫЯ Ў ПАДТРЫМКУ ГАЗЕТЫ

**26 чэрвеня сябры Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл правялі акцыю ў падтрымку незалежнай «Газеты Слонімскай».**

Яны апусцілі ў паштовыя скрынкі слонімцаў некалькі соцень улётак пад назвай «Чиновникам безразлично мнение слонимчан!».

Ва ўлётках распавядаецца пра тое, што па незразумелых прычынах раённая газета «Слонімскі веснік» прадаецца ў кіёсках «Белсаюздруку» і на яе можна аформіць падпіску праз сістэму РУП «Белпошта», а на «Газету Слонімскую» — нельга. На запыты слонімцаў, а гэта ўжо цягнецца сем гадоў, чыноўнікі адказваюць адназначна: «Нецелесообразно включение «Газеты Слонимской» в подписной каталог».

Ва ўлётцы ўтрымліваецца таксама заклік да слонімцаў дзейнічаць супольна і патрабаваць уключыць «Газету Слонімскую» ў падпісны каталог і распаўсюджваць выданне праз кіёскі. З такімі прапановамі слонімцам прапануюць звяртацца ва ўсе інстанцыі Беларусі: ад адміністрацыі прэзідэнта да старшыні Слонімскага райвыканкама.

**spring96.org**

### ШЧУЧЫН. ПЕРАСЛЕД ДАБРАЧЫННАСЦІ

**У Шчучынскім раёне распачалі крымінальную справу ў дачыненні да жыхара вёскі Аляксандраўка, каталіцкага верніка Аляксея Шчадрова, які арганізаваў у вёсцы прытулак для бяздомных.**

Яго абвінавачваюць паводле артыкула 193.1 Крымінальнага кодэксу ў тым, што ён «арганізаваў дзейнасць… незарэгістраванай рэлігійнай арганізацыі і забяспечыў умовы яе функцыянавання без рэгістрацыі ва ўсталяваным заканадаўствам парадку». Аляксея Шчадрова вінавацяць у тым, што ён «аб'ядноўвае ва ўстойлівую групу адзінаверцаў з ліку мясцовых жыхароў, а таксама асобаў без вызначанага месца жыхарства», абсталяваў пакой «для адпраўлення рэлігійнага культу і задавальнення іншых рэлігійных патрэбаў». На падставе гэтага верніка хочуць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці. Па Шчучынскім радыё і тэлебачанні ўжо прайшлі сюжэты, у якіх Шчадрова і тых, хто жыве ў ягоным прытулку, абвясцілі сектантамі.

Паводле Аляксея Шчадрова, ён не ствараў ніякай рэлігійнай арганізацыі, а толькі прытулак для бяздомных, якіх дзяржава не хоча заўважаць, займаўся дабрачыннай дзейнасцю з міласэрнасці да бліжняга. Ён таксама абвяргае абвінавачванні ў арганізацыі набажэнстваў, бо не з'яўляецца святаром.

У сувязі з гэтым «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» звяртаецца да беларускай і міжнароднай супольнасці, да палітыкаў і праваабаронцаў з заклікам падтрымаць верніка, якога пераследуюць за ягоную дабрачынную дзейнасць, і патрабаваць спынення распачатай справы.

**Паводле прэс-службы БХД**

### РАГАЧОЎ. ПЕРАСЛЕД ЗА ПУБЛІКАЦЫІ

**У рагачоўскага актывіста Дзяніса Дашкевіча ўзялі тлумачэнні наконт публікацыі на незалежным сайце www.vrogacheve.ru.**

«Мне патэлефанавалі на мабільны тэлефон з мясцовага РАУС і запыталі, ці магу я падысці ў міліцыю, каб даць тлумачэнні наконт адной з публікацый на незалежным сайце vrogacheve.ru, — распавёў Дашкевіч. — Але я быў на рыбалцы, і таму патлумачыў, што не магу падысці ў аддзел. Тады праз некалькі хвілін да мяне пад'ехаў супрацоўнік РАУС Сяргей Кучараў у цывільным, які на беразе Дняпра ўзяў з мяне тлумачэнні: адкуль я ўзяў дакументы для публікацыі, хто мне іх перадаў і гэтак далей».

Міліцыянта цікавілі падрабязнасці, якія маюць дачыненне да публікацыі на незалежным сайце пра пераслед рагачоўскага паэта Юрыя Арэстава.

«Думаю, што гэта былі не апошнія выклікі ў міліцыю, паколькі нашы публікацыі пра пераслед Юрыя Арэстава, які заўчасна памёр у пачатку гэтага года, мелі вялікі рэзананс», — сказаў Дзяніс Дашкевіч.

**spring96.org**

### ВІЦЕБСК. СКАРГІ НА ЧЫНОЎНІКАЎ

**Тры заяўкі на адзіночныя пікеты — тры забароны на іх правядзенне. Гэта гісторыя нядаўніх зносін Віктара Жаркова з раённымі адміністрацыямі гораду.**

Віктар Жаркоў падаў скаргі на чыноўнікаў у суды ўсіх трох раёнаў Віцебску. Шанцы, што суды задаволяць згаданыя скаргі — мізэрныя. Цягам апошніх некалькіх гадоў суддзі Віцебску разгледзелі нямала падобных скаргаў, пададзеных мясцовымі актывістамі, і яшчэ ні разу не прызналі, што, забараніўшы мерапрыемства, улады парушылі чыесьці правы.

З моманту ўступлення ў сілу рашэння № 881, якое прадугледжвае заключэнне дамоваў на абслугоўванне акцыі з медыкамі, міліцыяй і службай ЖКГ своечасова заключыць усе неабходныя дамовы не ўдалося яшчэ нікому. Невыкананне гэтага рашэння — традыцыйная прычына забароны масавых мерапрыемстваў у Віцебску. На гэтай падставе забаранілі і пікет, які хацеў зладзіць Віктар Жаркоў. Будзе цудам, калі ён здолее пераканаць суддзю, што рашэнне мясцовых уладаў, якое дэ-факта робіць немагчымым скарыстацца са сваіх правоў, не можа быць вышэй за канстытуцыю і агульнапрызнаныя прынцыпы міжнароднага права.

**Паводле сайту «Віцебская Вясна»**

САНКЦЫІ

## РЫХТУЮЦЦА СЛУХАННІ ПА БЕЛАРУСІ

**У літоўскім Сейме 26 чэрвеня пачаліся кансультацыі паміж літоўскімі і беларускімі дэмакратычнымі партыямі.**

Падчас нарады абмяркоўвалася ў тым ліку і пытанне выключэння з «чорнага спісу» неўязных у ЕС беларускіх чыноўнікаў міністра замежных справаў Беларусі Уладзіміра Макея. Як адзначыў сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі, гэта было памылковае рашэнне, якое не варта было рабіць да вызвалення палітвязняў.

Віталь Рымашэўскі таксама паведаміў, што з яго прапановы ў літоўскім Сейме рыхтуюцца слуханні наконт сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, у прыватнасці, па праблеме палітвязняў, сітуацыі са свабодай СМІ і гэтак далей. Асаблівая ўвага будзе звернутая на новыя працэсы, якія распачаліся ў Беларусі.

«Я выступіў з прапановай правесці парламенцкія слуханні ў Літве па пытанні правоў чалавека ў Беларусі. Зараз судзяць Андрэя Гайдукова, распачалася справа па артыкуле 193.1 у Шчучынскім раёне супраць чалавека, які арганізаваў прытулак для бяздомных. Гэта відавочна палітычныя справы, выклік усім нам. Паколькі зараз прынятае памылковае рашэнне пра выключэнне Макея, што стала дрэнным знакам для беларускага грамадства, для тых, хто арыентаваны на змаганне за свабоду, то не трэба забывацца і пра тое, што робіцца ў Беларусі з правамі чалавека», — сказаў сустаршыня БХД.

Дата слуханняў пакуль не вядомая. Магчыма, што папярэднія слуханні пройдуць на працягу бліжэйшага месяца.

**Паводле прэс-службы БХД**

МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ

## У ПАДТРЫМКУ АХВЯРАЎ КАТАВАННЯЎ

**26 чэрвеня 1987 года ўступіла ў сілу Канвенцыя супраць катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных ці прыніжаючых годнасць відаў абыходжання і пакарання. Праз 10 гадоў Генеральная Асамблея ААН абвясціла гэты дзень Міжнародным.**

Беларускія праваабаронцы, якія паслядоўна і сістэматычна даследуюць тэму катаванняў у краіне, прызнаюць, што гэтая праблема вельмі востра стаіць у нашым грамадстве. Беларускія праваахоўныя органы сістэматычна выкарыстоўваюць катаванні як спосаб дамагчыся прызнальных паказанняў. Супрацьстаяць гэтай з'яве досыць цяжка, паколькі ў беларускім заканадаўстве адсутнічае сам тэрмін «катаванні» і, адпаведна, не прадугледжана адказнасць за іх прымяненне.

Грамадскія актывісты неаднаразова накіроўвалі ў Палату прадстаўнікоў звароты аб увядзенні ў беларускае крымінальнае заканадаўства паняцця «катаванне» і адказнасці за гэтае злачынства. Таксама ад дэпутатаў патрабавалі пачаць распрацоўку Закону супраць катаванняў.

Выступаючы 4 чэрвеня з трыбуны ААН падчас абмеркавання справаздачы спецыяльнага дакладчыка ААН па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі, намеснік старшыні Праваабарончага цэнтру «Вясна» Валянцін Стэфановіч яшчэ раз заклікаў беларускія ўлады запрасіць у краіну тэматычных дакладчыкаў ААН, у тым ліку дакладчыкаў па катаваннях, абароне праваабаронцаў, незалежнасці судовай сістэмы і адвакатуры, свабодзе асацыяцый і Працоўную групу па адвольных затрыманнях.

**spring96.org**

МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ

## ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ СТРАЙКАВАЛІ

**27 чэрвеня на шэрагу рэчавых рынках па ўсёй Беларусі адбыўся аднадзённы агульнанацыянальны папераджальны страйк прадпрымальнікаў, незадаволеных новымі правіламі гандлю ў рамках Мытнага саюза.**

У Мінску амаль не працаваў рынак «Ждановічы». На рынку сабраася некалькі соцен прадпрымальнікаў. Старшыня «Перспектывы» Анатоль Шумчанка абвясціў падчас кароткага мітынгу, што яны дамагліся, каб 2 ліпеня ў Маскву на пасяджэнне Еўразійскай камісіі паехалі прадстаўнікі прадпрымальніцкага руху. Беларускія прадпрымальнікі будуць уздымаць пытанне паслаблення ўмоваў працы для беларускіх гандляроў. Пасля мітынгу Анатоль Шумчанка быў затрыманы разам з журналістамі, якія яго суправаджалі.

У Бабруйску да аднадзённага агульнанацыянальнага страйку далучылася большасць прадпрымальнікаў цэнтральнага рынка. Пераважная колькасць кропак, якія гандлююць адзеннем і абуткам, сустрэла пакупнікоў голымі прылаўкамі. Цалкам не працавалі буйныя гандлёвыя цэнтры «Бярэзіна» і «Сілуэт», якія знаходзяцца каля рынка, толькі часткова працаваў і ГЦ «Брадвей». За прадпрымальнікамі назіралі супрацоўнікі міліцыі, яны стаялі на адлегласці некалькіх метраў. Крыху бліжэй да страйкоўцаў падышоў чалавек у цывільным, які ўвесь час здымаў людзей на відэакамеру.

Не выйшлі на працу 27 чэрвеня і дробныя прыватнікі Гродна. Затое на Цэнтральным рынку можна было пабачыць больш, чым звычайна, міліцыянтаў (у тым ліку ў штацкім) і супрацоўнікаў рынку з бэйджамі. Ралеты на ўваходзе на рынак не працавалі, часткова былі адкрытыя павільёны каля галоўнага будынку. Пакупнікоў было няшмат, у асноўным каля гародніны, якую прадавалі без праблем. Не працаваў таксама рынак «Карона».

Прадпрымальнік Мікола Чарнавус паведаміў, што ў Баранавічах не выйшлі на працу 1200 прадпрымальнікаў, не працавалі ўсе рынкі і шмат якія прыватныя гандлёвыя кропкі. 35 прадпрымальнікаў прыйшлі да гарвыканкаму, каб перадаць свае патрабаванні. Да іх выйшла начальніца аддзелу эканомікі Раіса Уласовіч. Каля паўгадзіны прадпрымальнікі пастаялі ля гарвыканкаму. Мікола Чарнавус трымаў плакат «Мы хочам працаваць». Да прадпрымальніка падышоў міліцыянт і папрасіў згарнуць плакат.

Паводле падлікаў прадпрымальніцы Алены Кастус, на працу не выйшлі каля 1300 прадпрымальнікаў Брэста. Не працавалі буйныя пункты — «Брэсцкі пасаж», рынак «Нікольскі», рынак «Юбілейны», рынак «Лагуна», рынак «ЦУМ» і Варшаўскі рынак.

У Віцебску на рэчавым «Полацкім» кірмашы не выйшлі на працу толькі 40% прадпрымальнікаў. На «Паўднёвым» кірмашы працавалі ўсе. Гандляры тлумачаць свой няўдзел у акцыі пратэсту тым, што ў гэтым месяцы ў Віцебску ўжо быў адзін страйк, калі не працавалі блізу 95% прадпрымальнікаў, і тады пазіцыя наконт новых правілаў гандлю ў межах Мытнага саюза была ўжо прадэманстраваная.

Усе буйныя рынкі Гомеля не працавалі — «Прудкоўскі», «Цэнтральны», «Давыдаўскі», «Паркінг», «Сакрэт». Але было і некалькі «штрэйкбрэхераў»-рэалізатараў, якія адкрылі свае палаткі і ралеты.

Акрамя рынку, у Магілёве страйкавалі ўсе гандлёвыя цэнтры. Не працавалі прадпрымальнікі, якія маюць месцы ў гандлёвых цэнтрах. У цэнтры «Магніт» прадпрымальнікі напісалі заявы адміністрацыі, што сёння не будуць працаваць. На 80% не працаваў гандлёвы цэнтр «Панарама».

У Салігорску прадпрымальнікі выйшлі на працоўныя месцы, але не працавалі. Яны назвалі тое, што адбылося, «працоўным сходам».

Не працавалі таксама рынкі Мазыра, Наваполацка, Касцюковіч, Полацка, Барысава, Жлобіна, Пінска, Слоніма, Івацэвічаў, Навагрудка, Ліды, Маладзечна, Оршы.

**Паводле Радыё «Свабода» і БелаПАН**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ТЫДЗЕНЬ НЯДБАЙНЫХ

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Як мы пісалі раней, лета — найлепшы час для прыняцця непапулярных рашэнняў. І гэтыя рашэнні пакуль рыхтуюцца да прыняцця. Улада зараз вельмі заклапацілася рознымі слаямі нядбайных грамадзян: тых, якія п'юць, колюцца, не ходзяць на працу, і ад каго — адны непрыемнасці. Пакуль праваабаронцы ездзяць па страсбургах-брусэлях, а нармальныя людзі адпачываюць, можна і «прасунуць» нейкія новаўвядзенні ў заканадаўства.**

Так, Міністэрства ўнутраных спраў звярнула ўвагу на наркаманаў. Як высветлілася, МУС пакуль што ініцыявала ўвядзенне адміністрацыйнай адказнасці за ўжыванне наркатычных сродкаў. Пра гэта паведаміў намеснік начальніка ўпраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі Васіль Лосіч.

«Мы зрабілі першы крок, і наша ініцыятыва была падтрыманая ўсімі зацікаўленымі бакамі. Наркаспажыванне — гэта тая з'ява, якая нейкім чынам павінна спыняцца дзяржавай. У сённяшні момант па нашай ініцыятыве падчас унясення зменаў у Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях разглядаецца норма, якая ўвядзе адміністрацыйную адказнасць за ўжыванне наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і іх прэкурсораў у грамадскіх месцах. Гэты праект ужо быў разгледжаны ў першым чытанні ў парламенце, і мы не сустрэлі якіх-небудзь пярэчанняў», — сказаў прадстаўнік МУС.

Вось дзе дзіва-дзіўнае! Аказваецца, раней дзяржава і не думала рабіць захады па спыненні наркаспажывання! Больш за тое, «калоцца» і «дыміць бульбулятарам» можна было ў любым грамадскім месцы! Піва, значыць, піць было нельга, а «пусціць па венах дозу» — ласкава просім!

Яшчэ ў Беларусі будзе больш жорсткай адказнасць за незаконнае распаўсюджванне насення маку для вырабу наркотыкаў, паведаміў начальнік упраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі МУС Беларусі Мікалай Карпянкоў. «Падрыхтаваны дэкрэт, узгоднены з усімі дзяржаўнымі органамі, і на працягу бліжэйшых 1–2 месяцаў ён будзе прыняты: дзейнасць тых, хто распаўсюджвае насенне маку, будзе спыняцца, штраф будзе ад 1 да 8 тысяч еўра. Будуць канфіскоўвацца і транспартныя сродкі, і тыя месцы — кватэры, гаражы, — адкуль яны распаўсюджвалі насенне маку», — сказаў Карпянкоў.

Паводле яго слоў, асноўным наркотыкам на беларускім рынку з'яўляецца выраблены з насення маку опій. Начальнік упраўлення адзначыў, што «гераін, метадон і іншыя цяжкія наркотыкі не распаўсюджаныя на нашым рынку».

Дзякуй Богу, што хоць гераін не распаўсюджаны. Але раней грамадская арганізацыі па барацьбе з гандлем маку ўносілі прапанову: увесці ў Беларусі інстытут спецімпарцёра маку і выдаткаваць квоту на ягоную пастаўку — не больш за тое, што трэба харчовай прамысловасці. Каб булкі з макам з прылаўкаў не зніклі, а зелле проста б не трапляла ў краіну. Гэтая прапанова пыліцца недзе на паліцах МУС. І зараз зразумела, чаму. Лепш увезці ў краіну шмат опійнага маку, а потым, дзеля папаўнення бюджэту, канфіскоўваць кватэры і транспартныя сродкі.

Дарэчы, спадар Карпянкоў пры гэтым абышоў увагай тыя кватэры, дзе з маку непасрэдна гатуецца опій. Яны ж канфіскоўвацца не будуць? Калі так, то баюся, што «дозы» будуць прадаваць ужо ў гатовым выглядзе.

> Асноўным наркотыкам у нас з'яўляецца выраблены з насення маку опій, а гераін, метадон і іншыя цяжкія наркотыкі не распаўсюджаныя на нашым рынку

Таксама Мінпрацы падрыхтавала праект указа, накіраваны на барацьбу з утрыманцамі. Адрасная сацыяльная дапамога зараз будзе выдавацца толькі адзін раз. «Калі чалавек звяртаецца па адрасную сацыяльную дапамогу, яму будзе выдавацца рэкамендацыя, што ён павінен на працягу пэўнага тэрміну працаўладкавацца. Тэрмін аказання гэтай дапамогі таксама ўстанаўліваецца. Калі чалавек паўторна прыйдзе па сацыяльную дапамогу, то рашэнне будзе прымацца з улікам таго, ці рабіў ён крокі, каб самастойна вырашаць свае праблемы. Калі не, то дзяржава яму дапамогу аказваць не будзе», — растлумачыў сутнасць дакумента намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Аляксандр Румак.

Во файная ідэя! Рэкамендацыя будзе выдавацца чалавеку не для таго, каб працадаўца ўзяў яго на працу, а для таго, каб сам беспрацоўны пачаў шукаць працу. Ды яшчэ і абмежавалі пошукі працы нейкім тэрмінам. А калі не знайшоў — давай, да пабачэння!

Нікога не хвалюе, што падчас мінулай працы гэты чалавек спраўна плаціў падаткі? У тым ліку ў фонд занятасці? І што з гэтых ягоных «накопленых» падаткаў яму ж павінна выплачвацца дапамога па беспрацоўі? Калі фонд занятасці не адыгрывае ролю такога «страхоўшчыка ад беспрацоўя», то навошта ўвогуле туды плаціць?

Дзяржава ўзмацняе кантроль і за інтэрнэтам. Працэнт дзяржавы ў СТАА «Дзелавая сетка», які знаходзіцца ў распараджэнні Белтэлекама, будзе бязвыплатна перададзены РУП «Нацыянальны цэнтр абмену трафікам». «Перадаць бязвыплатна долю, якая знаходзіцца ва ўласнасці Рэспублікі Беларусь і гаспадарчым вядзенні рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства электрасувязі «Белтэлекам» у статутным фондзе беларуска-англійскага сумеснага прадпрыемства Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Дзелавая сетка» ў памеры 40%, што адпавядае ўнёску ў статутны фонд у памеры 40 000 долараў ЗША, у гаспадарчае вядзенне рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Нацыянальны цэнтр абмену трафікам», — гаворыцца ў пастанове Саўміна № 506 ад 20 чэрвеня 2013 года.

Нагадаем, што РУП «Нацыянальны цэнтр абмену трафікам» было створана пад Аператыўна-аналітычны цэнтр пры Лукашэнку і ў цяперашні час праз гэтае прадпрыемства праходзіць увесь інтэрнэт-трафік Беларусі, як унутраны, так і знешні. Тобок, ААЦ узмацніла свае пазіцыі ў кантролі за інтэрнэтам.

У сувязі з гэтым цікавая «драма Сноўдэна»: супрацоўнік ЦРУ распавёў пра шпіёнства за грамадзянамі праз інтэрнэт у ЗША, і зараз апынуўся ў ролі героя фільму «Тэрмінал», асеўшы ў транзітнай зоне аэрапорта «Шарамецьева». Набыць новы квіток ён не можа, бо ягоны пашпарт анулюваны, і выйсці з транзітнай зоны таксама — без пашпарту ў Расію не пускаюць.

Хадзілі чуткі, што ён можа быць эвакуяваны адтуль у Беларусь. Але ці пагодзіцца ён працаваць у ААЦ, якое займаецца тым жа, чым і ЦРУ? Калі пагодзіцца, то адзінае выйсце для яго — сесці ў самалёт прэзідэнта Беларусі і прыляцець у Мінск. Гэта ён зрабіць здолее і без пашпарту.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ЗОЯ ТРАФІМЧЫК



Часам сапраўды лепш жаваць, чым гаварыць. Дырэктар беларускага аддзялення Расійска-беларускага інфармацыйнага цэнтра па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Зоя Трафімчык выступае за тое, каб Чарнобыльскую зону больш не прызнавалі зонай. «27 гадоў, якія прайшлі пасля аварыі на ЧАЭС, можна падзяліць на некалькі этапаў: перыяды надзвычайных, ахоўных, рэабілітацыйных мер і адраджэнне, — заявіла Трафімчык.

— Прыкладна тое ж можна сцвярджаць і ў дачыненні да фармавання інфармацыйнага асяроддзя. 1986–1990 гады адзначыліся сапраўдным інфармацыйным вакуумам. Затым яго «прарвала» хваляй негатыўнай інфармацыі, і прыкладна да 1995 года сталі актыўна фармавацца і ўмацоўвацца розныя міфы пра Чарнобыль, сярод якіх былі проста недарэчныя. З 1996 па 2005 год аб'ектыўная інфармацыя стала прабіваць сабе дарогу да грамадскасці, аднак яна была няпоўнай, бо спецыялісты, якія працуюць у галіне ліквідацыі наступстваў катастрофы, былі абмежаваныя ў плане рэсурсаў».

Зараз, па яе словах, не трэба называць Чарнобыльскую зону «зонай». «На жаль, сёння ў многіх заканадаўчых актах фігуруе такое паняцце, як «зона», — склала Трафімчык. — Слова гэта носіць негатыўны адценне. Ці не час перайменаваць тыя рэгіёны, якія пакуль што падыходзяць пад гэта вызначэнне, у «тэрыторыі, якія развіваюцца»?».

Цікава, ці будуць зараз журналісты пісаць «развіваецца тэрыторыя адсялення» або «забруджаная радыенуклідамі тэрыторыя, якая развіваецца»?

### МІХАІЛ МЯСНІКОВІЧ

Прэм'ер-міністр Беларусі заклапаціўся сферай паслуг напярэдадні правядзення Чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску. Паводле яго назіранняў, рэстаранаў і кавярняў у сталіцы недастаткова, а ў тыя, якія ёсць, часцяком складана патрапіць з-за вялікай колькасці людзей. Пры гэтым, на ягоную думку, пункты грамадскага харчавання павінны размяшчацца не толькі на праспекце. Не хапае і месцаў для правядзення вольнага часу моладзі.



Прэм'ер-міністр падкрэсліў, што ўзровень аб'ектаў сферы паслуг павінен быць такім, каб задаволіць самага патрабавальнага кліента, прыцягваць заможных турыстаў. Асаблівую актуальнасць гэта набывае напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі, які пройдзе ў сталіцы ў 2014 годзе. «Трэба накарміць сытага і абуць абутага! Вось умовы працы для Мінска», — сказаў Міхаіл Мясніковіч.

А можа, лепш накарміць абутага і абуць сытага?

### ВІКТОРЫЯ АЗАРАНКА



Вельмі няўдалым стаў гэты тыдзень для беларускіх тэнісістак наогул, і для Вікторыі Азаранкі ў прыватнасці. Яна знялася з тэніснага турніру Уімблдона з-за траўмы, паведаміў афіцыйны Twitter турніру.

У рамках другога кола Азаранка павінна была згуляць з італьянкай Флавіяй Пенета, аднак на корт беларуска выйсці не змагла.

У матчы першага кола ў другім сэце супраць Марыі Жоаа Кехлер Азаранка атрымала траўму, але змагла працягнуць матч. Аднак на паядынак другога кола траўма перашкодзіла беларусцы выйсці на корт.

На гэтым жа тыдні завяршыла выступы ў адзіночным разрадзе Уімблдонскага турніру Вольга Гаварцова. У 1/64 фіналу беларуска, якая займае 73-е месца ў сусветным рэйтынгу, прайграла румынскай тэнісістцы Сімоне Халеп (32) — 2:6, 6:3, 3:6.

У мужчынскім парным разрадзе беларус Максім Мірны і румынскі тэнісіст Хорыя Тэкау, якія атрымалі 7-ы нумар пасеву, у першым раўндзе згуляюць з аўстрыйска-нямецкім дуэтам Філіп Освальд / Дамінік Мефферт.

Спаборніцтвы цяперашняга Уімблдонскага турніру фінішуюць 7 ліпеня. Агульны прызавы фонд турніру складае 22,6 мільёна фунтаў стэрлінгаў.

▸ ЭКАЛОГІЯ



# НАЛІБОЦКАЯ ПУШЧА ПАД ПАГРОЗАЙ... ...СВІНАКОМПЛЕКСУ

Сяргей ПУЛЬША

**Калі мне сказалі, што свінакомплекс на 110 тысяч галоў, які будуе ў раёне вёскі Даўгулёўшчына Валожынскага раёна СТАА «Данпрод», ёсць вялікай праблемай, я паставіўся да гэтага як да «праблемы мясцовых жыхароў». Але праблема аказалася агульнадзяржаўнай, якая можа прывесці да агульнанацыянальнай экалагічнай катастрофы.**

Экологі забілі ў званы: нядбайнае праектаванне і ігнараванне некаторых нормаў могуць ператварыць частку Налібоцкай пушчы, да якой далучаецца гэты свінакомплекс, у «мёртвую зону».

Па-першае, будаўніцтва свінакомплексу пачалося без адпаведных дакументаў і экспертыз. Па-другое, у мясцовых ніхто не запытаў, ці патрэбнае ім новае жывёлагадоўчае прадпрыемства пад бокам. Па-трэцяе, эколагі і праектанты комплексу разышліся ў магчымых аб'ёмах выкідаў гною з комплексу. А гной — гэта калій, фосфар і натрый, якімі лёгка забрудзіць грунтовыя воды. Па-чацвёртае, гэтыя грунтовыя воды знаходзяцца ў «кароне Іслачы», то бок, з'яўляюцца водаўтваральнымі басейна Нёмана. І далей, далей, далей.

Для таго, каб журналісты маглі на свае вочы пабачыць аб'ект, прадзюсар Віталь Супрановіч наладзіў ім вандроўку ў зону будаўніцтва СТАА «Данпрод». Шчыра кажучы, у яго быў і свой інтарэс: непадалёк ад гэтага аб'екта ў яго хутар. А таму Супрановіч хоча, каб там было ўсё чыста і бяспечна.

Такім чынам група журналістаў апынулася ў Валожыне.






На будоўлі свінакомплексу

## СВК «Пяршаі»: афрыканская чума побач

Інжынер-гідратэхнік Георгій Каржанеўскі, які сустрэў дэсант журналістаў у Валожыне, найперш захацеў паказаць нам цудатворную крыніцу, да якой раней хадзіў народ. Хадзіў да тае пары, пакуль падчас будаўніцтва яе не знішчылі. Па шляху да крыніцы ён дэманструе нам жудасныя кадры, знятыя ім за пару тыдняў да нашага прыезду: па рацэ Дараўлянцы плывуць трупы свінак. Гэткім чынам, паводле яго слоў, СВК «Пяршаі» збаўляецца ад памерлых жывёл.

Шлях да памерлай крыніцы ляжыць якраз каля будынку СВК. Аднак дарогу нам перагароджвае шлагбаум. Пільная ахоўніца кажа нам, што на тэрыторыі — каранцін, і нікога блізка да прадпрыемства не падпускаюць.

Хутка прыязджае галоўны ветэрынарны ўрач СВК Віктар Радзвіловіч. Ён тлумачыць: каля СВК «Пяршаі» зона закрытая праз афрыканскую чуму свіней. «У нас пакуль чумы няма, але побач ходзіць. Іўеўскі раён, Стаўбцоўскі», — кажа ўрач.

Ён тлумачыць, што афрыканская чума — гэта захворванне, вельмі небяспечнае менавіта для свіней. «Птушка, карова, авечка, чалавек, які есць мяса, — яны самі не хварэюць, яны носьбіты гэтай хваробы. Есці мяса свіней яны могуць, небяспекі гэта не ўяўляе. Але разнесці чуму могуць, і свінні ад яе паміраюць павальна», — кажа ён. Таму, калі чума ходзіць побач, на ўсіх свінагадоўчых прадпрыемствах уводзіцца каранцін, а ў прыватных гаспадарках забіваюць свіней, каб гэтая зараза не перадавалася.

Так журналісты, пэўна, першыя атрымалі пацверджанне таго, эпідэмія афрыканскай чумы свіней у Беларусі ёсць. Пра маштабы эпідэміі пачалі казаць толькі праз тыдзень нашага візіту.



## «Данпрод»

Комплекс «Данпрод» сустракае нас вялікай будоўляй. Што дзіва, ніхто нас з яе не гоніць і здымаць не забараняе. Наадварот, будаўнікі вельмі прыязна ставяцца да журналістаў. Намі нават выдзяляюць «праваднікa» — прараба, які імя называць не хоча, але з задавальненнем паказвае нам будучую вытворчасць і расказвае, як яно будзе функцыянаваць.

У комплексе — 17 вялізных ангараў. «Мы будуем зараз першыя пяць. Тут адны і тыя ж праекціроўшчыкі. Наш комплекс — як «Белдан» пад Баранавічамі, толькі ў два разы большы: там 8 будынкаў, тут 17. Для кожнага будынку — свае функцыі: ёсць цэхі пад маладняк, цэхі апаросу, цэхі гадоўлі. Гэта дацкая тэхналогія. Частку будаўнічых матэрыялаў мы атрымліваем з Даніі. Мы будуем ангары для маладняку», — кажа наш павадыр.

У кожным ангары ён паказвае нішу, зачыненую кратамі — туды будуць змывацца адкіды жыццядзейнасці свінак. Кожная з нішаў мае два люкі, якія будуць адкрывацца, і праз іх гной трапляе ў трубы. Пасля ідзе ачыстка на цвёрдую і вадкую фракцыі. Цвёрдая складуецца ў адмысловым памяшканні на тэрыторыі прадпрыемства, вадкая ідзе ў лагуны — кар'еры пад адкрытым небам.

Удосталь паразмаўляўшы на будаўнічай пляцоўцы, едзем далей — у тыя лагуны, куды будуць злівацца свіныя ўгнаенні. Зараз там працуе тэхніка: на нашых вачах бульдозер расчышчае адзін з чатырох катлаванаў.

## «Усё нармальна, мама»



Інжынер-механік СТАА «Данпрод» Андрэй Працько лічыць усе жудасці прадпрыемства надуманымі. «Што тычыцца адкідаў, то ў кожным памяшканні ёсць латкі, адкіды з іх транспартуюцца праз сістэму трубаправодаў да насосу, насос далей адпраўляе іх на станцыю сепарацыі. Там гной падзяляецца на цвёрдую і вадкую фракцыі, цвёрдая частка будзе складавацца ў памяшканні, а вадкая — транспартуецца ў лагуны. У лагунах пэўны час гной будзе адстойвацца і вывозіцца на палі ў якасці ўгнаення», — распавядае Працько.

На пытанне пра тое, што аб'ём лагунаў, мякка кажучы, не суадносіцца з падлічанай эколагамі колькасцю гною, які будуць даваць свінні, то Андрэй Працько кажа: «У нас ёсць праект, калі ў вас ёсць пытанні па аб'ёме лагунаў — звяртайцеся да праектантаў. Гэта яны распрацоўвалі, і пэўна, ведаюць, што зрабілі. Я ж не сам гэта праектаваў».

## Біягазу не будзе

Улічваючы, што комплекс «Данпроду» будзе самым буйным комплексам свінагадоўлі ў Беларусі, эколагі прапаноўвалі паставіць на ім біягазавую ўстаноўку. Яна б значна павысіла якасць сепарацыі гною, скараціла б час гэтай сепарацыі, зменшыла б колькасць выкідаў і давала б газ самому прадпрыемству. Але «Данпрод» да гэтых прапановаў прыслухоўвацца не збіраецца.

«Тут біягазавая ўстаноўка не запланаваная. Такія праекты вельмі стратныя, яны нават на Захадзе датуюцца дзяржавай. Калі будуць нейкія значныя датацыі, то, магчыма, пабудуем, але без датацый — гэта проста агромністыя грошы. Гэта вялікія капітальныя ўкладанні», — адзначае Працько.

Між тым, біягаз — гэта дзяржаўная праграма Беларусі. У 2012 год-



По сведчанні Віталя Супрановіча, будаўніцтва комплексу на 110 тысяч галоў свіней пачалося не тое што без абмеркавання з грамадскасцю — нават без папярэдняй экалагічнай экспертызы праекта. «Калі мы ўжо заварушыліся, пачалі дзейнічаць, яны правялі папярэднюю экалагічную экспертызу. Мы дамагліся таго, што ў мінулым годзе прайшло абмеркаванне АУНА — ацэнкі ўздзеяння на навакольнае асяроддзе, як таго патрабуюць дакументы ў межах Орхускай канвенцыі, — кажа Супрановіч. — Мясцовым жыхарам казалі ў самым лепшым стылі: «Гэта не будова — гэта толькі падрыхтоўка да будаўніцтва».

зе на цырымоніі адкрыцця самай магутнай у краіне біягазавай устаноўкі ў СВК «Рассвет» Кіраўскага раёна прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч заявіў, што на працягу трох гадоў у Беларусі будзе пабудавана 25 біягазавых установак. Як адзначыў прэм'ер-міністр, падобныя праекты «дазваляюць вырашаць лакальныя праблемы, не патрабуюць вялікіх выдаткаў на канверсію, а лішак электраэнергіі, які атрымліваецца на іх, рэалізуюць у энергасістэму Беларусі па выгадным каэфіцыенце — 1,3».

Для параўнання: сабекошт вырабленай на біягазавай устаноўцы электраэнергіі складае каля 3,5 цэнта за кВт/г. Сабекошт кілавата ў аб'яднанай сістэме Беларусі — 9,7 цэнта.

## А мясцовым — нічога

Па ідэі, усе магчымыя «непрыемнасці» свінакомплексу павінны неяк кампенсавацца мясцовым жыхарам. Усе забудоўшчыкі абяцаюць гэта. Прыкладам, будуць ствараюцца новыя працоўныя месцы, палепшыцца інфраструктура, правядуць газ, упарадкуюць школы і дзіцячыя садкі… Тады людзі «праз сябе», але пачынаюць пагаджацца: так будзе лепш.

СТАА «Данпрод» абяцае, што штогадовае паступленне падаткаў у бюджэт раёна складзе каля 327 тысяч еўра. І ўсё. Працоўных месцаў на свінакомплексе для мясцовых не прадугледжана. «Па-першае, у іх няма той кваліфікацыі, якую трэба мець, каб працаваць на свінакомплексе. Па-другое, няма ў іх той адукацыі, якая патрэбна», — кажа Працько.

Ён не можа сказаць, ці будуць тут працаваць людзі «вахтавым метадам». «Адзінае, я ведаю, што ў Валожыне будуецца жыллё для працоўных комплексу, для маладых спецыялістаў, якія будуць працаваць у адпаведнасці з патрабаваннямі гэтага прадпрыемства», — адзначае ён.

Астатнія патрэбы мясцовых жыхароў будуць вырашацца пазней, калі ўвогуле будуць вырашацца.

## Чума не пройдзе

«Ані забою свіней, ані іх утылізацыя ў выпадку хваробы гэтым комплексам не прадугледжана. Прадугледжана тут толькі жывёлагадоўля. То бок, цэху забою жывёлы тут няма. Усе яны будуць забівацца ў спецыяльна вызначаных для гэтага месцах», — кажа Працько.

На выпадак падзяжу жывёлы, распавядае ён, прадугледжаны асобны комплекс мерапрыемстваў і забудоваў. «Тут будзе асобны маразільнік, куды будуць звозіцца памерлыя жывёлы, замарожвацца, а потым утылізавацца. Як правіла, яны ўтылізуюцца на спецыяльных прадпрыемствах, перамолваюцца на мясакосную муку. Мука потым скарыстоўваецца для кармоў іншых жывёл, напрыклад, норкі», — кажа ён.

Афрыканскай чумы свіней, упэўнены Працько, на прадпрыемстве не будзе — будзе вельмі жорсткі санітарны кантроль. «Калі ферма будзе запушчаная, вы сюды ўвогуле не зойдзеце, і ніводны пабочны чалавек сюды не трапіць. Ніводны яе працоўны не будзе мець права трымаць хатнюю свінню, каб не пранесці заразу: пра гэта будзе брацца адмысловая падпіска. Калі вы кантактавалі з іншымі свіннямі — забарона на ўваход на ферму на два дні. Уваход у свінарнік — толькі праз душ», — кажа Працько.

Але адпаведныя папераджальныя меры не заўсёды спрацоўваюць. А на выпадак крызісных сітуацый, ці то будзе прарыў трубы, ці нейкая яшчэ свіная чума ці грып, забудоўшчыкі цвердзяць: «Гэтага не адбудзецца, таму што не можа адбыцца ніколі». Дастаткова слабая і непераканаўчая аргументацыя.



Георгій Каржанеўскі: «У некалькіх вёсках і бліжэйшых рэчках пачала знікаць вада — спусцелі калодзежы». Паводле ягонага меркавання, пры бурэнні свідравін для будаўніцтва свінакомплекса СТАА «Данпрод» недзе перабілі ваданосную жылу



Свінакомплекс будуецца ў месцы, дзе бяруць пачатак некалькі буйных рэк, у іх ліку Іслач. У непасрэднай блізасці ад свінакомплексу — рэчка Яршоўка, па якой праходзяць экалагічныя экскурсіі. Будаўніцтва часткова альбо цалкам закранае вёскі Даўгулёўшчына з прылеглымі хутарамі, Канюшэўшчына, Макрычаўшчына, Лайкаўшчына, Сугвозды, Пугачы, Ласаўкіна, Цябуты. У зону экалагічнай небяспекі таксама трапляюць Пяршаі, Доры, Сямернікі, іншыя вёскі.



Лагуны — кар'еры-катлаваны пад адкрытым небам. Па словах Георгія Каржанеўскага, ніякім чынам бетанавацца або неяк умацоўвацца яны не будуць. «Гэта проста яміны, якія потым будуць засланыя плёнкай, і сюды будуць зліваць гной. Тут ён будзе пэўны час адстойвацца, брадзіць, потым яго будуць вывозіць і раскідваць па палях», — тлумачыць ён. Лагуны чамусьці разлічаныя на аб'ём у 80 тысяч кубаметраў на год. Адкідаў жа, па падліках Каржанеўскага, будзе больш за 300 тысяч тон. Праекціроўшчыкі памыліліся разы ў чатыры. Лішак угнаенняў прывядзе да немінучага засалення грунтовых водаў.

## Заўвагі грамадзян — побаку

Абмеркаванне ацэнкі ўздзеяння на навакольнае асяроддзе прайшло 1 верасня 2012 года. У гэты дзень людзі, вядома, занятыя — адпраўляюць дзяцей у школу. Таму на абмеркаванні прысутнічалі толькі дзевяць чалавек з ліку зацікаўленых асобаў. Але і на іх пытанні шмат адказаў не прагучала.

Вельмі паказальныя адказы на той момант дырэктаркі «Данпроду» Юліі Швед. На пытанне, чаму народ не паставілі ў вядомасць, што тут будзе будавацца свінаферма, і ці пагадзілася б яна набыць тут дом, калі б пра ферму ведала, Швед адказала: «Пэўна, не. Але набыццё дома і пабудова фермы не ўзаемазвязаныя».

У такім рэчышчы былі і астатнія адказы. Прыкладам, на пытанне, чаму было выбрана месца ў непасрэднай блізкасці ад Налібоцкай пушчы, Швед адказвае: «Гэтае месца найбольш падыходзячае». На пытанне, ці не падводзіць свінаферма ў выпадку чаго да экалагічнай катастрофы Налібоцкую пушчу, начальнік аддзелу комплекснага праектавання «Брэстбудпраект» Сяргей Дзернін пераконваў: «Катастрофы не будзе!» Не ўдакладніўшы, канешне, чаму ён так упэўнены. Той жа Дзернін пагаджаецца, што па «тэорыі і нарматывах» аб'ём сцёкаў у лагуны сапраўды павінен быць у раёне 300–450 тысяч кубаметраў, але лагуны праектаваліся ў аб'ёме 80 тысяч «кубоў» «з практыкі па дзейснаму прадпрыемству».

Між іншым, старшыня пасяджэння, намеснік старшыні Валожынскага райвыканкама Іосіф Ляшкевіч некаторыя пытанні прысутных акцэнтаваў з занясеннем у пратакол. Такімі пытаннямі былі ўстаноўка біягазавага абсталявання, пытанні забруджвання рэчак і іншыя. Нават разглядалася магчымасць, пры адмоўным рашэнні экалагічнай экспертызы, зменшыць свінаферму да 25 тысяч галоў.

АУНА прайшло. Пытанні людзей выслухалі, але… не пачулі. Як кажа Супрановіч, нягледзячы на ўсе намаганні, пакуль яму не ўдалося атрымаць вынікі канчатковай экалагічнай экспертызы гэтага праекта. То бок, немагчыма паглядзець, ці былі ўнесеныя ў праект будаўніцтва змены і дапаўненні, якія патрабавалі грамадзяне. А будоўля тым часам ідзе.

## Ці есці нам свініну?

Свінакомплекс «Данпрод» — гэта не праблема мясцовага маштабу. Бо ён закранае менавіта нацыянальны набытак — Налібоцкую пушчу, экалагічна-турыстычныя маршруты. У той час, калі краіна хуткімі тэмпамі развівае агратурызм і экатурызм, калі такія туры ўсё больш і больш заваёўваюць папулярнасць, «Данпродаўскі» свінакомплекс, самы буйны ў Беларусі, робіць непрыдатнай і непрывабнай цудоўнае месца — «Карону Іслачы».

Недалёка ад плануемага свінакомплекса ёсць выдатная аграсядзіба Людмілы і Алеся Белых «Марцінова Гусь» (вёска Малая Люцынка). Для якаснага адпачынку туды трэба завітаць у кампаніі 7–8 чалавек. Бо «Марцінова Гусь» — яшчэ і своеасаблівая творчая лабараторыя, у якой вяртаюцца да жыцця гастранамічныя традыцыі Вялікага Княства Літоўскага. Алесь Белы — аўтар і рэдактар шматлікіх публікацый, прысвечаных гісторыі традыцыйных беларускіх страў і прадуктаў, у тым ліку кнігі «Наша страва» і Энцыклапедыі беларускай кулінарыі.

У ваколіцах Малой Люцынкі ствараецца экамузей «Брама ў Налібокі», а таксама размечаная велатраса даўжынёй у 20 кіламетраў. Яна пралягае праз былую сядзібу Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, руіны палаца і фоталабараторыі Бенядзікта Тышкевіча, піянера айчыннай фатаграфіі, і многія іншыя цікавыя месцы.

На рэчцы Яршоўка праходзіць «Зялёны маршрут» і ёсць аграсядзіба «Барок», гаспадар якой — вядомы майстар народных інструментаў Алесь Лось, і побач жа — аграсядзіба «Свет пчолаў».

Гэты край проста створаны для экатурызму. Будаваць тут самы буйны свінакомплекс у краіне — не лепшая ідэя. Па максімуме, яго б трэба было пераносіць. Але зараз тут хаця б магчыма было паставіць біягазавую ўстаноўку. Справа, канешне, нятанная, але не вельмі ж балючая для таго, каб прыгажосць гэтых мясцінаў не знікла. А свінакомплекс у гэтым выпадку будзе называцца «передавым экалагічным прадпрыемствам»?

Ну каму ад гэтага будзе кепска?



СВК «Пяршаі»



НАШЫ СУСЕДЗІ

# ДЭМАКРАТЫЯ — НЕ МЕНЮ Ў РЭСТАРАЦЫІ

Вольга ХВОІН

**У Беларусі праваабаронца ўстойліва асацыюецца з каляпалітычнай тэматыкай: палітвязні, рэпрэсіі, парушэнні закону, смяротнае пакаранне. У суседняй Латвіі праваабаронцы больш займаюцца іншымі пытаннямі. Але гэта не значыць, што працы ім не хапае. Кіраўніца Латвійскага цэнтра па правах чалавека Анхеліта Каменска падзялілася з чытачамі НЧ сваім поглядам на латышскія праблемы.**



Анхеліта Каменска

## Мова: дзяржаўная і руская

Часам патрабаванні да ведання латышскай мовы ў нас несувымерныя. Напрыклад, для прыбіральшчыцы ці цырульніка. Насамрэч, не важна ж, на якой мове гаворыць майстар, галоўнае — добрая праца. Людзей не прымусіш адміністратыўнымі метадамі вывучыць мову, хутчэй, будзе супрацьстаянне. Патрабаваць ведання латышскай мовы — легітымна, але самі метады... У Еўрапейскім саюзе ёсць тры дзяржавы, дзе самы высокі ўзровень ведання дзвюх моваў: Люксембург, Славакія, Латвія. У Латвіі руская мова заўсёды будзе займаць адметнае месца. Калі цяпер гавораць пра нашу моўную праблему, то не звяртаюць увагу на колькасць тых, хто вывучыў латышскую. У 1989 годзе 80% нацыянальных меншасцяў не гаварылі па-латышску. Цяпер такіх засталося 10%.

Прысваенне рускай мове статусу замежнай было недальнабачнасцю. Руская мова не з'яўляецца і не можа быць замежнай. Замежная — гэта мова, якую вы вучыце і ў якой у дадзенай краіне няма асяроддзя, у рускай мовы ў Латвіі асяроддзе ёсць.

Галоўнае ў латвійскай сітуацыі — зразумець, што групы меншасцяў не маналітныя. Рускія розныя, як і латышы. І спрэчныя пытанні, адпаведна, па-рознаму ўспрымаюцца. Цяпер у нас многа змяшаных шлюбаў — прыкладна траціна, а ў Эстоніі толькі 3%. Часта людзі незадаволена бурчаць, але ім варта было б з'ездзіць у іншыя постсавецкія краіны і паглядзець, што адбываецца там. Мы ўсе пачыналі прыкладна з аднолькавай адзнакі, і не ўсе разумеюць, якімі тэмпамі мы пражылі апошнія пятнаццаць гадоў.

Цяпер, я мяркую, у нас ёсць праблема існавання ў дзвюх інфармацыйных прасторах адначасова: латышскай і расійскай. Форма падачы інфармацыі ў апошняй вызначаецца лабіраваннем расійскіх інтарэсаў. Гэта ўплывае на светапогляд людзей.

## Уцекачы не абіраюць Латвію

Пенітэнцыярная сістэма Латвіі ў многім ёсць яшчэ спадчыннасцю савецкага часу. Я наведала ўсе следчыя ізалятары Латвіі, турмы. Я была прадстаўніком Латвіі ў Камітэце па папярэджанні катаванняў пры Савеце Еўропы. У нас няшмат хто хоча займацца гэтай тэмай, ды і ўвогуле ў галіне правоў чалавека працуе нямнога людзей. Часта праваабарончыя арганізацыі маюць вузкую скіраванасць, напрыклад, працуюць з дзецьмі.

Мы маем магчымасць наведвання закрытых месцаў утрымання ўцекачоў. Цяпер там прымальныя ўмовы, а гады два таму былі жахлівыя. Да слова, у Латвіі гэтае пытанне востра не стаіць. За апошнія трынаццаць гадоў было каля васьмісот прашэнняў аб наданні статусу ўцекача, і толькі каля ста з іх было задаволена. У той жа час некаторыя краіны штогод разглядаюць блізу пацідзесяці тысяч такіх спраў!

Я думаю, што цяпер у нас адна з самых вялікіх праблемаў — карупцыя. У краіне працуе бюро па папярэджанні карупцыі, сядзяць у турме за хабар і чыноўнікі, і суддзі. Мы назіраем зрошчванне палітыкі і бізнэсу.

## Амбудсмен

Важна, каб інстытуту амбудсмена была гарантаваная незалежнасць, у тым ліку фінансавая, права заканадаўчай ініцыятывы, упэўненасць, што за крытыку дзеянняў прэзідэнта ён не адправіцца ў турму. У нас ёсць праблема ў персонах амбудсмена. Гэты чалавек мусіць мець аўтарытэт, ведаць сучасную юрыспрудэнцыю.

Нашым першым амбудсменам быў былы старшыня канстытуцыйнага суду. Чалавек старой школы, а ў яго бюро працавалі маладыя юрысты, таму не было еднасці поглядаў. У парламенце тады працавалі многія прыяцелі амбудсмена, адпаведна, ён не быў схільны крытыкаваць палітыкаў. Быў такім незаўважным чалавекам: быццам бы ёсць, а быццам бы яго і няма.

Палітыкі ніколі не былі зацікаўленыя ва ўплывовым амбудсмене, а ў нас гэтую фігуру зацвярджае парламент. Яшчэ праблема ў тым, што гэтыя людзі не працуюць стратэгічна, то бок закранаюць пытанні, якія папулярныя ў насельніцтва: да прыкладу, тарыфы на камунальныя паслугі ці аплату падручнікаў. А пытанні еўрапейскай інтэграцыі асцерагаюцца закранаць.

## Nota Bene

Пасля 2004 года, калі наша краіна стала сябрам ЕС, з боку розных установаў адчуваецца хваля самазадаволенасці: мы патрапілі ў еўрапейскі клуб, адпавядаем стандартам. І гэта накладвае адбітак на тое ж стаўленне да рэкамендацый міжнародных арганізацый.

Напрыклад, гэта тычыцца тэмы правоў меншасцяў. Часам можна бачыць поўнае адмаўленне, рэакцыю не дарослых людзей. У чалавека выбіральная памяць: хтосьці настальгуе па савецкім часе, але забыўся пра абмежаванні асобы ў той сістэме.

У інтэграцыі з Еўрапейскім саюзам абсалютна важна звяртаць увагу на заканадаўства і незалежныя суды, адукацыю грамадзян, умацаванне эфектыўнасці дзяржаўнай службы, роўнасці магчымасцяў і гатоўнасці людзей удзельнічаць ва ўсіх тыпах працэсах. Трэба ўлічваць, што мысленне людзей хутка не мяняецца.

У нашым выпадку пазітыўную ролю адыграла моцная латышская дыяспара за мяжой — яны знаёмыя з унутранымі асаблівасцямі Латвіі і разам з тым жылі ў дэмакратычным грамадстве, таму ведаюць яго лад. Трэба імкнуцца прыцягваць сваіх былых грамадзян да супрацоўніцтва.

Калі даюцца такія еўрапейскія каштоўнасці, як свабода слова, плюралізм, то людзям трэба тлумачыць, што магчымасці пашыраюцца адначасова з абавязкамі. Гэта не як меню ў рэстарацыі, з якога абіраеш толькі тое, што падабаецца.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# СПРАВА ГАЙДУКОВА МОЖА МЕЦЬ ПРАЦЯГ

Вольга ХВОІН

**1 ліпеня будзе агучаны ў адкрытым рэжыме прысуд Андрэю Гайдукову, аператару навапалацкага НПЗ «Нафтан». Яго вінавацяць у зборы інфармацыі для замежных спецслужбаў. СМІ і праваабаронцы сочаць за справай. Але пакуль адзінкі прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці гатовыя прызнаць Гайдукова палітвязнем.**

Матэрыялы крымінальнай справы падсуднага складаюць 4 тамы. Яго вінавацяць паводле двух артыкулаў: частка 1 артыкула 14 — «Замах на злачынства», і частка 1 артыкула 356 — «Здрада дзяржаве». 23-гадоваму аператару «Нафтана» пагражае ад 7 да 15 гадоў зняволення. Справу за зачыненымі дзвярыма разглядае суддзя Галіна Урбановіч.

Старшыня КДБ Валерый Вакульчык нядаўна заявіў, што абвінавачванне можа быць перакваліфікаванае. «Не факт, што Гайдукоў пойдзе па 356-м артыкуле, — сказаў Вакульчык прадстаўнікам СМІ. — Тэрміны вынясення рашэння будзе вырашаць суд. У мяне няма сумневаў, што ўсё будзе аб'ектыўна».

Праваабаронца з Віцебску Павел Левінаў паведаміў, што атрымаў адказ ад суддзі Галіны Урбановіч на свой зварот з патрабаваннем змяніць меру стрымання Гайдукова. «Яна напісала, што ў мяне няма паўнамоцтваў звяртацца да суддзі з такім патрабаваннем, — сказаў Левінаў. — Акрамя таго, мне адказаў старшыня Віцебскага абласнога суда Мікалай Хамічонак, якому я накіроўваў маніторынг судовага працэсу над Гайдуковым, дзе паказваў на допушчаныя парушэнні правоў Гайдукова. Хамічонак паведаміў, што заканадаўствам Беларусі не прадугледжана правядзенне маніторынгаў крымінальных працэсаў, таму мае матэрыялы ён вяртае назад. Я чакаў іншай рэакцыі».



Андрэй Гайдукоў

Кіраўнік арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак мяркуе, што справа супраць Гайдукова зразумелая з пазіцыі матыву, таму праваабаронцам варта было б прыйсці да агульнай ацэнкі.

Волчак распавёў, што ён разам з калегамі азнаёміўся з гісторыяй грамадскай дзейнасці Андрэя, які раней браў удзел у палітычных акцыях. «Да Гайдукова ўжо была ўвага з боку КДБ. Хлопцы хацелі стварыць міжнародную арганізацыю з прыцягненнем людзей з Расіі, Польшчы, Украіны. За гэты кірунак акурат і адказваў Гайдукоў. Я падкрэслю: гэтая арганізацыя не мела радыкальных ідэй. Ніякімі сакрэтнымі дадзеным па Наваполацкім НПЗ хлопец не валодаў. Але ён меў праект, які хацеў адправіць у амерыканскае пасольства на падтрымку — ёсць галосная праграма падтрымкі малых грантаў. Яго і перахапілі ўлады, і, відаць, пабачылі нейкую пагрозу для сябе. Калі Гайдукоў сапраўды шпіён, то мусіла б быць рэакцыя ў дачыненні да дыпламатаў краіны, на якую ён быццам бы працаваў. Але нічога такога мы не заўважылі, а справа праходзіць у закрытым рэжыме», — гаворыць праваабаронца.

Алег Волчак падкрэслівае, што з адкрытай інфармацыі вынікае — складу злачынства «здрада Радзіме», заклікаў да руйнавання канстытуцыйнага строю не было. Таму, верагодна, справы могуць перакваліфікаваць на «дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь».

«Калі грамадзянская супольнасць будзе чакаць, не займаць цвёрдай пазіцыі ў гэтай справе, то ў выніку можна атрымаць сітуацыю, падобную да той, што была з судом над старшынёй «Маладога фронту» Дзмітрыем Дашкевічам і яго паплечнікам Эдуардам Лобавым, калі супраць іх сведчылі невядомыя асобы з закрытага пакою. Гэта важная для ўсіх справа: Гайдукоў усяго толькі падаў праект на разгляд у пасольства. Недзяржаўныя арганізацыі часта падаюць заяўкі, праекты ў міжнародныя фонды для падтрымкі. Гэты выпадак могуць пазней выкарыстоўваць супраць іншых арганізацый. Плюс гэта добрая магчымасць запалохаць моладзевыя арганізацыі перад прэзідэнцкімі выбарамі. З намі ў ацэнцы судовага працэсу над Андрэем Гайдуковым салідарны шэраг грамадскіх ініцыятыў, але праваабарончыя арганізацыі пакуль трымаюць паўзу», — адзначае праваабаронца Алег Волчак.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 1 ЛІПЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.00** Ваенная драма «Свае» (Расія).
**12.10** Парадыйнае шоў (Расія).
**13.20** Журналісцкае расследаванне.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**16.00** «Усё як мае быць!».
**16.25** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.20** Тэлефільмы «Сімвал Перамогі».
**19.20** Адмысловы рэпартаж АТН.
**19.40, 00.20** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Земскі доктар. Працяг».
**21.00** Панарама.
**21.45** Урачысты сход і святочны канцэрт, прысвечаныя Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дню Рэспублікі).
**23.25** Вайсковы дэтэктыў «Апостал» (Расія).
**00.55** Дзень спорту.

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Жаночы доктар 2». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.05** «Модны прысуд».
**15.00** «Шальныя грошы».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.50** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Ліст чакання».
**22.15** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**00.25** «Вячэрні Ургант».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень».
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** «Глядзець усім!».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг». Новы сезон.
**15.45** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Ашуканыя навукай».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Масакра». Беларусь, 2010г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Фільм «У чэрвені 41-га». Расія - Беларусь, 2008г.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прыгодніцкі баявік «Снайпер. Зброя адплаты» (Беларусь-Расія). 1-я серыя.
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе» (Аўстралія).
**11.20** Музычная камедыя «Не можа быць!» (СССР).
**13.15** Тэніс. Уімблдон. Агляд.
**14.25** Пад грыфам «Вядомыя».
**15.00** Меладрама «Рэпетытар».
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**20.25** «1812. Ад Нёмана да Нёмана». Відэафільм (Беларусь).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Трагікамедыя «Унук касманаўта» (Расія).
**23.10** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе» (Аўстралія).
**23.45** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**13.00** «Справа Х. Следства працягваецца».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.50** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Тэлесерыял «Агент».
**22.40** Тэлесерыял «Самара».
**23.40** Навіны - Беларусь.
**23.50** «Пацалуйце нявесту!». Тэлесерыял.
**00.45** Вынікі. «Падарваць мірна. Атамны рамантызм».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.05** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** Баявік «Брацэнікі».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Кодэкс гонару».
**21.20** Вострасюжэтны серыял «Ментоўскія войны».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Прэм'ера. Серыял «Сцервы».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Галоўныя ролі».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Дземідавы».
**11.45** «Агульны рынак».
**12.25** Т/с «Суд».
**14.00** «Злачынствы і пакаранне».
**14.30** «Агульны інтарэс».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.50** Т/с «Закон і парадак. Аддзел аператыўных расследаванняў».
**20.30** «Партызанскі край».
**21.25, 05.25** «Свет спорту».
**21.55, 03.40** Д/ф «У свеце сакрэтных вераў».
**23.35** Т/с «Кромъ».
**01.25** «Зроблена ў СССР».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Размовы эксперта.
**07.15** Побач з намі.
**07.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**07.45** Без рэтушы: «Свае і чужынцы», рэпартаж, 2009 г., Польшча.
**08.05** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 4 серыя.
**08.35** «Паўднёвыя Курылы. Выспы забытых», дак. фільм, 1997 г., Польшча–Германія.
**09.30** «Прафесія «кат»», дак. фільм, 2001 г., Францыя.
**10.30** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**11.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 5 серыя.
**17.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Час гонару», серыял: 41 серыя.
**18.50** Еўропа сёння.
**19.20** Невядомая Беларусь: «Найвышэйшая мера», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**20.05** Хто ёсць кім?: «Станіслаў Шушкевіч».
**20.20** Два на два (тэледыскусія).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** Побач з намі.
**22.15** Фільматэка майстроў: «Рыса», маст. фільм, 2008 г., Польшча.
**23.45** Лета з дэтэктывам: «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 9 серыя.
**00.40** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).

## 2 ЛІПЕНЯ, АЎТОРАК

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.45** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.10** Серыял «Добры дзень, мама!».
**10.05** Серыял «Земскі доктар. Працяг».
**12.10** Парадыйнае шоў (Расія).
**13.15** Адмысловы рэпартаж АТН.
**13.35** Дакументальны серыял «Паміж мірам і вайной» (Беларусь).
**13.45** Вайсковы дэтэктыў «Апостал» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Мужчына ўнутры мяне».
**16.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**17.20** Тэлефільмы «Сімвал Перамогі».
**19.00** Панарама.
**19.45** Тэлефільм АТН «Нацыянальная трылогія: Гімн. Герб. Сцяг».
**20.25** Урачыстае адкрыццё Плошчы Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**22.00** Вайсковы дэтэктыў «Апостал» (Расія). Заключная серыя.
**23.10** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.30** Гераічная камедыя «Нябесны ціхаход» (СССР).
**00.55** Серыял «Мужчына ўнутры мяне».

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Жаночы доктар 2». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.05** «Модны прысуд».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Ліст чакання».
**23.20** Прэм'ера. Фільм «Мяне завуць Хан».
**01.55** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Меншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Чыстая праца».
**09.45** «Такі лёс».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Масакра». Беларусь, 2010г.
**15.45** «Дзіўная справа».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Меншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.25** Урачыстае адкрыццё плошчы Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Фільм «Белыя росы». СССР, 1983г.
**00.40** «Аўтапанарама». Адмысловы выпуск.
**01.00** Фільм «Рыфмуецца з каханнем». Беларусь, 2006г.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прыгодніцкі баявік «Снайпер. Зброя адплаты» (Беларусь-Расія). 2-я серыя.
**10.10** Вышэй за дах.
**10.45** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе» (Аўстралія).
**11.25** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.20** Тэніс. Уімблдон. Агляд.
**13.35** Трагікамедыя «Унук касманаўта» (Расія).
**15.20** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**20.25** Урачыстае адкрыццё Плошчы Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**22.00** КЕНО.
**22.05** Тэлебарометр.
**22.10** Футбол. Чэмпіянат свету U-20. 1/8 фіналу.
**00.10** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Адмысловы выпадак».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Раскол».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.50** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Тэлесерыял «Агент».
**22.40** Тэлесерыял «Самара».
**23.40** Навіны - Беларусь.
**23.50** «Пацалуйце нявесту!». Тэлесерыял.
**00.45** «Асуджаныя на «Оскар».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.10** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** Баявік «Брацэнікі».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Кодэкс гонару».
**21.20** Вострасюжэтны серыял «Ментоўскія войны».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Прэм'ера. Серыял «Сцервы».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Галоўныя ролі».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Звон сыходзячага лета».
**11.30, 20.30** «Партызанскі край».
**12.25** Т/с «Суд».
**14.00** «Сакрэтныя матэрыялы».
**14.30** «Незорнае дзяцінства».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.50** Т/с «Закон і парадак. Аддзел аператыўных расследаванняў».
**21.25, 05.25** «Саюзнікі».
**21.55, 03.40** Д/ф «У свеце сакрэтных вераў».
**23.35** Т/с «Кромъ».
**01.25** «Усюды жыццё».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** Два на два (тэледыскусія).
**08.25** Фільматэка майстроў: «У Бога за мяжою», камедыя, 2009 г., Польшча.
**10.15** Хто ёсць кім?: «Станіслаў Шушкевіч».
**10.35** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**11.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Між намі, бусламі», анімацыйны серыял для дзяцей: 5 серыя.
**17.25** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 9 серыя.
**17.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Найвярнейшы жаўнер Гітлера».
**18.50** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.20** Невядомая Беларусь: «Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**20.05** «Дзеці сонца», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**20.15** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.15** «Доктар Марцін», серыял: 26 серыя.
**23.05** «Малая Масква», серыял: 4 серыя.
**23.55** Лета з дэтэктывам: «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 10 серыя.
**00.50** Аб'ектыў.
**01.15** Студыя «Белсат».

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 3 ЛІПЕНЯ, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.45** Ваенная драма «Вам - заданне» («Беларусьфільм»).
**08.00** Дак. фільм «Георгій Жукаў. Вайна і мір маршала Перамогі» («Беларусьфільм»).
**08.35** Кінааповесць «Беларускі вакзал» (СССР).
**09.00, 10.00, 13.00, 15.00, 17.00** Навіны.
**10.50** Парад, прысвечаны Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дню Рэспублікі). Прамая трансляцыя.
**12.20, 14.30, 17.20** Тэлефільм АТН «Сімвал Перамогі».
**12.45** Гераічная камедыя «Нябесны ціхаход» (СССР).
**15.20** Народная камедыя «Белыя Росы» («Беларусьфільм»).
**17.50** Вайсковы дэтэктыў «У жніўні 44-га» (Расія-Беларусь).
**20.00** «Панарама». Інфармацыйны канал.
**21.00** Парад, прысвечаны Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дню Рэспублікі). Тэлеверсія.
**22.30** Ваенная драма «Белы тыгр» (Расія).
**00.15** Ваенная драма «Вам - заданне» («Беларусьфільм»).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Фільм «Альпійская балада».
**10.50** Вайсковы парад, прысвечаны Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дню Рэспублікі). Прамая трансляцыя.
**12.20** Шматсер. фільм «Трэцяга не дадзена».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Фільм «Пяць нявест».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Фільм «Пяць нявест». Працяг.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** АНТ прадстаўляе: Гала-канцэрт «Квітней, мая Беларусь!». Прамая трансляцыя.

### ТВ

**06.45** «Паўсталы з попелу». Хранікальна-публіцыстычны фільм.
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «Прошаная вячэра».
**08.25** Фільм «Дзяўчынка шукае бацьку». СССР, 1959г.
**10.00** «Мінск і мінчане».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.50** Вайсковы парад, прысвечаны Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дню Рэспублікі). Прамая трансляцыя.
**12.20** «Аўтапанарама». Адмысловы выпуск.
**12.40** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Вайна. Вядомая і невядомая». Аб'ектыўная вайна.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Белыя росы». СССР, 1983г.
**15.30** «Прошаная вячэра».
**16.30** «24 гадзіны».
**17.00** Фільм «Глыбокая плынь». Беларусь, 2005г.
**18.40** СТБ прадстаўляе: «Незалежная Беларусь: учора, сёння, заўтра». Відэафільм.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.20** Фільм «Трамвай у Парыж». Беларусь, 2010г. (Пачатак фільма).
**21.00** Вайсковы парад, прысвечаны Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дню Рэспублікі). Тэлевізійная версія.
**22.30** «24 гадзіны».
**23.15** Фільм «Трамвай у Парыж». Беларусь, 2010г. (Працяг фільма).
**00.40** Фільм «Ваўкі». Беларусь, 2009г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Два маэстра. Вяртанне легенды». Музычны канцэрт (Расія).
**08.50** Тэлебарометр.
**08.55** Ваенная драма «Рыярыта» (Расія).
**10.50** Вайсковы парад, прысвечаны Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дню Рэспублікі). Прамая трансляцыя.
**12.20** «Беларускі Севастопаль». Дакументальны фільм (Беларусь).
**12.35** Прыгодніцкі баявік «Белае сонца пустэльні» (СССР).
**14.15** Тэніс. Уімблдон. Агляд.
**15.10** Франтавая драма «Вышыня 89» (Расія).
**17.15** Фантастычная камедыя «Дом з прыколамі» (ЗША).
**19.05** «Два маэстра. Вяртанне легенды». Музычны канцэрт (Расія).
**20.50** Тэлебарометр.
**20.55** Футбол. Чэмпіянат свету U-20. 1/8 фіналу. Прамая трансляцыя. У перапынку. 21.35 «Спортлато 5 з 36», «КЕНО».
**22.55** Фантастычны баявік «13-ы ваяр» (ЗША).

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Адмысловы выпадак».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Раскол».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.50** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Тэлесерыял «Агент».
**22.40** Тэлесерыял «Самара».
**23.40** Навіны - Беларусь.
**23.50** «Пацалуйце нявесту!». Тэлесерыял.
**00.45** «Чырвоная Месаліна. Дэкрэт аб сэксе».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.10** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** Баявік «Брацsenікі».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Баявік «Кодэкс гонару».
**21.20** Мастацкі фільм «Рабінавы вальс».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Прэм'ера. Серыял «Сцервы».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Галоўны ролі».
**09.00, 10.55, 12.30, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Пасля кірмаша».
**10.30, 01.10** «Даведнік».
**11.00** Парад і шэсце, прысвечаныя Дню Незалежнасці рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**12.35** Т/с «Суд».
**14.00** «Саюзнікі».
**14.30** «Беларусь сёння».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.35** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.35** Т/с «Закон і парадак. Аддзел аператыўных расследаванняў».
**20.30** «Партызанскі край».
**21.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**21.55, 03.20** Д/ф «Эпоха. Падзеі і людзі».
**23.25** Т/с «Кромъ».
**05.00** «Цыркі Расіі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**08.15** «Доктар Марцін», серыял: 26 серыя.
**09.05** «Малая Масква», серыял: 4 серыя.
**09.50** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.45** Невядомая Беларусь: «Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**11.20** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**11.50** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Найвярнейшы жаўнер Гітлера».
**12.35** «Беларуская мара», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**13.35** МакраФон: «Рок па вакацыях–1996», канцэрт з удзелам Лявона Вольскага, Касі Камоцкай, гурта «Крама» ды інш.
**14.25** «Мой Нікіфар», маст. фільм, 2004 г., Польшча.
**16.00** «Паход вызвалялнікаў», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Букаландыя», мультсерыял для дзяцей: 1 серыя.
**17.30** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 10 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 5 серыя.
**18.50** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.20** Невядомая Беларусь: «Менскае падполле. Героі і мярзотнікі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**20.00** Без рэтушы: «Быць беларусам, быць аптымістам», рэпартаж.
**20.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**21.40** «Глыбокая вада», серыял: 4 серыя.
**22.25** «Золата дэзерціраў», маст. фільм, 1998 г., Польшча.
**00.25** Лета з дэтэктывам: «Пітбуль», серыял: 9 серыя.
**01.15** Аб'ектыў.

## 4 ЛІПЕНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**10.10** Кінааповесць «Беларускі вакзал» (СССР).
**12.10** Народная камедыя «Белыя Росы» («Беларусьфільм»).
**13.50** Вайсковы дэтэктыў «Апостал» (Расія). Заключная серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Тэлефільм АТН «Нацыянальная трылогія: Гімн. Герб. Сцяг».
**16.05** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**17.05** Каробка перадач.
**17.40** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.20** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**21.00** Панарама.
**22.00** Драма «Гонар сям'і Прыцы» (ЗША).
**00.55** Дзень спорту.
**01.10** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Жаночы доктар 2». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.05** «Модны прысуд».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Ліст чакання».
**23.20** Камедыя «Мужчынскі стрыптыз».
**01.00** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** СТБ прадстаўляе: «Незалежная Беларусь: учора, сёння, заўтра». Відэафільм.
**09.45** «Нам і не снілася».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Трамвай у Парыж». Беларусь, 2010 г.



**15.45** «Якія людзі!».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Чаклун і Румба». Беларусь, 2007 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** Фільм «Шчыт Айчыны». Беларусь, 2007 г.
**01.45** «Дакументальны праект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прыгодніцкі баявік «Снайпер. Зброя адплаты» (Беларусь-Расія). 3-я серыя.
**10.25** Цела чалавека.
**11.00** Прыгодніцкі баявік «Белае сонца пустэльні» (СССР).
**12.40** Тэніс. Уімблдон. Агляд.
**13.35** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**15.00** Тэніс. Уімблдон. Жанчыны. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**17.00** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Тэніс. Уімблдон. Жанчыны. Паўфінал.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.45** Мастацкі фільм.
**23.20** Час футболу.
**00.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Адмысловы выпадак».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Раскол».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.50** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Тэлесерыял «Агент».
**22.40** Тэлесерыял «Самара».
**23.40** Навіны - Беларусь.
**23.50** «Пацалуйце нявесту!». Тэлесерыял.
**00.45** «Закладніцы. Маршальскія жонкі».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** Баявік «Брацenікі».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Кодэкс гонару».
**21.20** Вострасюжэтны серыял «Ментоўскія войны».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Прэм'ера. Серыял «Сцервы».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Галоўны ролі».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «За ўсё ў адказе».
**11.30, 20.30** «Партызанскі край».
**12.25** М/ф «Забаржад».
**14.15** «Кыргызстан у асобах».
**14.30, 01.25** «Дыяспары».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.50** Т/с «Закон і парадак. Аддзел аператыўных расследаванняў».
**21.25, 05.25** «Беларусь сёння».
**21.55** Д/ф «У свеце каменных джунгляў».
**23.35** Т/ з «Кромъ».
**03.30** У свеце каменных джунгляў. фільм.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** «Золата дэзерціраў», маст. фільм, 1998 г., Польшча.
**09.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**09.55** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 9 серыя.
**17.30** «100 хвілін вакацыяў», тэлесерыял: 5 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Праведнікі», тэлесерыял: 5 серыя.
**18.50** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.20** Невядомая Беларусь: «Код прысутнасці», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак».
**20.00** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.10** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**22.15** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 9 серыя.
**23.00** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Партызанская школа», дак. фільм, 2002 г., Польшча.
**23.30** Лета з дэтэктывам: «Пітбуль», серыял: 10 серыя.
**00.20** Аб'ектыў.
**01.05** Студыя «Белсат».

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №6 (82)
(чэрвень)

www.lit-bel.org www.novychas.info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


Анонс



**ПАМЯЦЬ**

# «ЕВАНГЕЛЛЕ АД БЫКАВА»

Дзесяць гадоў таму — 22 чэрвеня — спачыў у вечнасці Васіль Быкаў, сумленне і гонар Беларусі. З таго дня сплыло шмат вады ў рацэ Лета, але галоўныя пытанні, якія непакоілі Васіля Быкава — грамадзяніна і творцу — засталіся нязменнымі.

Увесь чэрвень у эфіры «Радыё Свабода» сябры, чытачы, даследчыкі творчасці Васіля Быкава разважалі пра тое, што са спадчыны народнага пісьменніка найбольш важнае сёння. «ЛБ» падае ніжэй некаторыя з тых прызнанняў. А на старонках 8–9 дадатка змяшчае паэму «Празорца», прысвечаную Васілю Уладзіміравічу…



Фота з архіва В. Быкава

Духоўнае ўздзеянне быкаўскіх твораў сёння перакрочвае межы літаратуры і набліжаецца да іншых сфераў духоўнага жыцця: кіно, псіхатэрапіі, рэлігіі...

**Генадзь Бураўкін:**

«Для мяне Васіль Быкаў паранейшаму жывы. Ён часта прыходзіць да мяне, хоць і ў сне, засяроджаны і ўсмешлівы, маўклівы і самотны. Я і сёння раз-пораз азіраюся на яго ў нашым сумятлівым і жорсткім жыцці, і з часам ён не аддаляецца, а наадварот, набліжаецца да мяне, пазбаўляючыся выпадковай бытавой драбязы і ўсё больш набываючы мудрасці і мужнасці, відавочна робячыся ўзорам і настаўнікам.

Што ж галоўнае бачыцца мне ў жыцці і творчасці Быкава? Перш за ўсё — ягоны яркі талент і самаахвярнае служэнне праўдзе. Менавіта гэтыя яго якасці вымушалі ў савецкі час самых высокіх чыноўнікаў аддаваць яму, нязручнаму і не любімаму, афіцыйныя знакі дзяржаўнай увагі. Менавіта яны ў нашы дні прымушаюць яшчэ больш прымітыўных і нахабных палітычных дзялкоў мірыцца з тым, што выходзяць, хай і зусім не часта, ягоныя кнігі, здымаюцца, хай і не ў Мінску, мастацкія фільмы па ягоных аповесцях…

І яшчэ адну істотную рысу характару і паводзінаў Васіля Быкава хачу абавязкова адзначыць: надзвычайную чалавечую годнасць. Ён падкрэслена спакойна і цярпліва прымаў і незаслужаную аглабельную крытыку сваіх твораў, і бляск шчодрых узнагарод, якімі крамлёўскія кіраўнікі ў апошнія гады свайго валадарання нібы спрабавалі адкупіцца перад ім за шматгадовую несправядлівасць і адкрыты пераслед. Ох, як не хапае быкаўскай годнасці многім сённяшнім літаратарам і палітыкам!

І ўжо зусім асабістае. Васіль быў рэдкім па шчырасці і вернасці сябрам. І ў хвіліны радасці, і ў хвіліны адчаю ён ніколі не забываў патэлефанаваць ці напісаць, і спагада і дабрыня ягоныя былі такімі натуральнымі і простымі, што самі сабою супакойвалі душу…

Так што Васіль Быкаў для мяне — жывы, неабходны, абавязковы і для гісторыі роднай Беларусі, і для яе цяперашняга часу, і для будучыні. І трэба часцей успамінаць яго, азірацца на яго, вучыцца ў яго».

**Сяргей Законнікаў:**

«Васіль Быкаў падкрэсліваў, што лёс кожнай кнігі залежыць ад таго, колькі ў ёй закладзена ад праўды народнага жыцця. Яго творчасць мае выразна беларускія нацыянальныя карані, аблічча, душу, і разам з тым сваёй духоўнай напоўненасцю, маральным максімалізмам і актыўным гуманізмам яна ўліваецца ў плынь агульначалавечай літаратуры і культуры…

Уплыў творчасці Васіля Уладзіміравіча на сучасную літаратуру значны. Галоўным застаюцца ключавыя словы, якія вельмі былі важныя для Васіля Уладзіміравіча, — гэта праўда, ісціна і выбар. Гэта і ёсць знакавыя, галоўныя, ключавыя словы для таго, каб адкрыць творчасць Быкава і зразумець яго як чалавека і як пісьменніка.

Якраз у гады таталітарызму, пра які мы сёння забываем, з аднаго боку, а з другога — упадаем у яго новую эру, і, я б сказаў, эру цынізму і хлусні, Быкаў паказаў праблемы, з якіх складаецца цэлая эпоха...

Для мяне ён са сваёй такой сумнай усмешкай застаецца ідэалам чалавека, які добра ведае цану жыцця і смерці і таму адстойвае гэтае жыццё з усімі яго бедамі, слязьмі, радасцю».

**Данута Бічэль:**

«Чытаць Быкава было цяжка, але гэта было дзякуючы ягонаму магічнаму стылю. Ён זацягваў чытача сваім залішне спакойным апавяданнем, нагляданнем збоку, што нельга было адарваціа ад тэкста. Прыходзіла нешта новае, створанае ім, і прыходзіў канец нармальнаму жыццю — ні есці, ні піць, ні працаваць, пакуль не прачытаеш. І потым ходзіш у нейкім чадзе, пакуль не вылезеш з гэтага. Сам аўтар як бы заставаўся непрысутным. Было толькі тое, што ён прыпаднёс. А прыпадносіў тое, што сам перажыў, перабачыў, абдумаў, акуратна запакаваў у аб'ём не вялікі і не малы…

Я думаю, што ў быкаўскім палоне пэўны адрэзак часу пабывала нямала людзей. Нейкім чынам ён выхоўваў народ, фармаваў людскія роты і батальёны.

Ён быў у канкрэтным сваім часе, але быў як бы па-за часам, быў па-за нацыяй, але ён быў беларускім…

І, канечне, ён наперадзе. Ён — першы. І хай ён будзе».

**Уладзімір Някляеў:**

«У спадчыне Васіля Быкава няма, бадай, нічога, што сёння не было б важным для нас, але найбольш важнае ў ёй — сам Васіль Быкаў. Важная не толькі мастацкая моц ягоных твораў, але і ягоная асабістая, чалавечая вартасць. Важная быкаўская беларускасць, якая складаецца з мужнасці, прынцыповасці, непахіснасці, што ўсё разам складае характар, які ні ў чым не супадае з тым вобразам рахманага «бульбаша», якім малюе беларуса сённяшняя антыбеларуская ўлада, бо менавіта гэтакі беларус патрэбны ёй: на рахманых ваду возяць.

У цяперашній цынічнай, хамскай, пазбаўленай маралі рэчаіснасці найважныя тыя быкаўскія творы, у якіх паўстае праблема маральнага выбару, а гэта зноў жа — амаль увесь Быкаў. Гэта і ягоны Сотнікаў з аднайменнай аповесці, і Сушчэня з аповесці «У тумане», які па сумленні жыць болей не мог, а без сумлення — не захацеў. І калі нязломны Сотнікаў у нечым літаратурны, прыдуманы, дык «рахманы» Сушчэня — характар цалкам рэальны. Такі, які ён ёсць у беларуса. Да ўсяго, Сотнікава знішчаюць ворагі, а Сушчэню — праз правакацыю ворагаў — свае. Знішчэнне беларусамі беларусаў, знішчэнне саміх сябе — гэта хіба не найважнае для нас? Гэта хіба не тое, што робіцца й сёння?..

Няхай нясцерпная, але праўда — гэта ўрэшце і ёсць тое, што было самым важным для Быкава і застаецца самым важным для нас».

**Юрась Залоска:**

«У нашай культуры сёння запатрабавана самае істотнае, што ёсць у мастацкім свеце Васіля Быкава, тое, на чым гэты свет заснаваны, — гэта метафізіка і псіхалогія чалавечага выбару. Драма выбару, ад якога няма куды ўцячы. Тут Быкаў выступае як пісьменнік-чалавеказнаўца, мастак і псіхолаг гэтай драмы, якой ёсць выбар — выбар маральны, каштоўнасны, чалавечы. Выбар, які звязаны з ахвярай.

Праблематыка выбару і ахвяры яскрава відаць ужо ў першай вядомай нам са школы аповесці Быкава «Жураўліны крык». Далей яна атрымлівае распрацоўку ў працяглай сцікме твораў: «Мёртвым не баліць», «Трэцяя ракета», «Круглянскі мост», «Сотнікаў», «Дажыць да світання», «Пайсці і не вярнуцца» і іншых... Істотнае і важнае сёння быкаўскае гуманістычнае пасланне беларусам, усім чытачам яго твораў.

Духоўнае ўздзеянне быкаўскіх твораў сёння перакрочвае межы літаратуры і набліжаецца да іншых сфераў духоўнага жыцця: кіно, псіхатэрапіі, рэлігіі...

Гаючая функцыя быкаўскага радка можа быць выкарыстана як духоўны рэсурс нашымі прапаведнікамі. Напрыклад, я асабіста ў гэтым годзе ў Вялікі Пост пабудаваў два казанні ў праваслаўнай царкве на творах Быкава. Першае — на сюжэце рамана «Кар'ер», дзе істотны матыў пакаяння галоўнага героя; другое — на матэрыяле апавядання «Круты бераг ракі», дзе істотны матыў святога чакання і надзеі на сустрэчу.

Згаданая аповесць «Сотнікаў», на маё ўспрыманне, — гэта ўвогуле Евангелле ад Быкава, Евангелле разгорнутае, бо тут ёсць не проста Юда-Рыбак, але Юда, паказаны знутры, вось што важна. І паказана непазбежнасць пятлі для Юды».

## ПАЛІЦА

«КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА»

**Леанід Маракоў. Непамяркоўныя**




Непрыдуманыя, амаль дакументальныя, а шмат у чым і аўтабіяграфічныя апавяданні па часе ахопліваюць ледзь не ўсё XX стагоддзе. Напісаны яны свежым, лёгкачытэльным стылем і ў сваёй аснове маюць вострыя, дынамічныя сюжэты. Сюжэты нібы прыдуманыя самой гісторыяй, самім жыццём. Жыццём-палётам над безданню...

**Святлана Раманава. Смарагдавы рай**

Прысвечаная самым блізкім людзям (матулі і дочкам) кніга з'яўляецца спавядальна-спраўаздачнай і раскрывае перад намі тонкі сусвет духоўнай прасторы аўтара, раскрывае суплёт думак і памкненняў, скіраваных да адвечных пытанняў: самаўдасканалення, спасціжэння свету, пошуку свайго месца ў ім.

Кніга мае шэраг раздзелаў: «На ўлонні вясны», «Верлібры з пэндзлем у руцэ», «Мацярынскае слова», «Гаркавы водар хрызантэм». Цікавымі і адметнымі падаюцца ўкладзеныя ў кнігу вершы-прысвячэнні.

**Барыс Пятровіч. Спакушэнне**




У выдавецтве «Кнігазбор» пабачыла свет кніга Барыса Пятровіча «Спакушэнне», куды ўвайшлі выбраныя апавяданні, публікаваныя раней у зборніках «Ловы», «Сон між пачвар», «Фрэскі», «Шчасце БЫЦЬ…», а таксама шэсць зусім новых твораў.

Апавяданні, прадстаўленыя ў кнізе, дэманструюць розныя манеры аўтарскага пісьма: ад класічнага паслядоўнага разгортвання падзей да пошукаў у стылістыцы і разнявoленасці ў сінтаксісе. Уменне аўтара на некалькіх старонках адлюстраваць цэлае жыццё чалавека — адзнака сапраўднага майстэрства. Героі кнігі «Спакушэнне» балансуюць на мяжы розных пачуццяў: явы і сну, хаосу і гармоніі, на мяжы мінулага і будучыні, і ў гэтым якраз заключаная спакуснасць жыцця.

**Таня Скарынкіна. Всё истинная правда…**




Таня Скарынкіна — прадстаўніца расійскамоўнай паэзіі Беларусі, жыве ў Партугаліі. Родам са Смаргоні, у розны час працавала паштальёнам, ілюстратарам дзіцячых кніг, журналістам. Спрабавала сябе ў мастацкім перакладзе. Цяпер акрамя літаратуры займаецца фотакалажамі — стварае мастацкія кампазіцыі з розных на першы погляд непатрэбных рэчаў і жывёл. Прыкладам, фатаграфуе мёртвых птушак.

Паэзія для Тані — «генератар касмічных галасоў». Яе прывабнасць — у вялікай свабодзе фантазіі і самавыяўлення, у тонкіх гульнях розуму, у пошуках сябе…

**Валерый Дубоўскі. На пачатку маўчання**

Новым выданнем у бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў стаў томік вершаў Валерыя Дубоўскага «На пачатку маўчання».

Спадар Дубоўскі раней вядомы беларускай грамадзе як журналіст, кіраўнік шэрагу беларускіх перыядычных выданняў, дырэктар выдавецтва «Беларусь», цяпер выступіў у новай для сябе ролі — аўтара кнігі паэзіі. Менавіта кнігі, а не зборніка паэзіі, што падкрэслівае ў прадмове да яе мэтр айчыннай літаратуры Рыгор Барадулін: «Гэта кніга паэзіі: мяноўна кніга, а не зборнік. Бо ёсць развіццё вобразаў, задум, гутаркі і спрэчкі з часам. Валер Дубоўскі не піша вершы, рыфмаваныя радкі ці верлібры. Ён жыве паэзіяй. Думае, як падказвае паэзія…».

## ЛІПЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



23.07.1963 — Алесь Іванавіч Бельскі
27.07.1933 — Навум Якаўлевіч Гублер

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

САЮЗ

# ШКОЛА МАЛАДОГА ЛІТАРАТАРА: «ПАРАХОДЗІК СУЧАСНАСЦІ»

**На «Параходзіку сучаснасці» пажадана было з'явіцца ў сінім або паласатым, прачытаць свае творы публіцы, уклаўшыся ў тры хвіліны, і выцягнуць «білет» з імем наступнага выступоўцы.**




Такой была завяршальная вечарына сёлетняга курса Школы маладога літаратара, якая дзейнічае пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Сярод выпускнікоў — паэты, празаікі, перакладчыкі. Куратарамі Школы былі Уладзімір Някляеў, Валянцін Акудовіч, Андрэй Хадановіч і Алесь Пашкевіч. Ва ўрачыстай абстаноўцы адбылося ўручэнне 20 сертыфікатаў.

Адна з каардынатараў Школы, вядучая вечарыны Юля Цімафеева павітала ўсіх прысутных і перадала слова празаіку, старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўнаму рэдактару часопіса «Дзеяслоў» Барысу Пятровічу.

— Летась па выніках літаратурнага конкурсу «Экслібрыс» са ста ўдзельнікаў было выбрана 35 фіналістаў, у Школу маладога пісьменніка патрапілі 22 творцы. Цягам васьмі месяцаў мы спрабавалі разбурыць стэрэатып адносна таго, што навучыць пісаць немагчыма. У наступным годзе ёсць планы працягнуць Школу, але паколькі вучыліся не толькі вы, але і мы таксама, то будзе іншы, удасканалены фармат заняткаў, — адзначыў спадар Барыс у сваім звароце да выпускнікоў.

У сваіх выступах Павел Капанскі, Ганна Міхальчук, Наста Грышчук не толькі чыталі ўласныя творы, але і дзяліліся ўражаннямі ад Школы і распавядалі пра тое, што яны набылі дзякуючы сваім выкладчыкам і калегам.

Уладзімір Някляеў, куратар групы паэтаў, у віншавальным слове заўважыў:

— За Саветамі ў Саюз пісьменнікаў, як і ў Літінстытут, было немагчыма патрапіць, бо гэта было прэстыжна і прыносіла матэрыяльныя выгоды: кнігі, кватэры, машыны. А цяпер піша толькі той, хто не можа не пісаць. Таму сярод маіх семінарыстаў няма выпадковых людзей. А пра «параходзік сучаснасці» — тое праўда яшчэ з часоў Уладзіміра Маякоўскага.

Надзвычай яркімі і запамінальнымі былі чытанні Юлі Цімафеевай з лірычным эратычным вершам і Анкі Упалы з апавяданнем пра Купалу, Коласа і Караткевіча.

Выступілі Воля Чайкоўская, Кірыл Дубоўскі, Дар'я Латышава, Андрэй Касцюкевіч. Усіх выпускнікоў вельмі цёпла сустракалі гледачы — імпрэзу наведалі не меней за сорак чалавек.

Філосаф і літаратар Валянцін Акудовіч, які курыраваў маладых празаікаў, прызнаўся: «Мне з вамі было вельмі ўтульна. Я не куратарам быў, а мадэратарам — варта было проста падказваць кірунак ужо цалкам самастойным, складзеным творцам».

Адно за адным на сцэну выходзілі Дар'я Вашкевіч, Марына Варабей, Марыя Лапо, Наталля Ярмольчык, Андрэй Вылінскі, каб агучыць свае творы і атрымаць сертыфікаты. Павал Анціпаў зачытаў урывак са свайго новага рамана.

Віка Трэнас расказала пра сёлетні конкурс «Экслібрыс» імя Янкі Маўра, удзел у якім да 1 жніўня могуць прыняць аўтары да 40 гадоў, якія пішуць або малююць для дзяцей.

Прэс-сакратар СБП, а таксама партнёр конкурсу, прадстаўнік маркі Prestigio у Беларусі, прадэманстравалі галоўны прыз, які атрымае пераможца гэтай восенню — новую мадэль планшэта Prestigio MultiPad 8.0 3G Note, створаную адмыслова для журналістаў, пісьменнікаў і ўсіх тых, чыя праца звязаная са словам. Дарэчы, сайт ebooks.prestigioplaza.com — адначасна электронная бібліятэка і інтэрнэт-крама, дзе ёсць кнігі сучасных беларускіх аўтараў. Некаторыя з гэтых электронных выданняў ёсць у вольным доступе, некаторыя можна спампаваць платна.

Алесь Пашкевіч, першы намеснік старшыні ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», згадаў пра праведзеныя заняткі, на якіх разбіраліся творы класікаў беларускай літаратуры, падзякаваў наведнікам Школы за супрацу і пажадаў ім творчай свабоды.

Завяршылася вечарына чытаннямі Антона Рудака, Рамана Абрамчука, Кірыла Стасельκі, Ані Рудак, Яны Бандарчык.

# РАДА

**На чарговым пасяджэнні Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» з дакладамі аб дзейнасці выступілі старшыні абласных аддзяленняў і былі прынятыя ў арганізацыю восем новых сяброў: выдавец, паэт і журналіст Валеры Дубоўскі, публіцыст і аўтар журналісцкіх даследаванняў Валерый Каліноўскі, журналістка, аўтарка вершаў і прозы Дар'я Ліс, краязнавец і журналіст Сяргей Макарэвіч, паэтэса Святлана Раманава, літаратуразнаўца, перакладчыца і паэтэса Наталля Русецкая, празаікі Наталка Харытанюк і Аляксей Чубат.**


Фота Алены Казловай

Даклады пра дзейнасць абласных аддзяленняў СБП былі агучаныя прадстаўнікамі з Брэста (Іван Мельнічук), Магілёва (Мікола Яцкоў), Гродна (Юрый Голуб), Гомеля (Анатоль Бароўскі). Расповеды датычыліся выдання рэгіянальных альманахаў і інфармацыйных бюлетэняў, супрацоўніцтва са школамі і ўніверсітэтамі, працы з моладдзю. Старшыня Рады ГА «СБП» Барыс Пятровіч акрэсліў пытанні па Віцебскім абласным аддзяленні, якое аднаўляе сваю дзейнасць.

Пасяджэнне Рады завяршылася абмеркаваннем бягучых пытанняў грамадскай арганізацыі.

**Прэс-служба ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»**

# МАГІЛЁЎ

**На пасяджэнні Магілёўскага аддзялення ГА «СБП» Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу аб дзейнасці пісьменніцкай суполкі.**

Былі адзначаны запрашэнне сяброў аддзялення да ўдзелу ў абласным свяце паэзіі «Пісьмянкоў луг» у Касцюковічах і выхад у свет зборніка паэзіі «Святло «Святліцы»» магілёўскага гарадскага літаратурнага клуба «Святліца» пад кіраўніцтвам сябра СБП Тамары Аўсяннікавай.

Літаратары былі таксама праінфармаваны аб выніках пасяджэння Рады СБП, на якой кіраўнікі абласных аддзяленняў рабілі справаздачы.

Праведзена абмеркаванне плану дзейнасці рэдакцыйнай калегіі маючага быць літаратурнага альманаха. Былі прапанаваны тры варыянты назвы альманаха: «Прытокі», «Кола» і «Строма». Рабочай назвай альманаха вызначана «Строма».

ЮБІЛЕЙ

# БЫЦЬ МОЖА, ЁН СЯРОД НАС?

## МІКОЛУ ФЕДЗЮКОВІЧУ — 70




Янусь МАЛЕЦ

**Ён нарадзіўся 22 мая 1943 года, калі над краінай яшчэ палыхала полымя вайны. У жыццё «ўзляцеў» з вёскі Гутава (Драгічынскі раён Брэсцкай вобласці) з беднай сялянскай сям'і, як птах з апаленымі крыламі. Душэўныя раны не зажывалі на працягу ўсяго пакручастага шляху. У яго першым зборніку «Зямля — магніт» гэта прагучала пранізліва ў вершы «Балада пра буслоў»:**

*Ад пажару*
*аблокі,*
*як сцены,*
*крышыліся.*
*Я стаяў нерухома*
*на чорным дзядзінцы…*
*Прыляталі буслы —*
*і бяссільна кружыліся*
*над маім трохгадовым,*
*пякельным дзяцінствам.*
*……….*
*Бацька мёртвы…*
*Трываць немагчыма…*
*І раней,*
*і пасля,*
*колькі помню я выраяў,*
*вырай той —*
*самы жудасны вырай…*

Адкуль асобным людзям даецца паэтычны талент — загадка? Кажуць, ад Бога. Напэўна, так. Але навошта? З гэтым жа дарам жыць няпроста. Часам пакутліва да невыноснасці. Вядома, калі ты сапраўдны паэт. Хаця… зрэдчасу здараецца і эйфарычны палёт душэўных пачуццяў. Тады сняцца прыгожыя каляровыя сны, у якіх творцы лятаюць над пяшчотнай зямлёй і фантазія нараджае неверагодныя мары.

*Так буду жыць.*
*Ні славы,*
*ні праклёнаў.*
*Да скону верны жонцы*
*і пяру,*
*Да скону у Радзіму улюблёны.*
*Быць можа,*
*я ніколі не памру.*

Наіўнасць? Лёгкаважкі пафас? Ды не! Наконт бясконцага жыцця магчыма і занадта смелы вобраз, а ва ўсім астатнім — ён, Мікола Федзюковіч, сціплы чалавек і творца, мэтанакіраваны, руплівы шукальнік надзейнага і справядлівага ў жыцці.

Мікалай Мікалаевіч быў вельмі адказным на працы. І не таму, што баяўся начальства, а таму, што меў такі — паляшуцкі — характар і склад душы. Абы-як да сваіх абавязкаў адносіцца проста не мог, бо не дазваляла сумленнасць. Не сумняваюся, не ў адным архіве назбіралася шмат ягоных паведамленняў пра пасяджэнні літаратурных аб'яднанняў з прапановамі дасылаць новыя творы ў рэдакцыі і на радыё, з паведамленнямі пра ўдзел вядомых літаратараў. Часам на рэдакцыйных бланках «Звязды», «Чырвонай змены» і іншых выданняў, дзе працаваў, ён пісаў пісьмы-карацелькі, у якіх цікавіўся ветліва жыццём і творчасцю, даваў парады, рабіў заўвагі. Ведаю добра, колькі асабістага часу ён аддаваў на добразычлівую дапамогу пачынаючым аўтарам, не баючыся адстойваць іх творы…

На рабочым стале, у шуфлядках, у шафах ён імкнуўся падтрымліваць належны парадак. Аднак, напрыклад, у сваёй маленькай кватэрцы на Грушаўцы, у якой жыла і ягоная хворая маці, гэта ўдавалася з вялікай цяжкасцю. У Міколы была багатая бібліятэка, якая наркатычна папаўнялася новымі кнігамі, часопісамі і шматлікімі газетамі. Паэт не шкадаваў грошай на падпіску, яму хацелася не прапусціць літаратурныя навіны, апошнія падзеі ў свеце. Не магу сказаць, ці ўсё яму ўдавалася прачытаць, прааналізаваць. Відаць, нешта адкладвалася на потым і накаплялася. Хто быў у ягонай кватэры, павінен помніць мноства стопак перыёдыкі, якія не ўмяшчаліся ні на сталах, ні на кніжных паліцах, ні на шафах ці на іх, таму займалі вялікую плошчу на падлозе. На дзіва хутка яму ўдавалася адшукваць патрэбнае выданне — ці ў памяці трымалася, ці была нейкая свая методыка.

Такі ж класічны парадак і акуратнасць прыўносіліся ім і ў творчасць. Ён вучыўся ў класікаў шліфаваць дадзены з іншага вымярэння талент, адшукваючы ў слоўніках нечаканыя вобразы, формы, рыфмы. Мікола вучыўся ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага, жыў у адным пакоі з вядомым расійскім паэтам Юрыем Кузняцовым. Несумненна, расійская паэзія зрабіла на яго вялікі ўплыў. Але было б памылковым акцэнтаваць гэта. Можна пераканацца ў адваротным, зазірнуўшы ў пасмяротны зборнік «Красадзён» — у раздзел перакладаў.

Дарэчы, пра «Красадзён». Да гэтай кнігі паэт ішоў доўга і пакутліва. Ён выношваў у сэрцы назву, карпеў над вершамі, асвойваў форму санетаў. Крыўдзіўся, што некаторыя самаўпэўненыя рэдактары раздзялялі назву на дзве часткі — краса дзён. На самай жа справе гэта была адшуканая ім ягоная «шыпшына», «папараць-кветка», якую слоўнікі тлумачаць як шматгадовую травяністую расліну сямейства лілейных, якая на пачатку лета цвіце прыгожымі ярка-аранжавымі кветкамі. Адкрыццё гэтай не надта вядомай расліны-кветкі для паэта мела вельмі і вельмі важны, загадкавасакральны сэнс.

Ён адчуваў блізкую смерць, шмат пісаў пра яе ў вершах. Кажуць, вёў спіс вядомых асобаў, якія пайшлі з жыцця менавіта ў тым узросце, у якім і яму было наканавана адысці ў іншы свет: на 54-м годзе 8 студзеня 1997-га на Ражство Хрыстова…

З кнігай «Красадзён» шмат незразумелага. Рукапіс, са слоў жонкі паэта Алены Аляксандраўны, таямніча знік ці то незадоўга да смерці, ці ў час пахавання. Аднаўляць давялося па чарнавых экзэмплярах, запісах і па памяці. Зборнік удалося выдаць, дзякуючы руплівасці Віктара Гардзея, у 2009 годзе ў «Мастацкай літаратуры» праз трыццаць гадоў пасля апошняй прыжыццёвай кнігі «Макаў цвет».

…Я пісаў ужо ў сваіх артыкулах пра верш, у якім паэтам на самым пачатку творчага шляху напрарочаны і асабісты лёс, і лёс знакамітай зямлячкі Яўгеніі Янішчыц. Нейкая таямнічая сіла падштурхоўвае зноў яго нагадаць чытачам:

*Прачыналася рэчка Ясельда*
*і цякла ў старажытны бор…*
*Павандрую —*
*і зноўку я сюды*
*прынясу маёй страты боль.*
*Не сунімецца боль*
*ад дотыку*
*хвалі ціхай —*
*нібы сляза…*
*Пачыналася песня з досвітку*
*ў барадатых,*
*сівых лясах.*
*О дачка задуменнай вернасці —*
*Ясяльдзянка з касой-красой,*
*я не веру,*
*што ты*
*не вернешся*
*ў гэта мудрае харawarstва.*
*А паверу —*
*дык песняй раненай*
*на гарачы ўпаду абрус…*
*Захвалюецца рэчкай ранішняй*
*у вачах маіх*
*Беларусь.*

Мікола праз нейкі час пасля нечаканай і не надта зразумелай смерці паэткі апублікаваў верш у «Народнай газеце», перарабіўшы асобныя дэталі, абазначыўшы, каму менавіта ён прысвячаў твор. А потым і сам памёр за сталом, упаў на «гарачы абрус»… Яшчэ раз перачытайце прарочыя радкі, прааналізуйце жыцці Янішчыц і Федзюковіча, задумайцеся. Гэта вам не «Я памятник себе воздвиг нерукотворный»…

Сёлета яму было б сем дзясяткаў. Ужо пятнаццаць гадоў немагчыма адчуць далікатны поціск ягонай цёплай рукі, зазірнуць то ў самотныя, а то ў лагодна-гарэзлівыя вочы, убачыць прыемна-ветлівую ўсмешку. З ім было цікава размаўляць пра паэзію, пра жыццё. Здаралася, за гаворкай не заўважаўся час. Вось адна з запісак маёй жонцы: «Паважаная Вольга! Пішу табе, шаноўная, раніцай, 19 — у Дзень Вялікага Спаса. Даруй, калі ласка, што я затрымаў Івана, ён невінаваты. Ён пераначаваў у нас. Малайчына. Да сустрэчы. Мікола Федзюковіч. 6 гадзін раніцы 19.08.89 г.»

Тады ж ён падпісаў мне двухтомнік Марыны Цвятаевай. А крыху раней падарыў зборнік Мікалая Глазкова, сказаўшы, што гэты паэт павінен мяне зацікавіць сваімі іранічнымі творамі. Адначасова дадаў кнігу пра творчасць гэтага аўтара. Гартаю старонкі тых і іншых падораных — і ўспамінаю ягоную шчодрасць.

Прыпамінаецца і адна з прагулак па Грушаўцы, калі Мікола распавядаў мне з захапленнем пра творчасць Паўла Васільева, Барыса Карнілава, Яраслава Смелякова і цытаваў сваім гучным голасам, забыўшыся на прахожых, радкі Смелякова:

*Мы шли втроем с рогатиной на слово*
*и вместе слезли с тройки удалой —*
*три мальчика,*
*три козыря бубновых,*
*три витязя бильярда и пивной.*

Напэўна, ён адчуваў сябе таксама віцязям, калі бываў у кампаніі самых сваіх паважаных, лепшых сяброў: таленавітых Міхася Стральцова і Яўгена Крупенькі. Як ён любіў пра іх расказваць, як ганарыўся гэтым сяброўствам! І фатальна прадказваў, што, відаць, памрэ ў 53, як і Яўген. Чамусьці часам паказваў здымкі з іншымі сябрамі-літаратарамі, якіх ужо не было на гэтым свеце, і прарочыў амаль з нейкай упэўненасцю і наканаванасцю свой лёс. Адкуль такая запраграмаванасць і містычнае чаканне — загадка.

І апошняе. На жаль, яшчэ можна купіць «Красадзён» у кнігарнях, хаця прайшло пасля выдання каля трох гадоў, а тыраж усяго 1500 экзэмпляраў… Такія цяпер адносіны да паэтаў, да таленавітага ўзнёслага слова…

Аднак мне ўвесь час здаецца, што Мікола Федзюковіч тут, сярод нас. Хочацца верыць: у наступных, пакуль невядомых нам стагоддзях (хацелася б: дзесяцігоддзях), нашчадкі ўсё-такі ўспомняць пра сваіх папярэднікаў. І паэтычная спадчына нашага юбіляра, як і многіх іншых творцаў, будзе запатрабавана, і прарочыя акажуцца словы пра несмяротнасць.

▸ ІНТЭРВ'Ю

# Алена Масла: «ДЗІЦЯЧАЯ КНІГА ПАВІННА ДАВАЦЬ ЧЫТАЧУ АДЧУВАННЕ ДОБРАЗЫЧЛІВАСЦІ СВЕТУ»

**У 2013 годзе ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» абвясцілі конкурс «Экслібрыс» імя Янкі Маўра на лепшы твор у галіне літаратуры для дзяцей. Прыём твораў у самых разнастайных жанрах і формах — ад прозы, паэзіі, драматургіі да коміксаў — працягваецца да 1 жніўня. Сярод сябраў журы конкурса — казачніца, аўтарка некалькіх кніг для дзяцей Алена Масла.**

**У сённяшняй размове яна распавядае пра спецыфіку працы над творамі для маленькіх чытачоў, пра праблемы і дасягненні беларускай выдавецкай справы і пра тое, як можна выхаваць у дзяцей любоў да кнігі на роднай мове.**


Фота Алены Казловай

***— Ці можа дзіцячая кніга стаць бэстсэлерам? І ці ёсць у нас аўтары, якія, на вашую думку, маглі б стварыць яго?***

Алена Масла: Безумоўна, ёсць. У нас бракуе традыцыі гадаваць дзяцей на сваім — вось гэта праблема. І можна пачаць з таго, што сталася ўжо класікай: напрыклад, «Сярэбраная табакерка» Змітрака Бядулі. Нельга сказаць, што кніга занядбаная ўвагай — яна якраз такі і перавыдаецца, і спектакль па ёй ішоў... Але проста нейкі менталітэт такі ў нас, што лепшае мы шукаем за светам. Не буду спрачацца: перакладная літаратура — гэта цудоўна. Цудоўна ведаць найлепшыя кнігі замежжа. Але хіба можна гадаваць дзіця, улюбёнага ў родную зямлю, без кніг, створаных яе пісьменнікамі? І ёсць у нас аўтары, якіх трэба выдаваць і перавыдаваць!

***— Чаго не хапае беларускай дзіцячай літаратуры?***

**А.М.:** — Найперш не хапае ўвагі з боку грамадства. І гэта агульная для беларускай літаратуры праблема. Літаратура нармальна развіваецца ў адпаведным моўным асяродку, і калі ён вузкі, то з'яўляецца натуральная праблема: чытач малалікі і неабазнаны. Мне даводзіцца шмат сустракацца са школьнікамі, і ў большасці аўдыторыяў узнікае неабходнасць не творы чытаць, а праводзіць ліквідацыю непісьменнасці — то бок тлумачыць простыя беларускія словы. І самае кепскае, што сітуацыя за апошнія гады толькі пагоршылася. Мову дрэнна ведаюць не толькі ў гарадскіх, але ўсё часцей — і ў вясковых школах. Чытаю, да прыкладу, для малодшых класаў адну са сваіх казак, разбіраем лексіку. Колькі намаганняў прыкладаем, каб знайсці дзяўчынак у спаднічках, карункі на адзенні, а яшчэ высветліць, што ж такое адзінкі і патэльня! Казка невялікая, амаль усю ўрэшце па слоўцах і разбіраем... І ў старэйшых класах веданне мовы не лепшае. Можна адкрыта казаць пра наяўнасць моўнага бар'еру паміж творцам і патэнцыйным чытачом.

Другой перашкодай для папулярызацыі беларускай дзіцячай літаратуры з'яўляюцца мізэрныя наклады, якімі выдаюцца кніжкі. Дзве, тры тысячы — я ўжо не кажу пра наклады ў трыста, пяцьсот асобнікаў, — для дзіцячай кнігі гэта вельмі мала... Дык чым пісьменнік, якога не чыталі, павінен быць цікавым?

***— У якой краіне, на Ваш погляд, дзіцячая літаратура цяпер пачуваецца найлепш і чаму?***

**А.М.:** — Я не магу ўзяць на сябе смеласць за ўсе краіны адказаць, але дакладна ведаю адно: беларуская кніга выжывае ў складаных умовах. Пра моўную праблему мы згадвалі. А яшчэ ж і падаткаабкладанне на кнігавыданне, якое даўно ўжо абяцаюць зрабіць ільготным у нашай краіне, ды ніяк не адважацца...

Як прыклад згадаем Швецыю, дзе існуе льготнае падаткаабкладанне, якое дае магчымасць прадпрымальным людзям развіваць кнігавыдавецтва як бізнэс. Ды дзеля такога прыкладу і за мора не трэба хадзіць! У суседняй Украіне, Расіі сітуацыя з падаткаабкладаннем на кнігі зусім іншая.

***— Што трэба зрабіць, каб выдадзеная дзіцячая кніга ўсё ж дайшла да чытача?***

**А.М.:** — Найперш тое, што называецца піярам. Сустрэчы, прэзентацыі. Трэба ладзіць сустрэчы з аўтарамі і запрашаць не толькі дзяцей, але дарослых, бо менавіта яны павінны купіць і прынесці кнігу свайму дзіцёнку. Неабходна не саромецца і не ленавацца, а займацца «раскруткай», інакш кажучы, «кніга — нагода для падзеі».

***— Ці можна прывесці тут станоўчы прыклад рэкламы кнігі, і прыклад, калі добрая кніга засталася незаслужана незаўважанай?***

**А.М.:** — Добрым прыкладам тут можна назваць тую работу, якую вяла па прапагандзе кніг сваіх аўтараў амбасада Швецыі. Згадайма прэзентацыю, якая ладзілася з нагоды выхаду кнігі «Піпі Доўгаяпанчоха», калі ў Мінск прыехала дачка пісьменніцы Астрыд Ліндгрэн Карын Нюман — тая самая дзяўчынка, якая шмат гадоў таму прыдумала імя для гераіні і натхніла на напісанне твора. А калі пачалі выходзіць кнігі Юі Віслandэр — якія святы ладзіліся! Лямцавы тэатрык ставіў спектаклі пра Маму Му, і з гэтым спектаклем акцёры не толькі ў Мінску выступалі, але ездзілі па Беларусі... Прыязджаў Ульф Старк — і таксама ладзіліся яскравыя прэзентацыі яго «Дыктатара». Да таго ж, нікога са стваральнікаў кнігі не пакідалі па-за ўвагай: запрашаліся перакладчыкі Зміцер Плакс, Надзея Кандрусевіч, шведскія літаратуразнаўцы і пісьменніцы Улу Лундквіст і Яніна Арлоў, — словам, амбасадай рабілася ўсё магчымае, каб як найлепей прэзентаваць дзіцячыя кнігі сваёй краіны беларускаму чытачу — і тым самым прэзентаваць саму краіну...

Пераканане, падмацаванае практыкай: дзеці чытаюць там, дзе дарослыя — бацькі, выхавацелі, настаўнікі, бібліятэкары — любяць кнігу і ўмеюць з ёй працаваць.

А сумным жа прыкладам, калі добры твор застаўся невядомым шырокай публіцы, на маю думку, можна назваць сітуацыю з кнігай Сержука Вітушкі «Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі». Вельмі люблю гэтую кнігу і мару пра часы, калі яна знойдзе выхад на масавага чытача і, што самае істотнае, знойдзе яго падтрымку і разуменне.

І яшчэ... Калі ў Мінску ўсё ж нешта раз-пораз ладзіцца, то ў рэгіёнах людзі і праз гады не ведаюць пра выхад той ці іншай кнігі. У шмат якіх малых гарадах проста пазачыняныя кніжныя крамы, а ў тых, якія ёсць, беларуская кніга нярэдка — на самых далёкіх паліцах. Праўда, дзеля справядлівасці варта зазначыць, што пару-тройку апошніх гадоў неяк да гэтай праблемы пачынаюць паварочвацца тварам. Ва ўсякім разе, дбаць пра тое, каб кніжная крама адпавядала сваёму прызначэнню, а не была філіялам гаспадарчай крамы, дзе кнігі суседнічаюць з пральнымі парашкамі.

***— Ці ёсць у Вас парада для тых хто піша (спрабуе пісаць) для дзяцей, як стаць сапраўдным дзіцячым пісьменнікам?***

**А.М.:** — Аўтары па-рознаму пачынаюць пісаць для дзяцей. Астрыд Ліндгрэн, напрыклад, пісала толькі для дзяцей, а нехта піша і для дарослых таксама. Некаторыя пачынаюць пісаць, стаўшы бацькамі, некаторыя — дзядулямі... Ну, але, мне падаецца, не варта ставіць так сабе задачу: стаць сапраўдным дзіцячым пісьменнікам! Нашмат важней умець слухаць тое дзіця, што жыве ў табе самім, памятаць пра свае перажыванні і сваё ўспрыняцце свету — вось тады з'яўляюцца шансы нешта добрае напісаць.

Наогул жа для фарміравання якаснай дзіцячай літаратуры трэба, каб было шмат разнастайных твораў. Каб нешта ў выніку выкрышталізавалася, літаратурны працэс не павінен стаяць на месцы.

Слушна заўважыла шведскі крытык Яніна Арлоў, што з амаль 2000 кніг для дзяцей, якія выходзяць у Швецыі, далёка не ўсе — шэдэўры. Але гэта чытво на розныя ўзроўні чытачоў, на розны густ. А застанецца — лепшае, час адсее аднадзёнкі.

***— Якія асаблівасці ўласцівыя творам для дзяцей, якія тэмы найбольш актуальныя, што глабальна адрозніваe дзіцячую і дарослую кнігі?***

**А.М.:** — Наўрад нехта ведае ўніверсальны рэцэпт стварэння дзіцячай кнігі. Але відавочна ёсць пэўныя асаблівасці, звязаныя найперш з надзвычайнай датклівасцю дзяцей. Дзеці — гэта людзі з агаленымі нервамі, яны востра адчуваюць фальш. Таму ў развагах пра ўніверсальны рэцэпт абмяжуюся вельмі слушнай парадай Астрыд Ліндгрэн: «Пісаць для дзяцей трэба таксама, як для дарослых, толькі значна лепш».

Наогул, дзіцячая літаратура — гэта не маналіт. Гэта шматжанравая літаратура, якая ствараецца з улікам псіхалогіі дзіцяці. Дзіця адмалку — частка грамадства, і ўсё, што ў грамадстве адбываецца, самым непасрэдным чынам датычыць дзяцей. Добрая кніга можа стаць найлепшым сябрам, калі дапаможа знайсці адказы на жыццёвыя пытанні, урэшце, падорыць незабыўныя хвіліны эмацыйнага ўзрушэння ці вострых перажыванняў.

***— На ваш погляд, дзіцячы пісьменнік павінен быць педагогам?***

**А.М.:** — Педагог, уласна кажучы, гэта той, хто ўмее знайсці падыход да дзіцяці (не блытаць з нуднымі «вучылкамі»!). Ну дык і дзіцячы пісьменнік мае права называцца добрым педагогам, калі ён знайшоў сцежку да сэрца свайго чытача. Іншае справа, што дзіцячая літаратура, бывае, грашыць павучаннямі і маралізатарствам. Такія творы нярэдка вельмі любяць школьныя настаўнікі і выхавацелі садкоў, але часам не вельмі любяць самі дзеці...

***— Ці не перасталі сучасныя дзеці быць наіўнымі, можа, ім больш не патрэбныя казкі з добрымі чароўнымі істотамі, а патрэбныя самалёты, кампутары і астатнія рэаліі дарослага свету?***

**А.М.:** — Якія б ні былі тэхналогіі, як бы ні развівалася цывілізацыя, чалавек кардынальна не мяняецца. Таму ніхто не пераканае мяне, што фундаментальныя традыцыйныя каштоўнасці страчваюць актуальнасць і не цікавыя дзецям. Мумітролі Туве Янсэн жывуць у дзіўным свеце каметаў, прыгодаў, вандровак — іх жыццё насычанае смелымі самастойнымі рашэннямі і рызыкоўнымі выправамі, але яны вяртаюцца дадому, дзе маці пячэ булачкі, а тата чытае газету — у дом, дзе іх любяць і чакаюць. Вось прыклад удалага спалучэння казачнага і тых грунтоўных сямейных і чалавечых каштоўнасцяў, якія, я лічу, патрэбны дзіцячай літаратуры. Акрамя іншых складнікаў, дзіцячая кніга павінна даваць чытачу адчуванне добразычлівасці свету.

***— Калі б Вам прапанавалі даць назву прэміі для дзіцячай літаратуры, як бы яна называлася?***

**А.М.:** — Ведаеце, я нядаўна думала пра гэта. Да прыкладу, у Беларусі ёсць прэміі імя Янкі Маўра, Васіля Віткі ў часопісе «Вясёлка», Міжнародная прэмія імя Астрыд Ліндгрэн, заснаваная шведамі, — усё гэта добра і традыцыйна.

А вось у суседняй Украіне ёсць прэстыжная прэмія «Вялікі Вожык» — і мне падобны падыход вельмі падабаецца. Наша «Літаратурнае прадмесце» мае прэмію «Блакітны Свін» — крэатыўна і весела!

А ў выпадку з прэміяй за лепшы дзіцячы твор і пагатоў так быць павінна. Можа, назва «Журавінка.by» падышла б? Вітамінна, карысна, прыгожа — і вельмі па-беларуску!

**Гутарыў Усевалад Сцебурака**

ВЕРШЫ

# ЯК ДУХ ЛЯСНЫ…

Васіль ЗУЁНАК



## Шпаку відно!

*Я сёння склаў не гімн — адзін радок:*
*Я песеньку шпачыную прыдумаў.*
*Хоць слоў няма — ды весні галасок*
*Птушыны мой гудзе зялёным шумам.*

*З бярозы сустракаю сонца ўсход*
*Не дзюбачкай шпачынаю, а лікам.*

*— Вясна ідзе! Ці бачыш ты, народ?!*
*Шпаку відно!*
*Як добра быць вялікім!..*

## Аб чым яны?..

*Між пералескаў жыта палавее,*
*Пад ветрыкам шапочуць каласы…*
*Гамонку чую, ды не разумею, —*
*Забыўся мову?.. жытняй вёскі сын…*

*Аб чым яны? — ніхто мне не адкажа,*
*Апроч мяне, апроч маёй душы:*
*І гэты васілёк, што неба ўважыў —*
*Не кінуў сіняву пад лемяшы;*

*І гэты чмель у летуценні мёдным,*
*Што хатку пад узмежкам збудаваў;*
*І з плачкаю нязводнай і бязроднай*
*Зязюля — спаконвечная ўдава;*

*І гэта сцежка; і амаль музейны*
*Жаўрук над ёй?..*

*Аб чым яны ў той міг?..*

*А можа, не майго ўсёразумення,*
*А просяць, каб душой пачуў я іх?..*

* * *

*Варона на ліпе рупіцца:*
*Галінкі сухія ламае.*
*Няўжо, каб агеньчык у грубачцы*
*Зацепліць, дроўцы збірае?*

*А што — і пагрэцца не шкодзіць,*
*А то і «спачыеш у бозе»…*
*Ды не! — зіма адыходзіць,*
*І ўжо вясна на парозе!*

*І хоць зябкавата на золаку —*
*Зусім не мароз вінаваты:*
*Сушняк, як бярвенне волакам,*
*Варона тралюе на хату.*

* * *

*Быццам быў за ўсіх мудрэй —*
*З пёркам панаваў.*
*Гульні ў ямб альбо харэй*
*Працай называў…*

*Браў жыццё, як напавер, —*
*З рук усё сплыло.*
*Пасля дожджыка ў чацвер*
*Весела было…*

*Пазубрылася каса,*
*З'ела плуг іржа…*
*І не ўдачы паласа,*
*А ў быллі мяжа…*

*Час прыйшоў — а чым аддаць?*
*Цягнецца рука:*
*Спадзяецца зноў, відаць,*
*Каб нашармака…*

*Літасцівыя ж якраз*
*Знойдуцца — бо ёсць.*
*Люб ім з рыфмай напаказ*
*Пажыццёвы госць…*

*Не крыжуйце ж мне душу,*
*Не пладзіце сноў:*
*Напавер, я вас прашу,*
*Не давайце зноў!..*

* * *

*Май, не пакінуўшы слядоў,*
*Адкрыў у чэрвень дзверы,*
*А я і ў замеці гадоў*
*Вясне наіўна веру.*

*Вясна-красна! Вясна-красна*
*І ў сем і ў сем дзясяткаў.*
*Непадуладная яна*
*Асенніх сноў парадкам.*

*Я тут чужы, я тут не свой:*
*Хоць час гняце палонам,*
*Хлапчук з сівою галавой,*
*Гляджу на свет здзіўлёна.*

*З тым хлапчуком удвух нясём*
*І радасці, і гора*
*І благаслаўляем сёння ўсё*
*З прадаўнішняга ўчора.*

*Мільгнула — як і не было,*
*Як знічкай адгарэла.*
*Шкада? Ну, пэўна ж… А крыло*
*Над намі зачарнела…*

*Я дзён у Бога не прасіў*
*(А дзён у Бога многа!) —*
*Як быццам і не жыў зусім…*
*Адкуль жа ты, трывога?*

*Адкуль шчымлівы халадок?..*
*Бушуе дзень раскошай:*
*Сувой і ўток, — за крокам крок,*
*І кожны — як апошні…*

## Дзесяць радасцяў

*Я спытаўся сёння ў дрэўца:*
*«А ці помніш, мой дубочку,*
*Як на сонечнай сугрэўцы*
*Ты быў простым жалудочкам?*

*Як спяліўся, як зваліўся*
*І злякаўся адзінока,*
*Як карэніста ўхапіўся*
*За зямлю, — ды так глыбока!*

*Помніш, дзіву я даваўся:*
*Сам маленькі, а стрыжнёвы*
*Корань твой у дол хаваўся,*
*Пэўна, з вырастам сажнёвым.*

*Ты пясок пранізваў сыпкі*
*І памог мне здагадацца,*
*Што спярша расцеш углыбкі,*
*Каб увысь пасля падацца.*

*Каб магутна развінуцца*
*І ствалом і пышнай кронай*
*І ў вяках не пахіснуцца*
*З той глыбіннай абаронай.*

*Помніш, як я выбачаўся,*
*Засмучоны быў дарэшты,*
*Што адсек — не дакапаўся*
*Глыбіні, якой жывеш ты.*

*Не падумаў, што твой вырай,*
*Можа, большай быў віною,*
*Што цябе я з лесу вырваў,*
*Не спытаў, якой цаною…*

*Помніш, як маім суседам*
*Ты пакутна прыжываўся, —*
*З парасткаў тваіх тым летам*
*У жывых адзін застаўся*

*Тры лісцінкі — як надзея,*
*А праз год — ужо дзясятак, —*
*Так з унукам мы глядзелі*
*Праз вякі з табой ад хаты.*

*Ты з лісцінкай кожнай радасць —*
*Дзесяць радасцяў! — прынёс нам,*
*І стагоддзяў далягляды,*
*І — як лёс — нашчадкаў вёсны.*

## Да сонца!..

*Пах бярosты*
*На далані.*
*Лес чадзее.*
*Чую гул з-пад зямлі:*
*Карані*
*Загулі.*
*Карані*
*Здабылі*
*Надзею!*

*Чую:*
*Ранак яшчэ тупаціць*
*Марозлівым*
*Крокам.*
*Ды вясна*
*Бярозай*
*Трымціць,*
*Набрыняла*
*Да сонца ляціць*
*З-пад зямлі —*
*Па камлі,*
*Па галінах высокіх, —*
*Бярозавым*
*Сокам!*

* * *

*Паехаў я ў той час*
*З Мачулішча,*
*Як Нача ў нас*
*Ракою чулася,*
*Калі жылі*
*Пры лямпе газавай,*
*І п'яніцы яшчэ слылі*
*Страшней, чым хворыя праказаю.*

*А сёння — як на грудзі*
*Камень, —*
*Гняце:*
*Што будзе*
*З землякамі?!.*
*Зімой і летам,*
*Вясной і восенню, —*
*За ўсю планету —*
*П'юць без просыпу.*

*І пры электрыцы,*
*І пры «тэлеку»*
*Ўдрабядан «лечацца»,*
*«У сцельку».*
*Ці будзень чорны,*
*Ці Ушэсце —*
*Баль нескканчоны:*
*П'яных шэсце.*

*Па лужах чунямі*
*Валёнкі хлюпаюць…*
*«Галё, мачулінцы,*
*Прывезлі, любую!..»*
*Па снезе тапачкі*
*Трымцяць марозліва…*
*«А сёння, бабачкі,*
*Вярмут у розліве!..»*

*Ідзе Мачулішча,*
*За плот*
*Трымаецца, —*
*Народ*
*Карчуецца,*
*Народ*
*Співаецца…*

* * *

*Як прадчуванне*
*Катастроф*
*Сваё маўчанне*
*Нам весціць Бог.*

*А мы ў бязвер'і —*
*Хто ўлёт, хто ніц —*
*Шукаем дзверы*
*Да таямніц.*

*І ўжо здаецца,*
*Што мы ад іх*
*Трымаем лейцы*
*Ў руках сваіх.*

*Вось-вось настане*
*Трыумф — але*
*Адно пытанне*
*Сто новых шле…*

*Вачыма Бога*
*Ў Сусвет глядзім…*
*Пытанняў многа,*
*Адказ адзін…*

* * *

*А ўсе надрэччы белыя*
*І паручэйі ўсе:*
*Чаромха, расквітнелая,*
*Уброд вясну нясе.*

*А тут — над песняў песняю —*
*Ды салаўіны спеў!.. —*

*Ці гэтак я развеснены?*
*Ці свет асалавеў?*

## Палітыка

*Хата як хата, ды нельга зайсці:*
*Дзверы маюцца, ды без клямкі.*
*І грунт — нібыта ў балотным трысці:*
*Дарог няма — толькі напрамкі…*

## Хамурапі

*Конь канае. У пеністай храпе*
*Цуглі золатам зіхацяць.*
*Дзе ты, хто ты, цар Хамурапі, —*
*Я не знаў — і не буду знаць.*

*Пакацілася калясніца —*
*За гарамі вякоў Вавілон.*
*Толькі мне неадступна сніцца*
*Хамурапі акрутны закон.*

*І зусім не «да нашай эры»:*
*Я — у нашай, і свой сатрап*
*Мне такія стандарты адмерыў,*
*Каб я ведаў: хто цар, а хто раб.*

*Каб я помніў: адмерлі шумеры,*
*Клінапісныя знакі маўчаць…*
*Каб і я, нарэшце, паверыў,*
*Што ўжо час і мне адміраць…*

*Як на ўбой, каб і я пакачаўся*
*Ля карыта: паеў ды ў хлеў.*
*Каб я знаў: гаспадар зачакаўся:*
*Хоць свінячы — пачуць хваласпеў…*

*Каб і мне гісторыі мліва*
*Ад цароў ухапіць на замес,*
*Каб мой верш мітусіўся лісліва*
*Перад тым, хто на трон залез…*

*Каб адчуў: з удзячнасцю рабскай,*
*Запрадаўшы волю сваю,*
*У кампаніі хамурапскай*
*Са смяротнікам-словам стаю…*

*Каб і я сказаць не патрапіў,*
*Што аднойчы мне Бог адкрыў:*
*Не было і няма Хамурапі,*
*Покуль сам ты яго не стварыў…*

## Аншлаг

*А мы шпака падкармліваем:*
*Шпачаняты ў яго — будзь здароў! —*
*Не застануцца карлікамі —*
*Харчацца з нашых дароў.*

*Вырасце й песня крылатая:*
*Налета бярозавы збор*
*Будзе над нашаю хатаю —*
*Цэлы шпачыны хор! —*

*І аншлаг!..*

▸ **ФРАГМЕНТЫ НОВАЙ КНІГІ**

# ЧАС SECOND-HAND
## (КАНЕЦ ЧЫРВОНАГА ЧАЛАВЕКА)

Святлана АЛЕКСІЕВІЧ



### Запіскі саўдзельніка

Мы развітваемся з савецкім часам. З тым нашым жыццём. Я спрабую сумленна выслухаць усіх удзельнікаў сацыялістычнай драмы…

У камунізма быў вар'яцкі план: перарабіць «старога» чалавека, трухлявага Адама. І гэта атрымалася… можа быць, адзінае, што атрымалася. За семдзесят з лішкам гадоў у лабараторыі марксізму-ленінізму вывелі асобны чалавечы тып: «homo soveticus». Адны лічаць, што гэта трагічны персанаж, іншыя называюць яго «саўком». Мне здаецца, я ведаю гэтага чалавека, ён мне добра знаёмы, я побач з ім, пляча да пляча пражыла шмат гадоў. Ён — гэта я. Гэта мае знаёмыя, сябры, бацькі. Некалькі гадоў я ездзіла па ўсім былым Савецкім Саюзе, таму што homo soveticus — гэта не толькі рускія, але і беларусы, туркмены, украінцы, казахі… Цяпер мы жывём у розных дзяржавах, якія гавораць на розных мовах, але нас ні з кім не пераблытаеш. Пазнаеш адразу! Усе мы, людзі з сацыялізму, падобныя і не падобныя на астатніх людзей — у нас свой слоўнік, свае ўяўленні пра дабро і зло, пра герояў і пакутнікаў. У нас адмысловыя адносіны са смерцю. Увесь час у аповедах, якія я запісваю, рэжуць вуха словы: «страляць», «расстраляць», «ліквідаваць», «пусціць у расход» ці такія савецкія варыянты знікнення, як: «арышт», «дзесяць гадоў без права перапіскі», «эміграцыя». Колькі можа каштаваць чалавечае жыццё, калі мы памятаем, што нядаўна гінулі мільёны? Мы поўныя нянавісці і забабонаў. Усё адтуль, дзе быў ГУЛАГ і страшная вайна. Калектывізацыя, раскулачванне, перасяленне народаў…

Гэта быў сацыялізм, і гэта было проста наша жыццё. Тады мы мала пра яго гаварылі. А цяпер, калі свет незваротна змяніўся, усім стала цікавым тое нашае жыццё, усё роўна якім яно было, гэта было наша жыццё. Пішу, адшукваю па макулінках, па драбках гісторыю «хатняга»… «унутранага» сацыялізму. Тое, як ён жыў у чалавечай душы. Мяне заўсёды прыцягвае вось гэтая маленькая прастора — чалавек… адзін чалавек. Насамрэч там усё і адбываецца. <…>

Савецкая цывілізацыя… Спяшаюся захаваць яе сляды. Знаёмыя твары. Распытваю не пра сацыялізм, а пра каханне, рэўнасць, дзяцінства, старасць. Пра музыку, танцы, прычоскі. Пра тысячы падрабязнасцяў зніклага жыцця. Гэта адзіны спосаб загнаць катастрофу ў межы звыклага і паспрабаваць штосьці распавесці. Пра штосьці здагадацца. Не стамляюся дзівіцца таму, якое цікавае звычайнае чалавечае жыццё. Бясконцая колькасць чалавечых праўдаў… Гісторыю цікавяць толькі факты, а эмоцыі застаюцца за бортам. Іх не прынята ўпускаць у гісторыю. Я ж гляджу на свет вачыма гуманітарыя, а не гісторыка. Здзіўлена чалавекам… <…>

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО ДЗЯЦІНСТВА

**Марыя Вайцяшонак, пісьменніца, 57 гадоў**



– Я — асадніца. Я нарадзілася ў сям'і ссыльнага польскага афіцэра-асадніка (osadnik — па-польску «пасяленец», які атрымаў землі на Усходніх Крэсах пасля заканчэння савецка-польскай вайны ў 1921-м годзе). А ў 1939-м (сакрэтны пратакол пакта Молатава–Рыбентропа) Заходнюю Беларусь далучылі да СССР, і тысячы асаднікаў-каланістаў разам са сваімі сем'ямі былі высланы ў Сібір як «небяспечны палітычны элемент» (з цыдулкі Берыі — Сталіну). Але гэта вялікая гісторыя, а ў мяне свая… маленькая…

Не ведаю дня свайго нараджэння… і нават года… Усё ў мяне прыблізнае. Не знайшла ніякіх дакументаў. Я ёсць, і мяне няма. Не памятаю нічога і памятаю ўсё. Я думаю, што мама з'язджала цяжарная мной. Чаму? Мяне заўсёды хвалююць паравозныя гудкі… і пах шпалаў… і плач людзей на станцыях… Магу ехаць добрым, фірмовым цягніком, але прагрукоча побач таварняк, і ў мяне слёзы. Не магу бачыць вагоны для скаціны, чуць роў жывёл… Нас везлі ў гэтых вагонах. Мяне яшчэ не было. І я была. У мяне ў снах няма твараў… сюжэтаў… усе мае бачанні з гукаў… пахаў…

Алтайскі край. Горад Змеінагорск, рака Змееўка… Ссыльных згрузілі за горадам. У возера. Жыць пачалі ў зямлі. У зямлянках. Я нарадзілася пад зямлёй, вырасла там. Зямля мне з дзяцінства пахне домам. Цячэ са столі, адрываецца камяк зямлі, зваліўся і скача да мяне. Гэта — жаба. Але я маленькая, я яшчэ не ведаю, каго трэба баяцца. Сплю з дзвюма козачкамі, на цёплай падсцілцы з казінага «гарошку»… Першае слова «ме-е-е»… першыя гукі… а не «ма»… «мама». Старэйшая сястра Уладзя ўспамінала, як я дзівілася, што козачкі не размаўляюць, як мы. Маё здзіўленне. Яны здаваліся мне роўнымі. Свет быў цэласны, непадзельны. Я і цяпер не адчуваю гэтай розніцы паміж намі, паміж людзьмі і жывёламі. Заўсёды размаўляю з імі… і яны мяне разумеюць… А жучкі, павучкі… яны таксама былі побач… такія каляровыя, такія размаляваныя жучкі. Мае цацкі. Увесну мы разам выбіраліся на сонца, поўзалі па зямлі, шукалі ежу. Грэліся. А ўзімку абміралі, як дрэвы, упадалі ў спячку ад голаду. У мяне свая школа, мяне вучылі не толькі людзі. Я чую і дрэвы, і траву. Больш за ўсё ў жыцці мне цікавыя жывёлы, сапраўды цікавыя. Як мне адлучыцца ад таго свету… ад тых пахаў… Не магу. Вось нарэшце сонца! Лета! Я — наверсе… вакол прыгажосць асляпляльная, і ніхто нікому не рыхтуе ніякай ежы. І яшчэ ўсё гучыць, усё ў фарбах. Я спрабую на смак кожную травінку, лісток… кветку… усе карэньчыкі… блёкату раз наелася, ледзь не памерла. Цэлыя карціны ў памяці… Памятаю гару «Сіняя барада» і сіняе святло на гэтай гары… асвятленне… Святло ішло менавіта з левага боку, са схілу. Ішло яно зверху ўніз… Якія гэта былі відовішчы! Баюся, што ў мяне не хопіць таленту гэта перадаць. Уваскрасіць. Словы — гэта толькі дадатак да стану. Да нашых пачуццяў. Чырвоныя макі, лілеі-саранкі, мар'ін корань… Усё гэта рассцілалася перад вачыма. Пад нагамі. Ці іншая карціна… Я сяджу поруч нейкай хаты. Па сцяне паўзе сонечная пляма… і яна розных колераў… увесь час змяняецца. Доўга-доўга сяджу на тым месцы. Калі б не гэтыя фарбы, я б, напэўна, памерла. Не выжыла. Не памятаю, што мы елі… ці была ў нас якая-небудзь чалавечая ежа…

Увечар я бачыла, як ішлі чорныя людзі. Чорныя адзенні, чорныя твары. Гэта ссыльныя вярталіся з руднікоў… яны ўсе былі падобныя на майго бацьку. Я не ведаю, ці любіў мяне бацька. Ці любіў мяне хто-небудзь?

У мяне вельмі мала ўспамінаў… Мне іх бракуе. Шукаю ў цемры, імкнуся больш адтуль выцягнуць. Рэдка… вельмі рэдка раптам штосьці ўспомніцца, чаго я не памятала. Мне горка, але я шчаслівая. Я тады страшна шчаслівая.

Нічога не магу ўспомніць пра зіму… Узімку я сядзела ў зямлянцы ўвесь дзень. Дзень быў падобны на вечар. Усё ў змярканні. Ніводнай каляровай плямы… Ці былі ў нас нейкія рэчы, акрамя місак і лыжак? Ніякай адзежы… каб штосьці з адзежы… абгортваліся нейкімі анучамі. Ніводнай каляровай плямы. Абутак… Што з абутку? Галёшы… памятаю галёшы… у мяне таксама галёшы, вялікія і старыя, як у мамы. Напэўна, маміны… Першае паліто мне выдалі ў дзіцячым доме, і першыя рукавіцы. Капялюшык. Памятаю: у цемры ледзь-ледзь бялее твар Уладзі… Цэлымі днямі яна ляжыць і кашляе, яна захварэла на рудніках, у яе сухоты. Я ўжо ведаю гэтае слова… Мама не плача… Не памятаю, каб мама плакала, яна мала гаварыла, а потым, мабыць, наогул перастала размаўляць. Калі кашаль адыходзіць, Уладзя кліча мяне: «Паўтарай за мной… Гэта — Пушкін». Я паўтараю: «Мороз и солнце, день чудесный! Еще ты дремлешь, друг прелестный!». І ўяўляю сабе зіму. Як у Пушкіна.

Я рабыня слова… я слову веру абсалютна… Заўсёды чакаю слоў ад чалавека, і ад незнаёмага чалавека таксама, ад незнаёмага нават больш чакаю. На незнаёмага чалавека яшчэ можна спадзявацца. Як быццам і самой хочацца сказаць… і я рашаюся… Гатовая. Калі я пачынаю камусьці распавядаць, потым на тым месцы, пра які я казала, я нічога ўжо не знаходжу. Там пустэча, я губляю гэтыя ўспаміны. Там імгненна — дзірка. І трэба доўга чакаць, каб яны вярнуліся. Таму я маўчу. Я ўсё апрацоўваю ў сабе. Хады, лабірынты, норкі…

Шматкі… Адкуль у мяне ўзяліся гэтыя шматкі і абрэзкі? Рознакаляровыя, шмат малінавага колеру. Хтосьці мне іх прынёс. З тых шматкоў я шыла маленькіх чалавечкаў, стрыгла сабе валасы, рабіла ім прычоскі. Гэта былі мае сяброўкі… Лялек я не бачыла, нічога не ведала пра лялькі. Жылі мы ўжо ў горадзе, але не ў доме, а ў склепе. Адно сляпое акенца. Але ў нас ужо з'явіўся адрас: вуліца Сталіна, дом сямнаццаць. Як і ў іншых… як і ва ўсіх… у нас ужо быў адрас. Там я гуляла з адной дзяўчынкай… дзяўчынка была не са склепа, а з дома. Хадзіла ў сукенках і ў чаравічках. А я — у мамчыных галёшах… Я прынесла ёй паказаць гэтыя шматкі, на вуліцы яны глядзеліся яшчэ прыгажэй, чым у склепе. Дзяўчынка пачала іх у мяне прасіць, на штосьці хацела выменяць тыя шматкі. Я — ні завошта! Прыйшоў яе тата: «Не сябруй з гэтай жабрачкай», — сказаў ён. Я зразумела, што мяне ўзялі і адсунулі. Мне трэба ціха сыйсці, хутчэй сыйсці з гэтага месца. Вядома, гэта ўжо сталыя словы, не дзіцячыя. Але пачуццё… тое пачуццё я памятаю… Табе так балюча, што ўжо няма крыўды і няма жалю да сябе, у цябе раптам многа-многа свабоды. А літасці да сябе няма… Калі літасць ёсць, то чалавек яшчэ не так глыбока зазірнуў, ён яшчэ не сыйшоў ад людзей. А калі ён сыйшоў, людзі яму зусім не патрэбныя, яму хапае таго, што ў ім самім. Я занадта глыбока зазірнула… Мяне цяжка пакрыўдзіць. Я рэдка плачу. Мне смешныя ўсе звычайныя беды, жаночыя крыўды… Для мяне гэта шоў… шоў жыцця… Але калі я пачую, што плача дзіця… ніколі не міну жабрака… Ніколі не міну. Пах гэты я памятаю, пах бяды… Нейкія хвалі ідуць, я дагэтуль да іх падлучана. Гэта пах майго дзяцінства. Маіх пялюшак.

Я іду з Уладзяй… мы нясём пуховую хустку… Прыгожую рэч для нейкага іншага свету. Падрыхтаваная замова. Уладзя ўмела вязаць, на тыя грошы мы жылі. Жанчына расплачваецца з намі, а потым кажа: «Давайце я вам нарэжу кветак». Як — нам букет? Стаім дзве папрашайкі, у нейкай мешкавіне… галодныя, халодныя… І нам — кветкі! Мы заўсёды думалі толькі пра хлеб, а гэты чалавек здагадаўся, што мы здольныя думаць яшчэ пра нешта. Ты быў замкнёны, замураваны, а табе адкрылі фортку… акно расчынілі… Аказваецца, акрамя хлеба… акрамя ежы… нам можна даць і букет кветак! Значыць, мы нічым ад іншых не адрозніваемся. Мы… такія ж… Гэта было парушэннем правілаў: «Давайце я вам нарэжу кветак». Не нарву, не збяру, а нарэжу ў сваім садзе. З гэтага моманту… Мармыча, гэта быў мой ключ… мне далі ключ… Мяне гэта перавярнула… Я памятаю той букет… вялікі букет касмей… Цяпер заўсёды іх саджаю ў сябе на дачы. *(Мы сядзім якраз у яе на дачы. Растуць тут адны кветкі і дрэвы.)* Я нядаўна ездзіла ў Сібір… Горад Змеінагорск… вярнулася туды… Шукала нашую вуліцу… наш дом… наш склеп… Але дома ўжо няма, дом знеслі. Ва ўсіх пытала: «А вы памятаеце?» Адзін стары ўспомніў: так, у склепе жыла прыгожая дзяўчына, яна хварэла. Людзі больш запамінаюць прыгажосць, чым пакуту. І букет нам падарылі, таму што Уладзя была прыгожая.

Я пайшла на могілкі… Ля самых варотаў стаяла вартоўня з забітымі вокнамі. Доўга стукала. Выйшаў вартаўнік, ён быў сляпы… Што за знак? «Не скажаце, дзе хавалі ссыльных?» — «А… та-а-ам…» — і махнуў рукой ці

то ўніз, ці то ўгару. Нейкія людзі павялі мяне ў самы далёкі кут… Адна трава там… адна трава… Уначы не спала, таму што задыхалася. Спазм… такое пачуццё, што хтосьці мяне душыць… Уцякла з гасцініцы на станцыю. Пешшу праз увесь пусты горад. Станцыя была зачынена. Села на рэйкі і да раніцы чакала. На адхоне сядзелі хлопец з дзяўчынай. Цалаваліся. Развіднела. Прыйшоў цягнік. Пусты вагон… Уваходзім: я і чацвёра мужчынаў у скураных куртках, голеныя, падобныя да крымінальнікаў. Пачалі частаваць мяне агуркамі і хлебам. «Бум у карты гуляць?» Мне не было страшна.

Нядаўна ўспомніла… Ехала і ўспомніла… у тралейбусе ехала… Як Уладзя спявала: «Я могилу милой искал / Но найти ее нелегко…». А аказваецца, любімая песня Сталіна… калі яе спявалі, ён плакаў… І я не адразу разлюбіла, гэтую песню. Да Уладзі прыходзілі сяброўкі, звалі на танцы. Я ўсё гэта памятаю… Мне было ўжо шэсць ці сем гадоў… Я бачыла, як у трусы замест гумкі яны зашывалі дрот. Каб нельга было сарваць… Там жа адны ссыльныя… зэкі… Забівалі часта. Пра каханне я таксама ўжо ведала. Да Уладзі прыходзіў прыгожы хлопец, калі яна хварэла — ляжала ў нейкіх анучах, кашляла. А ён так на яе глядзеў…

Мне балюча, але гэта — маё. Я нікуды ад яго не бягу… Не магу сказаць, што я ўсё прыняла, удзячная за боль, тут трэба нейкае іншае слова. Цяпер я яго не знайду. Ведаю, што ў гэтым стане я далёка ад усіх. Я адна. Узяць пакуту ў свае рукі, валодаць ёй цалкам і выйсці з яе, штосьці адтуль вынесці. Гэта такая перамога, толькі ў гэтым ёсць сэнс. Ты не з пустымі рукамі… А інакш навошта было спускацца ў пекла?

Вось хтосьці падводзіць мяне да акна: «Паглядзі, вунь вязуць твайго бацьку…». Незнаёмая жанчына цягнула штосьці на санках. Кагосьці ці штосьці… захутанае ў коўдру і перавязанае вяроўкай…

Потым мы з сястрой хавалі нашу маму. Засталіся адны. Уладзя ўжо ледзь хадзіла, у яе аднімаліся ногі. Скура адслойвалася як папера. Ёй прынеслі бутэлечку… Я думала, што гэта лекі, а гэта была нейкая кіслата. Атрута. «Не бойся…» — паклікала яна мяне і дае гэтую бутэлечку. Яна хацела, каб мы разам атруціліся. Я бяру гэтую бутэлечку… Бягу і кідаю яе ў печ. Шкло разбіваецца… Печ была халодная, там даўно нічога не варылася. Уладзя заплакала: «Ты ўся ў бацьку». Хтосьці нас знайшоў… Можа, яе сяброўкі? Уладзя ляжала ўжо ў непрытомнасці… Яе — у лякарню, мяне — у дзіцячы дом.

Бацька… Я хачу яго ўспомніць, але як ні намагаюся, не бачу яго твара, няма ў маёй памяці яго твара. Потым я ўбачыла яго, маладога, на фатаграфіі ў цёткі. Праўда… я на яго падобная… Гэта наша з ім сувязь. Бацька ажаніўся на прыгожай сялянскай дзяўчыне. З беднай сям'і. Хацеў зрабіць з яе пані, а мама заўсёды насіла хустку, насунуўшы яе нізка-нізка на бровы. Не пані. У Сібіры бацька не доўга жыў з намі… ён сыйшоў да іншай жанчыны… А я ўжо нарадзілася… Я была пакараннем! Праклёнам! Ні ў каго не было сілаў любіць мяне. І ў мамы таксама не было гэтых сілаў. Гэта запраграмавалася ў маіх клетках: яе роспач, яе крыўда… і нялюбасць… Мне заўсёды бракуе любові, нават калі мяне любяць, я не веру, мне ўвесь час патрэбныя доказы. Знакі. Яны патрэбныя мне кожны дзень. Кожную хвіліну. Мяне цяжка кахаць… я ведаю… *(Доўга маўчыць.)* Я люблю свае ўспаміны… Люблю свае ўспаміны за тое, што там усе жывыя. У мяне там усё ёсць: мама… тата… Уладзя… Мне абавязкова трэба сядзець за доўгім сталом. З белым абрусам. Я жыву адна, але ў мяне на кухні стаіць вялікі стол. Можа, яны ўсе са мной… Я магу ісці — і раптам паўтару нечы жэст. Не мой… Уладзін жэст… ці мамчын… Мне здаецца, мы датыкаемся рукамі…

Я — у дзіцячым доме… У дзіцячым доме сіротаў-асадніка ў выхоўвалі да чатырнаццаці гадоў, а потым адпраўлялі на руднікі. І ў васямнаццаць гадоў — сухоты… як ва Уладзі… Гэта лёс. Дзесьці далёка, казала Уладзя, у нас ёсць дом. Але вельмі далёка. Там засталася цётка Марыля, мамчына сястра… Непісьменная сялянка. Яна хадзіла, прасіла. Чужыя людзі пісалі лісты. Не разумею і цяпер… ну як? Як яна дамагалася? У дзіцячы дом прыйшло распараджэнне: адправіць мяне разам з сястрою па вось такім адрасе.

У Беларусь. У першы раз да Мінска мы не даехалі, у Маскве нас ссадзілі з цягніка. Усё паўтарылася: Уладзю — у яе пачаўся жар — у лякарню, мяне — у ізалятар. З ізалятара — у прыёмнік-размеркавальнік. Сутарэнне, пахла хлоркай. Чужыя людзі…

Я ўвесь час жыву сярод чужых людзей… Усё жыццё. А цётка пісала… пісала… Праз паўгода знайшла мяне ў тым прыёмніку. Ізноў я чую словы «дом», «цётка»… Мяне вядуць да цягніка… Цёмны вагон, толькі асветлены праход. Цені людзей. Са мной — выхавальніца. Даехалі да Мінска і ўзялі квіток у Паставы… я ўсе гэтыя назвы ведаю… Уладзя прасіла: «Ты запамінай. Запомні: наш маёнтак Соўчына». З Пастаў ідзём пешшу ў Грыдзькі… у цётчыну вёску… Селі каля моста перадыхнуць. А тым часам сусед ехаў з начной змены на ровары. Спытаў, хто мы. Адказалі, што прыехалі да цёткі Марылі. «Так, — сказаў ён, — правільна ідзяце». І, відаць, перадаў цётцы, што бачыў нас… яна пабегла насустрач… Я ўбачыла яе і кажу: «А вось гэта цётка падобная на маю маму». І ўсё.

Стрыжаная «пад нулёўку», сяджу на доўгай лаве ў хаце дзядзькі Стаха, мамчынага брата. Дзверы адкрытыя, і праз праём відаць, што людзі ідуць і ідуць… спыняюцца і моўчкі глядзяць на мяне… Жывапіс поўны! Ніхто адзін з адным не размаўляе. Стаяць і плачуць. Абсалютная цішыня. Уся вёска прыйшла… І яны перакрылі мой струмень слёз, кожны плакаў са мной. Усе яны ведалі бацьку, хтосьці ў яго працаваў. Не раз я потым пачую: «У калгасе нам «палачкі» налічаюць, а Антэк (бацька) заўсёды разлічваўся». Вось яно — мая спадчына.

Нашу хату перавезлі з хутара на цэнтральную сядзібу калгаса, у ёй дагэтуль сельсавет. Я ўсё ведаю пра людзей, ведаю больш, чым хацелася б. У той жа дзень, калі чырвонаармейцы пагрузілі нашу сям'ю на калёсы і павезлі на станцыю, тыя ж людзі… цётка Ажбета… Юзэфа… дзядзька Мацей… разнеслі з нашай хаты ўсё па сваіх хатах. Дробныя пабудовы разабралі. Раскацілі па бярвенцы.



Фота В.К.

І малады сад выкапалі. Яблынькі. Цётка прыбегла… і панесла толькі вазон з акна на памяць… Не хачу я гэта памятаць. Ганю з памяці. Я памятаю, як вёска мяне няньчыла, насіла на руках. «Ідзём, Манечка, да нас, мы грыбоў наварылі…», «Давай малачка табе налью…». Сёння я прыехала, а назаўтра ў мяне ўвесь твар пакрыўся пухірамі. Пякло вочы. Не магла падняць павекі. Мяне за рукі вадзілі мыцца. У мяне выбольвала ўсё, выпальвалася, каб я паглядзела на свет іншымі вачыма. Гэта быў пераход з таго жыцця да гэтага… Цяпер я ішла па вуліцы, і мяне кожны спыняў: «Якая дзяўчынка! Ай, якая дзяўчынка!». Без гэтых слоў у мяне вочы былі б як у сабакі, якога выцягнулі з палонкі. Я не ведаю, як я глядзела б на людзей…

Жылі цётка з дзядзькам у каморцы. Хата ў вайну згарэла. Паставілі каморку, думалі, на першыя часы, і там засталіся. Саламяны дах, маленькае акенца. У адным куце бульбачка (цётчыны словы) — не «бульба», а «бульбачка», а ў іншым — парася віскоча. Ніякіх дошак на падлозе — зямля накрыта аерам і саломай. Хутка сюды ж прывезлі Уладзю. Пажыла яна трохі і памерла. Цешылася, што памірае дома. Апошнія яе словы: «А што будзе з Манькай?»

Усё, што я даведалася пра любоў, я ведаю з цётчынай каморкі…

«Мая ты птушачка… — звала мяне цётка. — Мая жужалка… пчолка…». Я ўвесь час лапатала, церабіла яе. Я не магла паверыць… Мяне любілі! Любілі! Ты расцеш, а табой любуюцца — гэта такая раскоша. У цябе ўсе костачкі распростваюцца, усе цягліцы. Я танчыла ёй «рускага» і «яблочко». Мяне навучылі гэтым танцам у ссылцы… Спявала песні… «Есть по Чуйскому тракту дорога. / Много ездит по ней шоферов…», «Умру, в чужой земле зароют, / Заплачет мамочка моя, / Жена найдет себе другого, / А мать сыночка — никогда…». Набегаешся за дзень так, што ногі ўсе сінія-сінія, абадраныя — абутку ж не было ніякага. Ляжаш увечар спаць, а цётка твае ножкі закруціць у падол сваёй начной кашулі, сагрэе. Яна мяне спавівала. Ляжыш дзесьці каля жывата… як ва ўтробе… Таму я не памятаю зла… Я на зло забылася… дзесьці далёка яно ў мяне схавана… Раніцай прачыналася ад цётчынага голасу: «Я дранікі спякла. Паеш». — «Цётка, я спаць хачу». — «А ты паеш і спі». Яна разумела, што ежа… бліны… для мяне як лекі. Бліны і любоў. А дзядзька наш Віталік быў пастух, насіў на плячы пугу і доўгую берасцяную дудку. Хадзіў у ваенным кіцелі і галіфэ. Прыносіў нам з пашы «торбу» — там і сыр, і кавалачак сала — усё тое, чым яго частавалі гаспадыні. Святая беднага! Яна для іх нічога не значыла, не крыўдзіла, не абражала. Як для мяне важна ўсё гэта… каштоўна… Адна сяброўка жаліцца: «Няма грошай на новую машыну…», іншая: «Усё жыццё марыла, а так і не купіла сабе норковае футра…». Як праз шкло чую… Адзінае, пра што я шкадую, што не магу ўжо насіць кароткую спадніцу… *(Разам смяёмся.)*

У цёткі быў незвычайны голас… дрыготкі, як у Эдзіт Піяф… Яе звалі спяваць на вяселлях. І калі хтосьці паміраў. Я заўсёды з ёй… побач бягу… Памятаю… Вось яна стаіць-стаіць каля труны… доўга стаіць… У нейкі момант адлучаецца неяк ад усіх, падыходзіць бліжэй. Павольна падыходзіць… яна бачыць, што ніхто не можа сказаць гэтаму чалавеку апошніх слоў. Людзі хочуць, але не ўсе ўмеюць. І вось яна пачынае: «І куды ты, Анечка, ад нас пайшла… светлы дзень і ночку пакінула… хто цяпер будзе хадзіць па тваім двары… хто дзетак тваіх пацалуе… хто ўвечары кароўку сустрэне…». Ціха-ціха падбірае словы… Усё побытавае, простае, і яно ж высокае. Сумнае. Нейкая самая апошняя праўда ў гэтым простым. Канчатковая. Голас дрыжыць… І ўсе за ёй пачынаюць плакаць. Ужо забыта, што карова не падоена, муж п'яны дома застаўся. Змяняюцца твары, сыходзіць мітусня, на тварах праступае святло. Усе плачуць. Я саромеюся… і шкадую цётку… Вернецца яна дахаты хворая: «Ой, Манечка, галоўка шуміць». Але такое было ў цёткі сэрца… Са школы прыбягу… Маленькае акенца, іголка з палец… Цётка зашывае нашыя анучкі і спявае: «Агонь зальеш вадою, / Каханне ж анічым…». Я азорана гэтымі ўспамінамі…

Ад нашага маёнтка… Ад нашай хаты засталіся адны камяні. Але я чую іхняе цяпло, мяне цягне да іх. Прыязджаю туды, як на магілу. Я магу там заначаваць у полі. Хаджу асцярожна, баюся ступіць. Чалавека няма, а жыццё ёсць. Гул жыцця… розных жывых істотаў… Хаджу і баюся разбурыць нечы дом. Я і сама магу ўладкавацца дзе заўгодна, як мурашка. У мяне культ дома. Каб раслі кветкі… было хораша… Я памятаю, як у дзіцячым доме мяне вядуць у мой пакой, дзе я буду жыць. Белыя ложкі… Шукаю вачыма: ці не заняты ложак ля вакна? Ці будзе ў мяне свая тумбачка? Я шукаю, дзе будзе мой дом.

Цяпер… Колькі гэта мы сядзім і гаворым? За гэты час адгрымела навальніца… суседка прыходзіла… тэлефон званіў… Усё гэта ўплывала на мяне, на ўсё гэта я адгукалася. А на паперы застануцца толькі словы… Іншага нічога не будзе: суседкі не будзе, тэлефонных званкоў… таго, што я не сказала, але яно мільгала ў памяці, прысутнічала. Заўтра наогул я аб усім, можа быць, распавяду інакш. Словы засталіся, а я ўстану і пайду далей. Я навучылася з гэтым жыць. Умею. Іду і іду.

Хто гэта мне даў? Усё гэта… Бог даў ці людзі? Калі Бог даў, то ён ведаў, каму даваць. Пакута мяне выгадавала… Гэта мая творчасць… Мая малітва. Колькі разоў я хацела каму-небудзь усё распавесці. Прагаворвала. Але ніхто мяне ні разу не спытаў: «А далей што… далей?». А я ўвесь час чакала добрых ці дрэнных людзей, не ведаю, але ўвесь час чакала людзей. Усё жыццё чакаю, што мяне хтосьці знойдзе. І я ўсё яму распавяду… і ён спытае: «Ну, а далей што?».

Цяпер пачалі казаць: сацыялізм вінаваты… Сталін… Як быццам у Сталіна была ўлада, як у Бога.

У кожнага быў свой Бог. Чаму ён маўчаў? Мая цётка… наша вёска…

Я памятаю яшчэ Марыю Пятроўну Арыставу, заслужаную настаўніцу, якая наведвала нашу Уладзю ў бальніцы ў Маскве. Чужая жанчына… яна і прывезла яе да нас у вёску, унесла на руках… Уладзя ўжо зусім не хадзіла… Марыя Пятроўна дасылала мне алоўкі, цукеркі. Пісала лісты.

А ў дзіцячым прыёмніку-размеркавальніку, дзе мяне мылі, дэзінфікавалі… Я на высокай лаве… уся ў пене… магу саслізнуць, разбіцца аб цэмент. Слізгаю… спаўзаю… Чужая жанчына… нянька… падхоплівае мяне і прыціскае да сябе: «Маё ты птушанятка».

Я бачыла Бога.

**Пераклад з расійскай мовы.**

ПАЭМА

# ПРАЗОРЦА

Васіль МАКАРЭВІЧ

*Светлай памяці*
*ВАСІЛЯ БЫКАВА*

*1*
*Не слухаў ён*
*Ні гімнаў, ні канцон.*
*А днямі без адхлання і прадухі,*
*Мо тысячу, не меней, верацён*
*Круціў перад сабой,*
*Як папрадуха.*

*І на здзіўленне*
*Шчыруноў-ткачоў*
*На іх ён вёў не залатую нітку,*
*А чэргі кулямётных станкачоў*
*І трасы залпаў кожнае*
*Зеніткі.*

*На кроснах,*
*Што з мярэжамі нітоў, —*
*У шынялі, на ветры парыжэлым,*
*Ткаў рупна бёрдам агнявых франтоў*
*Палотны перамог*
*І паражэнняў.*

*Хоць час кідаў*
*Каменні ды глыжы,*
*Заносіў сцежкі жвірам і снягамі,*
*А вёрсты ўсцяж, нібыта панажы,*
*Уверх-уніз хадзілі*
*Пад нагамі.*

*Яснеў абсяг,*
*Ярчэй рабіўся зрок.*
*Душу, здаецца, працінала токам.*
*І вострай думкі точаны чаўнок*
*Мільгаў у кроснах з ніткаю*
*Утоку.*

*Ён добра знаў,*
*Што не адзін быў ткач.*
*Іх меліся брыгадныя арцелі.*
*Дзяругі ткаў ля партача партач,*
*Як за сцяной крамлёўскаю*
*Хацелі.*

*А ён не раз*
*Біў у сцяну плячом,*
*Пратэставаў наўмысна, а не здуру.*
*Бо не жадаў прыдворным стаць ткачом,*
*Прадажным трубачом*
*І трубадурам.*

*З размахам*
*Грозных франтавых атак,*
*Не тых, што са штабной аранжарэі,*
*Ён бёрдам грукатаў і гракаў так,*
*Аж недзе Віслы берагі*
*Дрыжэлі!*

*І не хацеў*
*І хвілі нават быць*
*У тым аркестры, што зрабілі зводным.*
*Ды ў барабан, як доўбняй, ззаўха біць*
*І ў ім лічыцца радавым*
*Ці ўзводным.*

*Ён пасміхаўся*
*З млына, што малоў*


Васіль Быкаў. XX стагоддзе

*І так грымеў, нібыта ў апраметнай,*
*Не пад Масквой, а на Зямлі Малой*
*На кон стаўляўся лёс*
*Другой сусветнай.*

*Хоць гул баёў*
*Даўно ўжо ацішэў,*
*І мірна дні па ўсёй зямлі ступалі,*
*З яго акопаў дымных і траншэй*
*Вайны святая праўда*
*Праступала.*

*2*
*Былы*
*Артылерыст і бамбардзір,*
*Магчыма, у імя святой «Пагоні»*
*З вайны ён генеральскі зняў мундзір*
*І маршальскія ўслед састрыг*
*Пагоны.*

*Брахні і звад*
*Акружаны кальцом, —*
*Штабістаў, з іх капрызнай панароўкай,*
*Ён распранаў не толькі да кальсон, —*
*Куды глыбей штабной*
*Татуіроўкі.*

*І з жонак іх*
*Паходна-палявых,*
*Якіх больш трэслі звады, а не ўхабы,*
*Зрываў ён німб герояў франтавых*
*З пластамі парфюмерыі*
*Пахабнай.*

*Хіба ён мог*
*Хаця б на міг забыць,*
*Як штабнікам загадвалі іх феі,*
*Які квартал у горадзе адбіць,*
*Якія трэба ўзяць для іх*
*Трафеі!*

*Ды ці маглі*
*Кастраты-бабылі*



*Аж да світання церабіць капусту?!*
*Адно што рады з локцямі былі*
*На грудзі кралі ўзлезці,*
*Як на бруствер.*

*Калі ён, вораг,*
*З кулямётаў сек*
*І бомбамі зямлю вярнуў дый тузаў, —*
*Хутчэй хавалі не шматвёрстку ў сейф,*
*А прасталыткі ліфчык*
*Ці рэйтузы.*

*І так заўсёды,*
*Кожны раз было, —*
*За ўзяты горад, Кенігсберг ці Прагу, —*
*Для пехацінцаў — медаля бяльмо,*
*А дзеля краляў — ордэн*
*За адвагу!..*

*Не мог зыбыць*
*Ён памяццю байца,*
*Што, адступіўшы аж да Сталінграда,*
*Апорай цвёрдай апасля Данца*
*Для штабнікоў былі*
*Заградатрады!*

*Як за глухой*
*Каменнаю сцяной,*
*Яны заўята, з пільнасцю сычынай,*
*Сядзелі ў пехацінцаў за спіной,*
*За кожным рухам у прыцэл*
*Сачылі.*

*З душой звярынай,*
*Што ў густой паўсці, —*
*Хоць плямы у байцоў ірдзелі бантам,*
*Гвардзейцам не давалі адпаўзці*
*Да блізкага ратунку —*
*Медсанбата!*

*Бы ў змове з тымі,*
*Хто да Волгі лез, —*
*У вогненным задушшы, як у пекле,*
*Байцоў у клешчы бралі і, як лес,*
*Валілі долу, з кулямётаў*
*Секлі…*

*Ў дзень Перамогі*
*З гуртам дружбакоў*
*Не мог трываць — пякла сляза сухая! —*
*Што першымі ў радах франтавікоў*
*Цераз паўвека чэшуць*
*Вертухаі.*

*На кожным*
*Ардэноў іканастас*
*Свяціўся так надраены да бляску,*
*Што ззянне залатое кожны раз*
*Сляпіла дзесь Курылы*
*І Аляску…*

*Дарма генштаб*
*Рыкаў, бы люты дог,*
*Пад ногі злыдні валуны каціў, —*
*Ён радавым упарта сплачваў доўг,*
*Што цыркачы штабныя*
*Не сплацілі.*

*Каб па зямлі*
*На захад слаўся мост,*
*Хоць воіны ў баях геройскі палі,*
*Яны ў зямлі стаялі навырост,*
*Нібы пяском засыпаныя*
*Палі.*

*Не знаўся*
*З бухгалтэрыяй двайной,*
*Дармо, што ўсюды ціснулі й давілі.*
*Вайна была дзеля яго вайной,*
*А не сцэнічным фарсам-*
*Вадэвілем!*

*У сэрцы нёс*
*Ён не адзін пісяг*
*І не шукаў адхлання і ў зацішку.*
*З акопа бачыў франтавы абсяг,*
*Нібы з паднебнай каланчы*
*Ці вышкі.*

*Палеглых*
*Памінаў ён без куцці*
*І не глядзеў у нетры гараскопа.*
*Гарматку нёс з байцамі, то каціў*
*Цераз вайной разрытую Еўропу.*

*3*
*Ад века*
*Ні на крок не адставаў,*
*Хоць бавіўся падчас і за фуршэтам.*
*Ды вусача ў Крамлі ён даставаў*
*Не толькі мімаходзь*
*І рыкашэтам.*

*Не мог цярпець*
*Фальшывай дураты*
*І казак, што жывуць і па сягоння, —*
*Бы ўсе, як ёсць, грымотныя франты*
*Прайшлі праз кабінет*
*І стол ягоны.*

*Які з яго*
*Быў тактык і стратэг,*
*Калі шашой Калужскай ці Кашырскай*
*У першы дзень вайны з Крамля ён збег,*
*На дачы дзесьці у закут*
*Зашыўся?!*

*Ды ўсё ж яго*
*Паплечнікі знайшлі,*
*Па нейкіх там прыкметах апаролі,*
*Каб за сталом сядзеў зноў у Крамлі*
*На тым жа месцы, ды у новай*
*Ролі!*

*А сам пасля*
*Не горш, чым пракурор,*
*Прывыкшы да хвалы і да авацый,*
*Хоць першы у Крамлі быў панікёр,*
*У панікёрстве іншых*
*Вінаваціў.*

*З генштаба*
*Мог наладзіць балаган.*
*Бо так, як у падполлі прывучылі,*
*У сто нітоў снаваў, як інтрыган,*
*Ды ткаў ён звад густую*
*Павучыну.*

*На зайздрасць*
*Лордаў — лонданскіх сычоў —*
*Ён за сталом у спрэчцы, як запарцы,*
*Трукач з усіх адменных трукачоў,*
*Сто Чэрчыляў абвесці мог*
*Ля пальца.*

*Хоць кожны дзень*
*Генштаб мудрэў, сталеў, —*
*А з позіркам, куды вастрэй ад брытвы,*
*На тым бліщчастым, як плато, стале*
*Лёс вырашаў ён кожнай*
*Новай бітвы!*

*Семінарыст,*
*Бязбожны абібок,*
*Дзеля якога не было закона,*
*Стаў для дзяржавы не бажок, а Бог.*
*Ну а партрэт напісаны —*
*Іконай!*

*Як чорт, хіцёр,*
*На слова быў васцёр.*
*Ды там, дзе ў бітву ён падчас улезе, —*
*Ў кацёл траплялі войскі, бы ў касцёр,*
*Ад танкаў заставаўся хлам*
*З жалезам.*

*Чуў ці не чуў,*
*Як дзесьці бор куваў.*
*Бо кожны міг, без сну і без адхлання,*
*Дзень Перамогі на стале каваў*
*Нібыта на грымотнай*
*Накавальні.*

*На ім ляжалі*
*З копаццю снягі*
*І рваны дол, што на марозе выстыў.*
*Як быццам грозный Курскае дугі*
*У стол зацята упіраўся*
*Выступ.*

*Было, што часам*
*Аж з-за сотні вёрст,*
*Апальваючы дрэў густое голле,*
*Ляцелі з віскам да яго наўпрост*
*Агрызкі сталі і брані*
*З вуголлем.*

*Ды хто забыў,*
*Калі наўзбоч застаў*
*Граніцу вораг неўспадзеў уздыбіў,*
*Ён, гэты стол, для невіноўных стаў*
*Бязлітаснаю шыбельняй*
*І дыбай.*
*І глуха гуў,*

*Бы карабельны верф, —*
*За ім да рання седзячы нядарма,*
*Маглі ўзляцець да маршала уверх*
*І ўпасці да сяржанта*
*Камандармы.*

*З-пад кулака*
*Друз сыпаўся, то лом,*
*Палохаючы ўвесь генштаб дачыста.*
*Ах колькі іх было за тым сталом*
*Учынена, і здзекаў*
*І злачынства!*

*А стол-глушэц*
*Зважаў і не зважаў,*
*Бы ў змове з цішынёю быў келейнай.*
*Ды пад цяжарам грузнуў і ўязджаў*
*У звады ды інтрыгі*
*Па калена.*

*…Ах, колькі раз*
*Пасля пустых прамоў,*
*Каб ведзьмака душа пайшла у пяткі,*
*Ён, франтавік, наводкаю прамой*
*Гваздаў па тым стале*
*З саракапяткі.*

***4***
*Паўпраўды*
*Ненавідзеў ён эрзац.*
*Ці не таму цэкоўцы, нібы магі,*
*Падачкамі хацелі прывязаць*
*Да звэдзганай дзяржаўнай*
*Калымагі.*

*І ўпарта*
*Падступалі зноў і зноў, —*
*А мо на іхні лад залемантуе?*
*На грудзі ўзвезлі фуру ардэноў*
*І прышпілілі Зорку*
*Залатую!*

*А ён,*
*Нібы фарватэрам рачным,*
*Ішоў супроць цячэння, сілы воднай.*
*І дзеля ўлад слухмяным і ручным*
*І хвілі не зрабіўся*
*Аніводнай!*

*Калісьці сам,*
*Да грознае вайны,*
*Падаўся ў свет з нямога захалусця.*
*І больш, відаць, ад звадаў сатаны*
*Ён ненавідзеў здраду*
*І халуйства.*

*Хаця, шчырун,*
*З усімі ў смагу смаг*
*І мудраваў над скрыняю Пандоры,*
*Яго імя з цэкоўскіх хтосьці дзяляг*
*Пад звягаю крамлёўскай*
*Прышпандорыў.*

*Як быццам*
*Не прасіў — патрабаваў,*
*Каб за мяжу, без каліва вагання,*
*Франтавіка былога трыбунал*
*Турнуў, нібы злачынцу,*
*У выгнанне!..*

*Зямля і свет*
*Хадзілі хадуном,*
*Аж з неба пух ляцеў, нібы з пярыны.*
*І сам ён задыхаўся дзень за днём,*
*Нібы ў гарачым воблаку*
*Парыльні.*

*Ад духаты*
*Ішлі ў вачах кругі.*
*І, каб у ёй дарэшты не зварыцца,*
*Ён вырваўся ў фінляндскія снягі,*
*Нібыта з цеснай клеткі*
*Ці звярынца.*

*І ўдзячны,*
*Як брыльянту, ледзяшу*
*З сяброўкаю, зацятаю самотай,*
*Студзіў падоўгу сэрца і душу,*
*Зарыўшыся ў глыбокія*
*Сумёты.*

*Пасля, як дома,*
*З венічкам удвух*
*Спяшаўся бегма на палок у лазню.*
*Ды з цела выганяў паганы дух,*
*Нібы сектанта-трасуна*
*Ці блазна.*




**Васіль Быкаў. XXI стагоддзе**



**Вёска Бычкі. Парэшткі роднага падворка**

*Зіма ляжала*
*У лясной глушы,*
*І цішыня плыла з-за гарызонта.*
*А ён у сотнях вод змываў з душы*
*Абразу, звягу, горыч*
*І згрызоты.*

*Бы раскусіў*
*Ён мудрасці арэх,*
*Паверыўшы у франтавое брацтва.*
*І вылятаў у прадсвітальны снег*
*З парыльні-астматычкі*
*Навабранцам.*

*Ды кроіў зноў*
*Пласты жыцця, бы торф,*
*Пад блізкія ускрыкі: «Віра», «Майна»!*
*Яго пазваў гасцінны Дзюсельдорф,*
*Каб жыць ён мог у Франкфурце-*
*На-Майне!*

*У новы век —*
*Інакшыя часы.*
*Сустрэчы з прымірэннем у кілішку,*
*Без вусцішнай нейтральнай паласы,*
*Франтавікоў і ворагаў*
*Калішніх.*

*І кожны,*
*Ветэран і афіцэр,*
*Глядзеў і мружыў вейкі вінавата,*
*Нібы ўзіраўся толькі што ў прыцэл*
*Артылерыйскай франтавой*
*Гарматы.*

*Ён баразну*
*І там вярнуў ды гнаў.*
*Вайны прарэхі безупынна латаў.*
*А век з вайной і за мяжой дагнаў,*
*Паклаў яго ў бальнічную*
*Палату.*

***5***
*Шапнуў ён*
*Празе залатой: «Бывай!» —*
*Падрэзаны хваробай, што пілою.*
*Хоць там і не павіннасць адбываў, —*
*Дадому вырываўся,*
*Як з палону.*
*Маленькі,*

*А злавесны, вузялок,*
*Якому й ведзьмакі не будуць рады,*
*Дармо што дзесь не глыбака залёг, —*
*Ды не далі яму хірургі*
*Рады.*

*Пакуль ён рыўся*
*Ў справах, бы ў пясках,*
*Не моўкнуў гул, нібы на пераправе:*
*Дамоў ці варта ўрэшце адпускаць?*
*На рызыку ніхто не мае*
*Права!*

*А — лекі?*
*І Нью-Ёрк і Галівуд —*
*У іх даляраў, як на звалцы смецця! —*
*Дастануць не таблетку — проста цуд,*
*Што гарантуе сто гадоў*
*Бяссмерця!*

*А што ён мог*
*Сказаць ім у адказ?*
*Хіба спяшаўся піць з уладай брагу? —*
*Зірне ён на Прыдзвінне толькі раз*
*І, як абруч, пакоціцца*
*У Прагу!*

*Рыпелі дзесь,*
*Аж вылі палазы,*
*І песня ў лад прасіла, як і трэба:*
*– Аэрадромшчык, друг, пераявязі*
*На бок другі Еўропы*
*Цераз неба!*

*І, як ішло*
*З аддаўненых часін,*
*З адненькім пёркам і, амаль улегцы,*
*Вяртаўся ён дамоў, як верны сын,*
*Каб у зямлю бацькоў*
*Навекі легчы!*

*Не дзеля шыку*
*Вольны час знайшоў,*
*І, як падчас былых гадоў застойных,*
*Калішніх зноў сабраў таварышоў,*
*Наладзіў з добрай гаманой*
*Застолле.*
*Як быццам рысу*
*Пад жыццём падвёў,*
*Згадаўшы нейкі там наказ прабабчын.*

*А што з вяртаннем дружбакоў падвёў, —*
*Няхай пасля нябожчыку*
*Прабачаць!*

*Зззяў летні дзень,*
*То зноў плыла імгла.*
*Каціўся быт па вызнанай калейцы, —*
*Сачылі пільна здані з-за вугла,*
*Каб часам ён не выкінуў*
*Каленца.*

*Хто ведаў,*
*Што уздрыгнуць і вяжы,*
*Зайздроснікі прыціхнуць пад брылямі,*
*Калі памчаць па кальцавой шашы*
*Яго на «хуткай» прама*
*Ў Бараўляны.*

*Адкрыў павекі —*
*Дактары наўкруг!*
*І ў міг апошні і жыцця і скону*
*Пабачыў ён, як скача цераз луг*
*Табун чырванагрывых*
*Пудкіх коней.*

***6***
*Пасля густых*
*Захлёбістых залеў,*
*Калі раскошна травіне і красцы, —*
*Нябожчыкаў такіх бы ў маўзалей,*
*А не ў пясок, і ў дамавіне,*
*Класці!*

*Хоць не сказаў*
*І ў тастаменце ён*
*Пра пахаванне, не зрабіў і коскі, —*
*Яго прыняў жалобны пантэон*
*У вечны спрат, каля шашы*
*Маскоўскай.*

*А лепшы друг,*
*Без джалістай пілы*
*І без рэкламнай хітрай буфанады,*
*Ў Фінляндыі сасватаў паўскалы,*
*І ў Мінск прывёз, як глыбу*
*Рафінада.*

*А дома,*
*Як заўсёды, нелады —*
*З ёй у сцяну ўпёрся і — ні з месца!*
*І не таму, што глыба на клады*
*Цераз вароты не магла*
*Пралезці.*

*За вокнамі*
*Цадзіліся дажджы,*
*І гул і тлум стаяў, як у прадзільні:*
*Чаму вось гэта глыба — з-за мяжы,*
*А не з узлесся ці палёў*
*Прыдзвіння?!*

*Ноч напралёт*
*У кабінетах соп*
*Даверані сінкліт заканадаўцаў:*
*Мажліва, зноўку Захаду падкоп,*
*А ці хітрушчы дар пралаз*
*Данайцаў?*

*Мо трэба ім*
*Трывожна ў рэйку біць —*
*Ён, камень, з гор прывезены ці з ляда,*
*Сабой натурай рознай можа быць —*
*І стаць прамой пагрозаю*
*Для ўлады!*

*Заслала неба,*
*Пэўна, так імглой,*
*Ці легла ноч па-над зямлёй скразная, —*
*Сказаць канкрэтна, што дапамагло,*
*Ніхто дасюль не можа*
*І не знае.*

*Мяняючы*
*Не меней сотні поз,*
*Падобны да калішніх балаголаў,*
*На край магілы камень сам дапоўз*
*І звесіў па-над ёю нізка*
*Голаў.*

*Дзень зіхаціць,*
*Шапоткі дождж імжыць,*
*Ці гром рване меч бліскавіцы з похваў, —*
*Глядзіце — тут, пад каменем, ляжыць*
*Не проста прах, а болей,*
*Чым эпоха!*

**2005, 2013 гг.**

АПОВЕД

# АКУЛЯРЫ А ЛЯ ДЖОН ЛЕНАН

Ігар СІДАРУК

Гэта былі звычайныя акуляры. Нават без шкельцаў. Карацей, такая звычайная металёвая аправа стандартнай формы а ля Джон Ленан. Пасуе яна далёка не ўсім, а мне дык увогуле была без патрэбы: паколькі заўсёды меў стопрацэнтовы зрок. Да ўсяго — без шкельцаў!..



Толькі мае субяседнікі, відаць, думалі крыху інакш. Таму білі подла, адмашыста, з адчаёвым гаканнем завяршаючы кожны бязжальны ўдар, — нібы прыпячатвалі мяне да халоднай цаглянай сцяны. Праўда, біць пачалі не адразу. А толькі пасля таго, як я начыста адмовіўся начапіць гэтыя акуляры, каб, значыць, бачыць усё навокал у нязменным і радасным светлагранні. Спачатку я ніяк не мог уцяміць, што гэта значыць. Потым смяяўся, потым злаваўся, аж нарэшце пакуль не выказаў усё, што я думаю і пра іх, і пра радаснае светлагранне, і пра металёвыя акуляры стандартнай формы а ля Джон Ленан.

Вось тут, можна сказаць, усё і пачалося. Спачатку яны білі мяне моўчкі. Потым прывялі ў належны стан, такі начапілі сілаю акуляры на пераноссе і ўжо пачалі біць, прыгаворваючы ды пераконваючы мяне ў тым, што карцінка навокал рэзка змяняецца ў лепшы бок і мне толькі варта прызвычаіцца да крыху нязвыклага напачатку ракурсу гледжання.

І, ведаеце, я нават спрабаваў гэта зрабіць. То жмурыў, то шырока расплюшчваў вочы. То скошваў іх, то зводзіў позірк на пераноссі. Аднак дарэмна. Упарта бачылася адно і тое ж: абшэрхлыя, вільготныя сцены з чорнымі праплешынамі, укормленыя, налітыя барвіннем морды маіх суразмоўцаў — і недзе за закратаваным акном — апошнія рэшткі назаўсёды знікаючага блакіту.

— Ну, што бачыш? Цяпер нармальна?! — гырчаў, пырскаючы пеністай слінаю, іх старшой. — Радасці — болей?!

— У халоднай труне бачыў я вашу радасць, підары! — яшчэ маючы сілы агрызацца, я спрабаваў сарваць з сябе гэтыя пакарабачаныя, скрыўленыя акуляры. — Упіхніце сабе іх у сраку, казлы! Калі чорнае — гэта чорнае, а белае — дык гэта белае, і ніяк няйначай! З гаўна сабе дурняў ляпіце, а не з мяне! Бач, мурлоцтва эсэсаўскае! Бездакорны зрок яны тут у лёхах мардуюць!

Невядома, што разззлавала маіх акулярных практыкантаў болей — словы пра «эсэсаўскае мурлоцтва» ці намёк на далёка не цывілізаваныя сутарэнскія метады вядзення душэўнае размовы, — але на мяне раптам пасыпаліся ўдары такой сілы, што чэрап гатовы быў покнуць, а жменька выбітых зубоў захрумсцела пад рэштамі ацалелых.

Толькі і гэта быў яшчэ не канец і нават не сярэдзіна.

Калі я так-сяк разляпіў залітыя крывёю вочы і да мяне пацяху стала вяртацца прытомнасць, самы плюгавенькі з гэтай групы злосна падняў акуляры з падлогі ды проста ўвагнаў іх мне ў твар. Яшчэ б крыху ўбок — і металёвая дужка дакладна прабіла б мне вока.



Мы табе зрок падправім! — наваліліся зноў на мяне дубаломы. — Ты будзеш бачыць рэчаіснасць як трэба! Ты будзеш яе любіць! Ты будзеш ёю ганарыцца і пра яе марыць!

— Ну што, як цяпер? Лепш бачыш? Паружавела табе?

Відаць, ён сам і блізка не разумеў двухсэнсоўнасць апошняй сваёй рэплікі: бо я навокал сапраўды ўжо нічога не бачыў, акрамя крывавага ружовага мроіска.

— А як... яшчэ болей пашарнела? — усё-такі здолеў вычавіць я бяззубым ротам.

— А як пачарнела, то мы табе зрок падправім! — наваліліся зноў на мяне дубаломы. — Ты будзеш бачыць рэчаіснасць як трэба! Ты будзеш яе любіць! Ты будзеш ёю ганарыцца і пра яе марыць!

Калі я ўжо амаль не мог паварушыцца і акуляры зноў займалі ганаровае месца на збітым у страшэнна-барвовае месіва твары, мне раптам падалося... што свет і сапраўды... неяк няўлоўна змяніўся да лепшага... неяк папрыгажэў і стаў болей прыязным і адкрытым.

Пасля чарговага раўнда гаворкі, калі я ўжо валяўся, адкінуўшы голаў, на падлозе, а па маёй аголенай спіне хадырам хадзіла нешта цвёрдае... ці сталёвыя пруты, ці то хакейныя клюшкі... свет раптам адкрыўся для мяне сваімі радаснымі і празрыста-дзіўнымі бакамі яшчэ болей, а сонечныя промні так і наравілі заліць усё памяшканне, якое ўвачавідкі павялічвалася ў сваіх аптымістычных памерах.

Потым... Потым я мала што памятаю. Адзінае што, калі боль быў проста дзікім і для звычайнага арганізму ўжо невыносным, здаецца, я сам прасіў, каб мне як мага хутчэй начапілі на нос акуляры, і нават крычаў, каб ані не думалі іх здымаць пры чарговым сеансе татальна-ўзорнай апрацоўкі.

Бо ў акулярах было лягчэй. Бо ў акулярах можна было вытрываць тое, што звычайнаму чалавеку ў такіх умовах вытрываць немагчыма.

А яшчэ потым... Ужо не памятаю анічога. Усё патанула ў крывава-барвовай светла-цемры. Здаецца, пад канец я за нешта распісаўся на дзіўнай зеленаватай паперы... здаецца, у нагрудную кішэню кашулі мне ўвапхнулі нешта цвёрдае...

***

Калі я, хістаючыся, выйшаў на вуліцу, дык адразу міжволі заплюшчыў вочы. Тое, што я ўбачыў, было няправільным, шкодным, дрэнным і ўвогуле не сапраўдным. Гэта падман, так не бывае. Няўжо планета сышла з арбіты, і зямля зрушылася навокал?!

Рука ліхаманкава пацягнулася да кішэні на пярэднім баку кашулі, дзе ляжалі акуратна складзеныя металёвыя акуляры стандартнай формы а ля Джон Ленан. Так-сяк іх намацаўшы, выцягнуў, паднёс да твару, расправіў дужкі за вушамі й нарэшце расплюшчыў вочы. І ў тое ж імгненне канчаткова вырашыў, што не здыму іх болей ніколі. Свет навокал зноў быў гуллівым, адкрытым, перапоўненым вясёлкавым шчасцем — такім, якім павінен быць.

Я ўсміхнуўся і няспешна рушыў у натоўп.

А насустрач мне нескончальным патокам ішлі такія ж усмешлівыя людзі ў акулярах стандартнай формы а ля Джон Ленан без шкельцаў.

22.09.11
м. Кобрынь

ВЕРШЫ

# ДЗЯЎЧЫНА БЕЗ ПАРАСОНА

Андрэй КОЗЕЛ

## Адказы

*Сонца чакае, калі наступіць дзень;*
*зоркі чакаюць надыходу ночы;*
*вецер пільнуе апалы ліст;*
*маланка вартуе першы гром;*
*неба ўпэўніваецца ў набліжэнні золку;*
*кветкі счакаліся чаканнем дажджу;*
*ваўкі спадзяюцца, што хутка поўня;*
*чалавек абнадзеены надыходам вясны;*
*адказы чакаюць сваіх пытанняў...*

## Сцэны

*Мы ўзводзім заводы,*
*каб лепей жылося;*
*мы кладзем дарогі —*
*трэба бачыць свет;*
*мы рамантуем машыны,*
*каб ехаць да сяброў;*
*мы абліцоўваем дамы,*
*каб цяплей жылося;*
*мы выкладаем дахі,*
*каб не баяцца дажджу;*

*але лепш за ўсё*
*мы будуем глухія сцэны*
*адно ад аднаго.*



***

*Пад першай*
*красавіцкай залевай —*
*дзяўчына без парасона…*
*Неба здзіўляецца*
*тваёй смеласці;*
*усе глядзяць*
*табе ўслед;*
*а дождж — шле*
*свае апладысменты.*

***

*Снег. Сакавік.*
*Маразы. Завірухі.*
*Нехта Галоўны*
*згубіў каляндар.*

***

*Прыемна, мілагучна*
*рэжа слых*
*родная гаворка:*
*мова хворая?*

***

*Не хочацца быць*
*адным з нейкіх многіх —*
*хоць кімсьці для многіх*
*хацелася б стаць!*

***

*Як быццам*
*хоча надыхацца*
*апошнім паветрам*
*у адзіноце дзед*
*на зэдліку*
*познім адвячоркам.*

## Разбітыя мары

*…І мары былі залатыя,*
*І гукі не рэзалі слых.*
*Мы думалі, што не такія,*
*Адрозныя мы ад усіх.*

*Ды зараз — гляджу ў твае вочы —*
*Не бачу чамусьці сябе.*
*А разам мы марылі крочыць,*
*І крочыць не так, як усе.*

*Канечне, мы не ідэальныя!*
*І хто б нас такімі зрабіў?*
*Хацелася быць унікальнымі,*
*Якім ніхто болей не быў.*

*А нашыя коні па крузе*
*Цягнулі карэту жыцця.*
*Па млечным кружылі мы лузе —*
*Цяпер гэта луг забыцця.*

*То залевы нам, то завеі.*
*Пойдзем — трэба рукі сагрэць! —*
*І там мы, здаецца, сустрэнем,*
*Тое, што не хацелі сустрэць.*

*Выходзіць — і мы з той жа скуры?*
*Цячэ ў нас звычайная кроў…*
*Жыццё мы малюем панурым —*
*Такіх дасягнулі высноў.*

***

*Два клёны пры полі*
*шэпчуць лістотай:*
*абдумваюць, што бачылі*
*за жыццё?*

***

*Вышэйшае за агароджу*
*стала дрэва:*
*таксама хоча*
*бачыць свет.*

ВЕРШЫ

# ЛОДКА КАХАННЯ

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ



## Студзень

*Больш каханай са мной не будзе,*
*хоць ты крычма крычы на свет!*
*Укруціў мяне жорстка студзень*
*у адчайны свой піруэт!*

*І панесла, ізноў панесла*
*лютым сіверам проста ў твар!*
*Ад халоднай студзеньскай песні*
*раптам страціў цярпення дар!*

*І пабег да цябе праз сцюжу,*
*праз злавесны студзеня смех!*
*Ты ж казала ў той вечар мужу:*
*«Закахацца ў другога — грэх!».*

*Ён таксама табе паверыў*
*і спакойна побач заснуў…*
*Ты ж цішком адчыніла дзверы —*
*і ў нікуды пад цішыню*

*зноў сыйшла, толькі цень дрыготкі*
*калыхнуўся — услед журбе,*
*быццам тая вольная котка —*
*пагуляць сама па сабе.*

*Муж прачнецца — цябе не ўбачыць,*
*у здзіўленні зірне ў акно:*
*безнадзейна ў начы гарачай*
*зразумее пра ўсё ізноў…*

*Ён цяпер, як і я, шукае*
*у світальнай студзеньскай мгле,*
*у халодных снягах без краю*
*твой няпэўны, як мроя, след!*

## Касцёр на снезе

*Валерыю Гараўцову*

*Парваўшы восеньскі спакой,*
*зіма зноў смела*
*накрыла ўсе шляхі наўкол*
*вэлюмам белым.*

*Згубіўшы да жыцця любоў,*
*забыты светам,*
*ішоў я некуды ізноў*
*без пэўнай мэты.*

*Накрыў халодны белы рой*
*палеткаў соты,*
*і спадарожніцай маёй*
*была самота!*

*Хавала сцюжа бы знарок*
*нябёсаў просінь,*
*накрыў мяне — як пастка — змрок*
*жорсткага лёсу.*

*Няведама куды я йшоў*
*па яго волі,*
*сляды мае, бы тонкі шоў,*
*сшывалі поле.*

*Іх тут жа снежань замятаў*
*так ашалела,*
*што ўрэшце я ледзь сам не стаў*
*там беллю белай!*

*Сагнуў буран жорстка ў дугу*
*няўзнак мне плечы,*
*Ды ўбачыў раптам праз пургу*
*— гарыць агеньчык!*

*Ён цудам быў у той старане*
*неверагодным!*
*Зазяў здалёк ён для мяне*
*Святой Паходняй!*
*Прабіць сцяну завеі змог,*
*бо меў знак веры!*
*Вакол сябе ён перамог*
*кавалак цемры!*

*Я разагнуўся ў поўны рост*
*з надзеяй новай,*
*і да яго пайшоў наўпрост*
*з малітвы словам!*

*І ўбачыў я —*
*дамок ў бары*
*стаіць трывалы,*
*і побач з ім касцёр*
*гарыць*
*праз сцюжы*
*ярасць!*

*Шыбуе весела агонь*
*амаль да неба!*
*Які дзівак развёў яго,*
*з якой патрэбы?*

*Я ля агню таго знайшоў*
*і хлеб, і чарку,*
*і зразумеў, касцёр нашто*
*гарыць тут ярка!*

*У змрочным нашым у жыцці,*
*святла дзе мала,*
*без перадыху ён свяціў*
*для заблукалых!*

*Быў маяком полымя знак*
*у іхным руху,*
*каб шлях знайсці было ім як*
*у завіруху.*

*Сагрэўся я, пакаштаваў*
*гасцінец шчодры,*
*і зноў далей пашыбаваў*
*у снежны морак.*

*І кладіся мае сляды*
*праз цалік ліха,*
*цяпер іх сцюжа не магла*
*ніяк засыпаць!*

*Касцёр той бы Рука Нябёс*
*мне запаліла,*
*і доўга шчэ ў сабе я нёс*
*ад яго сілу…*

## Лодка кахання

*Ў чужой незнаёмай лодцы*
*плылі мы праз акіян...*
*Якім жа ён быў салодкім*
*твой трапяткі стан!*

*Якім жа ён быў ахвочым*
*да ласкі маіх рук!*
*Якімі ж былі твае вочы*
*што ўсю ўвабралі зару!*

*Якім жа ён быў кароткім*
*міг гэты, быццам уздых…*
*Але, напэўна, той лодцы*
*не ўтрымаць нас дваіх...*

## Пявуння

*Я сустрэў цябе на Каляды,*
*ў Нараджэння Хрыстова дзень!*
*І як хлопчык малы, быў рады,*
*калі ты падарыла мне*

*ўсяго вечар адзін чароўны,*
*дзе былі мы толькі ўдваіх,*
*дзе не мог стаць табе я роўняй*
*і лавіў кожны твой уздых.*

*Ты здавалася мне то моцнай —*
*то праз міг — самай слабой,*
*лёгка ткаліся словаў кросны*
*пра нязводную нашу любоў.*

*Агарнула вачэй туманам*
*у той вечар новых дзівос,*
*і сустрэла са мною ранак*
*у расінках шчаслівых слёз.*

*І ўсю ноч сэрца абрывала*
*ты памкненнем кудысь сыйсці…*
*І спявала мне… Як спявала!*
*Мусіць,*
*як нікому ў жыцці!*

*Я пытаўся — куды імкнешся?*
*Ды адказу ўсё ж не пачуў…*
*Не заўважыў — як ты дарэшты*
*спаланіла маю душу!*

*А затым неспатольны горад*
*праглынуў цябе як у сне,*
*толькі водару твайго мора*
*доўга шчэ калыхала мяне.*

*Дзе ж ты зараз, мая пявуння?*
*Ў чый ты зноў увайшла давер?*
*Мне без песень тваіх сумных*
*немагчыма заснуць цяпер!*

## Дыстанцыя кахання

*Мне адказалі Вы: «Яшчэ не час!»,*
*хоць ведама, жыццё — усплёск імгненны,*
*а я па ім, як па лязе, да Вас,*
*ішоў насустрач — толькі ўсё дарэмна!*

*«Яшчэ не час!» — зусім быў не прысуд,*
*а проста як адкладзеная цацка,*
*якая не каштоўнасць і не цуд,*
*і з ёй не шкода мімаходзь расстацца.*

*Я мала так паспеў прайсці да Вас*
*на лёсаносным жорсткім пераломе,*
*і прыпыніўся — бо «яшчэ не час»,*
*і ў небе мая зорка сціхла ў стоме.*

*І я пакуль для Вас зусім чужы*
*і непераадольна шчэ далёкі,*
*Бо Рубікона міг даўно пражыў...*
*А Вы? Вы ўся ў няўрымслівым палёце*

*за прывідам, што дзесьці па зямлі*
*адну Вас — найадметную — шукае...*
*А дні плывуць, як і раней плылі...*
*А час вадой ў пясок цішком сцякае...*

*Ды парадокс — адлегласць да Мяжы*
*у Вас, як і ў мяне — амаль такая ж...*
*Ды не ў гадах, што дасць нам Бог пражыць,*
*а — у імгненнях, вартых для кахання!*

*І ўсё ж пакуль адказ: «Яшчэ не час!»...*
*Хоць насамрэч бліжэй за ўсіх на свеце*
*пакутная мая душа цяпер да Вас,*
*і песні Вам мае спявае вецер.*

*Дык хто ж адкажа — ў колькі вёрст для нас,*
*у колькі дзён, гадоў і справаў розных*
*дыстанцыя паміж «Яшчэ не час!»*
*і завяршальна-незваротным «Позна?!»*

УРЫВАК З РАМАНА

# ПРЫТУЛА

Віктар БАРАНАЎ



Твае грамавыя словы, узмоцненыя мегафонам, ляцелі ў твары, сцягі, транспаранты і звыш усяго таго — далей над галовамі і сцягамі, у халодны, настоены на сталых зацятых маразах прыцемак начнога горада, б'ючыся і адбіваючыся рэхам ад сценаў і будынкаў, коцячыся па бруканках і асфальтах.

Ты стаяў на подыуме-ўзвышэнні, збітым з дошак незадоўга перад пачаткам мітынга пасярод плошчы, асвечанай імем святой Сафіі; разам з табою стаялі галоўныя дзеячы апазіцыі, перад вамі аж да самых пабудоў па перыметры плошчы тоўпілася зборышча — пасля першых вашых слоў ужо і не зборышча ці натоўп, а сіла людская, што верыла ў вас, а вы ў яе, і ад гэтага рабілася ўзаемна радасна, шчасліва, урачыста, быццам у храме; кожнае людское сэрца налівалася вераю, пэўнасцю, рашучасцю ісці за вамі, выразнікамі народнага гневу і патрэбы справядлівасці ды праўды. І не хацелася думаць, што праз які час, калі абязлюдзее плошча, кожны тут прысутны апынецца адзін на адзін з халодным вечарам і ўласным лёсам, нікому наогул не патрэбным і жалю вартым, як вартай жалю бывае саспелая галава сланечніка, сарваная са ствала і пазбаўленая свайго месца ў гурце іншых галоў на полі.

Ты яшчэ ўглядваўся ў гэтыя расчырванелыя твары, услухоўваўся ў напружанае, напоўненае моцай, гудзенне плошчы — гулі людскія сэрцы і камені пад нагамі, гуў купал нябеснай сферы, ты ўжо амаль гатовы быў ашчасліўіцца магчымым хуткім здзяйсненнем усёй вашай справы (з вамі ж во колькі народу, і якога народу — залатога, шчодрага, мудрага і свабодалюбнага!), але ў той жа час ты, даўно не наіўны рамантык, ужо адчуваў пад сэрцам зімнае вастрыё мінору. Бо ты ж добра ведаў, якія мы ёсць не ў гурце, не ў грамадзе, а з вока на вока з будзёншчынай, адзін на адзін з адвечнай думаю, што яе як не думай і перадумвай, а ўсё адно паверне на журбу і маркоту, і тады нікому няма клопату да яшчэ не схаладнелага пляцавага братэрства і яднання, аднадумства і рашучасці — тады кожны валтузіцца саматугам, і панятак «народ» губляе сілу, а слова «натоўп» набывае сапраўды арыфметычнае значэнне, як мноства адзінак і не болей за тое.

Ты любіш гэтых людзей — і іх жа баішся. Яны са шчырaю вантробнаю радасцю ўспрынялі вас як правадыроў, зацята і ўпарта не ўяўляючы сябе ў гэтай ролі і ўсяляк адганяючы нават думку пра гэткае; яны палохаюцца такой думкі, песцячы ў генах сіндром вечна вядзёных, але такіх, якім прагнецца справядлівасці і якія здольныя марыць аб ёй з пакалення ў пакаленне, але толькі марыць — і ні на рух мезенца болей. Яны глядзяць на вас, галоўных апазіцыі, слухаюць вашыя ўзвіхраныя прамовы і хочуць чуць у іх тое, што разганяе ім застаялую кроў і абуджае з адвечнай звычнай дрымоты найтаемныя спадзяванні жыць у свеце справядлівым і жыць усім па праўдзе, аднак яны болей лічаць за лепшае хацець гэтага, чым нешта зрабіць дзеля гэтага ўласнаручна. Ім хочацца правадыроў, каб тыя ўзялі іх за натруджаныя парэпаныя рукі і пад сурмавыя маршы перавялі з плошчы ў райскі кут, створаны кімсьці іншым для кожнага з іх, дзе ўсяго ўдосталь і дзе правіцелі ў такіх жа дакладненька кутах на аднолькавых правах, лыжкаю з такога самага металу і такога самага памеру сёрбаюць гарачае варыва з аднаго на ўсіх катла. Ім патрэбны правадыр — іхні аднадумнік, здольны апусціцца да іхняга разумення агульнага дабра, да ўзроўню іхняга душэўнага болю, да іхняга інтэлекту — аднак не вышэй і не болей ні на ёту. Яны, млеючы знутры, аддаюць вам, кіраўнікам апазіцыі, сваё законнае права спытаць ва ўлады, калі ж нарэшце настане абяцанае «працвітанне»; ды калі вам не ўдасца дастукацца ў дзверы ўлады, або калі яна, добра ўсведамляючы, хто і ад імя якога народа стукаецца, не захоча адчыніць вам дзверы ці й наогул спусціць на вас цэрбераў з ланцугоў — вось тады не даруюць вам вашага бяссілля перад уладай: бяссілля, адзінаю і найпершаю прычынаю якога ёсць іхняя надзвычайная, тупая, закарэлая абыякавасць да ўласнага лёсу. О, народзе! — думаеш ты і сам не ведаеш, што трэба разумець пад тым народам. Ці ганарыцца ім, ці яго праклінаць.

Што ж гэта за люд найдзівосны, які не ведае і ведаць ужо не жадае сваіх продкаў, адсекшы памяць аб іх на трэцім (і не далей!) калене, а пад абрусам на адзіным у хаце стале хавае выпадкам заробленыя грошы: дык ты ж далей руку пад той абрус прасунь — а раптам знойдзеш там даўнюю метрыку і дакранешся да таямніц радаводу свайго, і адкрыецца табе адно з імёнаў дрэва, на адной з галінак якога выкалыханы і ты ў перадаванай у спадчыну калысцы, і табе, радасна агаломшанаму тым адкрыццём, прасцелецца сцежка да забытай, задзірванелай і закуставанай, ужо амаль нічыёй магілы, і ты пойдзеш на яе бязгучны голас, станеш над ледзь ацалелым грудком зямлі, і душа твая заззяе ад нікому, апроч цябе, не чутнага голасу з-пад тоўшчы зямное, на покліч якога ты прыйшоў, і ты ўсвядоміш па-новаму, глыбінна і ўжо ніколі не забудзеш, што на гэтай зямлі ты не ўзяўся ніадкуль, што ты тут не байструк гісторыі, што карані твайго роду вечныя ў часе і прасторы і што пакуль гучацьме табе той голас продкаўскі, датуль і зямля гэта, і свет гэты ў часе і прасторы ёсць твае, і нават хай цябе, народзе загадкавы, заб'юць і скуру здзяруць у каталажцы — ты ўсё адно застанешся тут вечна, бо ніхто цябе не заменіць, бо ніякіх заменнікаў ні з якіх іншых земляў не ўспрымуць косткі тваіх продкаў, а голас іхні гудзецьме ў вушах прыхадняў, пакуль не давядзе іх да вар'яцтва.

Ты, народзе надзвычайны, за схаванымі для сябе заўтрашняга (але ад сябе сённяшняга!) некалькімі паперчынамі з партрэтамі гетманаў, не бачыш нічога іншага, апроч саміх партрэтаў; а там жа — «вывад правоў і вольнасцяў», і якраз правы на тыя вольнасці, занядбаныя з часам недалужнымі паводырамі ды тваёй валовай абыякавасцю (ідуць валы запыленым шляхам, капыты размерана-наканавана апускаюцца ў нагрэты пыл: пых! пых! пых! — узымаюцца над капытамі клубкі пылу і зноў садзяцца на зямлю, вырачаныя на доўгае і пакорнае ляжанне; cinis et umbra sumus) і нахабна занядбаныя ад чужога да яшчэ больш чужога цара. Царскія знакі на тваёй зямлі яшчэ і цяпер ахоўваюцца законам суверэннай быццам бы дзяржавы, замест гэтага твае гетманы спачываюць (дзе там спачываюць — мардуюцца на тым свеце!) невядома дзе, па чужых краях, і хто і калі збярэ тое, што ад іх засталося, у адзіны ўкраінскі пантэон: тут вось Піліп Орлік, тут Іван Сірко, тут Мазэпа, за ім Канашэвіч-Сагайдачны, Дарашэнка адзін і Дарашэнка другі, Іван Выгоўскі, Багдан-Зіновій Хмяльніцкі, Калнышэўскі Пятро, Скарападскі Паўло… Розныя яны, не аднолькавыя роздумамі пра твой лёс, народзе, але ж думы іх былі пра цябе і Украіну.

Ідэя пантэона выштурхнула вас, на той час пакуль і не галоўных у апазіцыі, у Маскву. Тады яшчэ ўсесаюзны Крэмль займаўся харчовай праграмай і дамаляваннем «людскога твару» да даўно прасмярдзелага, забруджанага бальшавікамі сацыялізму, і на Кіеўскім вакзале Масквы вас нечакана сустрэла родная дыяспара ў выглядзе стыхійных базарных радоў уздоўж ходнікаў і гранітных парапетаў. Тут паўнакроўна раскашавала мова твайго люмпен-пралетарыяту, любоўна выпешчанага яшчэ «Вялікім Кастрычнікам»: семечкі, гаўядзіна, руб, дохтарськая каўбаса, почкі, пічонка… Твая Украіна стаяла на маскоўскіх асфальтах як апошняя перакупшчыца, якая сваё ж і прадае за бесцань, ад рота ўласнага адараўшы, а ў гэты час недзе ў палітычнай падваротні белакаменнай накормлены з вялікадзяржаўнай цыцкі вырадак разводзіў чарніла, якім праз год-другі напэцкае на кавалку фанеры лозунг і выйдзе з ім на Старую плошчу: «Ельцын! Заставь хохлов накормить Москву!». Каля Крамля ты пачуеш замучаны голас ушчэнт абыякавага экскурсавода, які распавядае чарговай групе турыстаў пра Кутаф'ю вежу і не можа толкам растлумачыць, адкуль пайшла тая назва («Видите, она какая-то неуклюжая, отсюда и называется Кутафья»), аж табе захацелася крыкнуць ашуканым экскурсантам, што тая вежа кутняя, куткавая, таму так і завецца, а «неуклюжесть» ваша маскоўская — ад невуцтва і нежадання прызнаць, што і мова, і вера, і асвета з навукаю, і чароўныя спевы з непараўнальнай музыкай прыйшлі да вас з Кіева, з Украіны, якой вы з часам і адплацілі ад шчадротаў сваіх варварскіх. Ды нават назва народу вашага і краіны ўкрадзены ў нас, прыватызаваныя на вечныя времена.

Ды вам не да Масквы ў той час. Недзе там пад Валакаламскам, гэта дарогаю ўбок Смаленска, у Ярапольчым сяле, перакручаным у Яраполец, спачывае ад юдолі зямной Пятро Дарашэнка, з радавога гнязда якога — і прыгажуня Наталі Ганчарова, Пушкіна жонка і маці яго чатырох дачок. Вы доўга едзеце «Ікарусам», дадзеным украінскім таварыствам у Маскве «Славуціч» (сам старшыня таварыства Паўло Раманавіч удзяліў вам колькі хвілінаў для фуршэтных зносінаў, прыбыўшы на сустрэчу ў суправаджэнні з яшчэ адным земляком — намеснікам Рафіка Нішанавіча ў палаце ўсесаюзнага парламента, сябрам сям'і самога кампартыйнага памазаніка; на фуршэце той другі зямляк падыдзе да цябе з фужэрам мінеральнай і па-сяброўску даверліва наракацьме, што нейкая ўкраінская газета назвала яго проста паэтам, апусціўшы цяперашнія яго высокаслужбовыя тытулы, а гэта ж патрэбна не яму асабіста — дзеля прэстыжу Украіны патрэбна, а яны, пісакі-недарэкі, лапухамі вушы панакрывалі, і іх «не прашыб'ёш»), у дарозе цябе ўразяць нябачанай вышыні бярозы ў гушчары прышашэйнага лесу ды мілае шчабятанне жанчынкі-функцыянеркі са «Славуціча»: аж не верыцца, што можна дзесяцігоддзямі жыць у Маскве і зберагчы такое прыгожае, такое прыроднае ўкраінскае вымаўленне.

У Ярапольчым кіроўца без падказкі (пэўна, гэта яму не ўпершыню) кіруе да плошчы ў цэнтры сяла, вы самлелымі нагамі ступаеце на зямлю, у якой ляжыць вялікі ўкраінскі гетман, ашуканы, як і амаль усе гетманы, царом. У невялікай агароджы з металічных прэнтаў — камлыга калісьці белага, а цяпер ужо сшарэлага ад стагоддзяў вапняку, мечаная дажджамі, градам, зацятымі паўночнымі завірухамі і чыімісьці неразумнымі рукамі; вычаканеныя на ёй літары ўжо не чытаюцца; у адным з куткоў агароджы вольна раскашуе куст бэзу; сіняя фарба на прэнтах узялася аблупінамі. «Вось гэтак яны дагледаюць магілу гетмана?!» — хочацца табе закрычаць, але — да каго: апроч вас да гетмана нікому няма справы, дый чаму мела быць, калі чужы ён тутэйшым абарыгенам, а перад чужым чыё ж сэрца здрыганецца, вось паедзеце вы адсюль — выкалышацца бэзавае галлё ўвысь і ўшыркі, затуліць сабою і агароджу, і пашарэлы вапняк над касцямі Пятра Дарашэнкі. Ярапольчае проймецца сваімі згрызотамі, вунь у сельмагу, драўлянай пабудове на высокім каменным падмурку, за нейкіх дваццаць метраў ад магілы, якраз «выкинули» кансерваваную кільку ў тамаце, для сельскай глыбінкі — супердэфіцыт, і берагіні вашага гетмана, такія саменькія жанчынкі і бабулькі, як і ва ўкраінскіх сёлах, у такіх звычных тваіму воку і аж родных куфаечках, прыступам бяруць магазін і з часам задаволіўшы свае матэрыяльныя патрэбы сеткаю кансерваў, ад няма чаго рабіць (і чаго яны ўсё прыязджаюць да тае камянюкі!) падыходзяць да вашага гурта. Кабзар сама спявае «Повіяв вітер степовий …», разносіцца нязвычны для абарыгеннага вуха перазвон струнаў бандуры, бабулі стаяць воддаль адасобленым гуртком, і на старэчых, збрыджаных векавым выглядданнем лепшае долі абліччах выразна прачытваецца запытальнае здзіўленне: няўжо недзе ў свеце людзі гавораць не так, як яны? Ох уж эти хохлы: вечно им неймется.

Гэтую фразу ты пачуў бы, нават калі б напіхаў у вушы ваты. Кінутая зноў жа такі ад нечага рабіць, яна ўгрызлася ў цябе, уелася кляшчом, пякла цябе ўсю дарогу да Масквы і ад яе да ўкраінскай, дагэтуль не існуючай мяжы, яна даймала цябе тым балючай, што моўлена была не палітыканам-шавіністам, не зацятым вялікадзяржаўніцкім ротам, не падазроным перабежчыкам-маларосам — яе спакойна, бясколерна, незласліва і менавіта праз гэта страшна для тваёй украінскай сутнасці прашамкацелі губы падмаскоўнай бабулькі ў задрыпанай кухваечцы, праз руку якой звісае сетка, поўная дэфіцытнага ў гэтых краях далікатэсу — кансерваванай кількі ў тамаце, па трыццаць сем капеек за бляшаначку, на якую ва ўкраінскім сяльмагу ніхто і вокам не маргне, за путны харч не лічачы.

Ты вяртацьмешся з Масквы і зажыўляцьмеш прычыненую рану шчымлівым суцяшэннем, што твой народ — не такі, што ён і гасцінны, і міласэрны, і да іншаземцаў цярпіма-талерантны (хоць, можа, не кожны дзядзька і чуў такое слова), а што песень незлічонаю процьму ўжо навыспеўваў сабе і ўсяму свету! — дзе яшчэ знойдзеш такі практычна ідэальны народ.

Дык чаму ж ты яго баішся, чаму пачуваеш сябе амаль самотным ваўком сярод гэтай шматлюднай плошчы, чаму пад сэрцам угняздзіўся холад не ад прымарожанай вячэрняй часіны, а ад незразумелага неспакою за ўсю вашую справу, у якую ты і сам часам верыш небезаглядна, бо ж не ўзяўся зніадкуль той халодны скавыш, што выстуджвае спярша думку, а далей і душу.

І ў тваёй памяці сплывае майскі Канеў, міжнароднае Шаўчэнкаўскае свята; вы, яго афіцыйныя ўдзельнікі (складзены адпаведныя імянныя спісы), падымаецеся прыступкамі на Чарнечую гару, кожнаму загадана прышпіліць на віднаце бірку-візітку (нехта сказаў пра яе «пэйджык», гэта ад англійскага «page» — старонка, аркушык, але хіба няма ўкраінскага адпаведніка?) з эмблемай свята і прозвішчам удзельніка, і па той бірцы вас, быццам авечак да кашары, прапускаюць шчыльныя міліцэйскія кардоны, і хтосьці з іхняга начальніцкага рангу, нягледзячы на прысутнасць замежных гасцей, перадае па рацыі сваім шматлікім падначаленым уздоўж усяго шляху на Гару па ўсходах: «Отсекай лишних! Лишних отсекай!..». Лішнія — гэта па-святочнаму ўбраны люд каля падножжа Гары, яму не положено ісці на самую Гару да магілы Прарока, бо там чакаецца прыезд Прэзідэнта; для іх, тых, што без «пэйджыкаў», але ў разнастайных нацыянальных строях, у святасць якіх яны яшчэ надзіва не зняверыліся, панатулена ўнізе на

прасторных травяністых палянах усялякіх палатак, стылізаваных карчомак, проста немудрагелістых «забягайлавак», у якіх шараварна прыбраныя расійскамоўныя гандляркі запрашаюць выпіць гарэлачкі і закусіць чым Гасподзь паслаў.

Ты азіраешся на таго, хто перыядычна і адкрыта вымагае «отсекать лишних», і дзівішся: не, быццам бы і не падобны ён на прысланага з Маскоўшчыны міліцыянта, свой такі, дамарослы, хара твару выдае яго гарантаваную дамарослацсь, але — маларос ад форменных чаравікаў сорак чацвёртага памеру да кукарды на картузе.

Калі вы, мечаныя біркамі ўдзельнікі свята, падняліся на Чарнечую, а з нейкага часу Тарасаву, гару, Прэзідэнт паспеў ужо тут пабываць, яго з'яўленне адфільмавалі наспех для паказу ў вячэрніх тэленавінах, і гарант хапатліва адбыў для далейшага вырашэння спраў дзяржаўнай вагі; сапраўды, не будзе ж ён, абцяжараны лёсаноснаю харызмаю, чакаць, пакуль «отсекут лишних» і вы, таўраваныя «пэйджыкамі», пераадолееце нарэшце прыступкі да магілы Генія.

Вы мелі яшчэ адну нагоду сустрэцца з Прэзідэнтам — на адкрыцці помніка Шаўчэнку ў Корсуні, куды вы ехалі двума аўтобусамі, але на нейкім кіламетры між Каневам і Корсунем вашыя аўтобусы загоняць на палявы прасёлак, адкуль вы назіраць мецце, як трасай на шалёнай хуткасці прахурчыць прэзідэнцкі картэж — ты налічыш каля двух дзясяткаў іншамарак, і з якойсьці з іх памахае ў ваш бок гарант. Праз хвілінаў дзесяць вам дадуць дазвол на працяг руху; прыбыўшы ў Корсунь, вы застанеце самотныя мікрафоны, падобныя на адзінкавыя сланечнікі з адсечанымі галовамі, каля ўжо адкрытага помніка, і люд, які збіралі ў гонар прыбыцця першай дзяржаўнай асобы, разыдзецца.

Яшчэ на Чарнечай гары вам разане прамова тагачаснага спікера, яго «новае слова» ў Шаўчэнказнаўстве («Тарас схіляўся перад Пушкіным»); асабліва шакуе прысутных фраза прамоўцы (нехта ж з памочнікаў тую прамову пісаў!) «мастак Мікешэвіч маляваў Кабзара на смертнай лоджыі» — ты зафіксуеш яе дыктафонам, падасі ва ўласнай газетнай публікацыі і доўга не сцірацьмеш запіс на выпадак апратэставання спікерам твайго на яго «паклёпу».

І вось гэта твой народ? Чым жа яго вусны больш дабратворныя за шамкаючы рот старой бабы з падмаскоўнага Ярапольчага? І гэта дзеля яго, такога народа, ты аддаў сябе на алтар вашае справы?

Але ты ўжо не здольны саступіць са сцежкі, якою пройдзены добры кавалак жыцця. Ты ўжо не рамантык, ды нешта не дае табе кінуцца зняверы ў абдымкі, ёсць жа сярод іх у гэтым натоўпе светлыя галовы — акадэмікі, пісьменнікі, настаўнікі, духавенства; гэтыя ж павінны быць з вамі ад пачатку і да канца, так ім Госпадам прызначана. Павінны! Ды пакуль што — не настолькі, каб вам разам адчуць сябе сілаю, здольнаю выйграць паядынак з уладаю.

Перадвячэрні мароз усё мацнее, а ў цябе чамусьці ўсплывае ў памяці дысанансам да загуслага халоднага вечара забытая жнівеньская субота — дзень адкрыцця палявання на птушыную дзічыну. Ты ніколі не быў паляўнічым і ніколі ўжо ім не будзеш; на паляванне цябе завабіў твой аднакурснік-палтавец, весялун і непапраўны аптыміст, майстар бясконцых апавяданак на абы-якую тэму (у студэнцкія гады вы называлі Міколу артыстам арыгінальна-брахлівага жанру). Мюнхгаўзэн мясцовага маштабу, у чыіх вуснах, калі мова заходзіла пра паляванне, зброя сама выстрэльвала на шамаценне крылаў крыжака над галавой, а звараная звечару з гуртавой здабычы юшка застывала на ранак гэткім найгусцейшым халадцом, што яго можна было хіба што сякераю ўрубаць.

Мікола табе патэлефанаваў, запрапанаваў «дывертысмент для душы», і ты даў згоду, спакусіўшыся на яго легенды, на абяцаныя райскія тры дні. Сустрэча была прызначаная ў Ліпавым — першым сяле Палтаўшчыны, як ехаць аўтобусам з Кіева на Крамянчуг, тут Сула разлогім ліманам далучаецца да левага берага Крамянчугскага вадасховішча. Мікола правёў падрыхтоўчую работу, дамовіўся з мясцовым егерам, і той перавёз вас — досыць шматлікі гурт аматараў дывертысментаў на прыродзе — кудысьці на выспы ў глыбіні ці то лімана, ці вадасховішча, дзе вы апынуліся адрэзанымі ад свету (праз пару дзён, калі скончылася прывезеная ў каністрах пітная вада, вы пілі чысты спірт і запівалі гарэлкаю, «каб не пякло»).

Табе далі чыюсь даўно не выкарыстоўваную і тым больш не прэстыжную аднастволку, дзіцячую забаўку ў параўнанні, скажам, з бельгійскай пяцізарадкай, якой выхваляўся ўчарашні воін-інтэрнацыяналіст Слаўко, расказалі, калі і куды можна і куды нельга страляць — і разышліся «па кропках». Інструктаж выявіўся лішнім, бо за ўвесь вечар, на працягу якога вакол шалела няспыннае бабаханне, пахла спаленым порахам і час ад часу непадалёк з шоргатам падаў з вышыні шрот, ты ніводнага разу не націснуў на спускавы кручок. Чакаў таго, дзеля чаго, уласна, ехаў сюды: гуртавой вячэры і паляўнічага фальклору, спрэс настоенага на выдумках і легендах, затое ж якіх!..



Гэты народ — твой і такі, і калі ты хочаш зрабіць штосьці разам з ім, ты мусіш прыпадобніцца скульптару, што рукамі, на якіх няма і не павінна быць накрухмаленых манжэтаў, адкрышвае ад гранітнай камлыгі непатрэбнасць

Была дзівосная на смак юшка з дзічыны, пілася добрая чарка, і гэта не раз, не двойчы, палымнела вогнішча да позняе ночы, і вострая на слова садружнасць не расчаравала цябе, нагаварыўшы ўсяго столькі… Ды на раніцу ў памяці тваёй зеўралі дзіркі, і засталося толькі ўражанне — цёплае, кранальнае, чароўнае.

На наступны дзень вы падняліся на зары (начавалі ў некалькіх намётах пад тысячагалосы гуд камароў, намазаўшы адкрытыя часткі цела «Тайгою») і яшчэ гадзіны дзве палохалі дзічыну бабаханнем і ваяўнічымі перакліканнямі з чароту, але неяк млява, па інэрцыі; птушкі, навучаныя ўчарашнім, ужо вас абміналі, а вячэрняе «адпусканне тармазоў» за чаркаю ў добрым таварыстве ўсё настойлівей хіліла да думкі пра сняданак. Дык вось неўзабаве вы — па двое, па адным — пачалі сцягвацца да «штаба»: даядаць і дапіваць рэшткі вячэры.

І тут ні адсюль, ні адтуль каля вас дзядзька на кані. Спешыўся, без непатрэбнай дыпламатыі падышоў да гурта, далікатна, аднак неяк надта «па-свойску» прывітаўся (відаць, у такіх таварыствах бываць яму не ў навіну, і выраз яго засмяглага цыганаватага твару наяве выдаваў прагу скласці вам кампанію за сталом у выглядзе прасцеленай на зямлі брызенціны. Яму і сапраўды налілі (сказана ж бо: у дэфіцыце апынулася чыстая пітная вада, а не спірт-гарэлка), заахвоцілі, да слова і ён прамовіў: «Дай бог паміж ног крэпкага здароўя!». Недзе пасля трэцяй паднесенай яму чарчыны дзядзька, падбадзёраны поспехам свайго тоста, перахапіў слоўную ініцыятыву і, добра ўжо нахмелены, згубіў пачуццё меры, робячыся яўна дакучлівым. Яму далі зразумець, што, шаноўны, візіт ваш зацягнуўся, чакаюць вас вялікія справы, а мы ўжо неяк самі дабудзем тут сваю паляўнічую місію. Дзядзька рэзка падняўся, выцер далонню рот і вачыма пачаў шукаць каня; той, пакінуты без нагляду, заглыбіўся ў зараснік — таксама, пэўна, трапезнічаў. «Гнядко, Гнядко!» — паклікаў дзядзька, і конь падаў голас з гушчару, а праз хвільку і сам аб'явіўся на покліч гаспадара. Дзядзька падышоў да Гнядка, леваю рукой ухапіў аброць, а правай раптам ударыў каня наводмаш па губах — і раз, і яшчэ, і ва ўсёй дзядзькавай паставе вы ўбачылі здзічэлага звера, які сам не ведае, што робіць і навошта. Гнядко асадзіў назад, але гаспадар утрымліваў яго за аброць на адлегласці, з якой яго рука магла дастаць да конскай пысы.

На імгненне вы аслупянелі, уражаныя неспадзяванай дзядзькавай лютасцю: толькі ж што ён быў часцінай вашага таварыства, еў-піў з вамі, жартаваў, здаваўся вам такім тыповым прадстаўніком роднага і любімага народа, ажно хацелася цалаваць яго ў засмяглыя шчокі і ціснуць жылістыя рукі — а ён гэтай працавітай рукою нізавошта калашмаціць такую самую працавітую жывёліну. Найхутчэй апамятаўся воін-інтэрнацыяналіст Слаўко. У два-тры скачкі падляцеўшы да дзядзькі, перахапіў таму правую руку, гатовую і далей хвастаць бязвінную скаціну, так яе сціснуў (нямарна ж прайшоў ніштаватую вывучку ў абмежаваным кантынгенце войскаў) і так зірнуў на дзядзьку, што той у вокамгненне працверазеў, умольна вызваліў руку, скочыў у старое, усё чыста ў лапіках сядло, і за ім аддалілася тупанне капытоў, пакуль і зусім не сціхла. Вы зазбіраліся, хоць егер яшчэ не хутка меўся па вас прыбыць — вось гэтак па-дурному закончыўся «дывертысмент для душы на ўлонні прыроды».



Табе прыгадаўся той жнівеньскі дзень, і ты зараз, перад ураждваючым мнагалюддзем на плошчы, з гаркотай думаеш, што вось гэта ж і ёсць ён, твой народ: ён адначасова і невядома чаго азвярэлы дзядзька, і нізавошта адлупцаваны дзядзькам конь. Няшчасны, пагарджаны, без аніякага ведання аб тым, якая прыгода, зачэпка, паварот лёсу выпадзе яму праз гадзіну, праз дзень, праз год, кім ён ёсць сёння і кім будзе заўтра, якія подыхі душы скіруюць яго на тое ці іншае дзеянне, увогуле ж — на бяздзеянне, бо хіба ж можна ўзвесці ў ранг дзеі дзікае збіццё ўласнай адданай жывёліны, у якую паволі ператвараешся і сам. Табе шкада яго, гэты народ, да нерастопліванай халадэчы ў мозгу. І ты ўжо гатовы дараваць яму ўсё: і залішнюю сентыментальнасць, і флегматычную маруднасць, і генетычна перададзеную нерашучасць ды асцярожнасць, і ненавісную табе філасофію «неяк яно будзе, бо яшчэ ніколі не было, каб не было неяк», і апатыю ды абыякавасць да ўсяго, што з ім чыніла век і чыніць сёння ўлада і дзяржава.

Бо гэты народ — твой і такі, і калі ты хочаш зрабіць штосьці разам з ім, ты мусіш мець жалезнае цярпенне, мусіш прыпадобніцца скульптару, што рукамі, на якіх няма і не павінна быць накрухмаленых манжэтаў, адкрышвае ад гранітнай камлыгі непатрэбнасць да той пары, пакуль застанецца плод задуманага.

**Пераклаў з украінскай Валер Стралко.**

**Цалкам раман можна прачытаць у чарговым нумары часопіса «Дзеяслоў» (№3 (64)).**

ЭСЭ

# ПАХ ПІЛАВІННЯ

Валеры СТРАЛКО

**Раней кожнаму пакаленню выпадала вайна, а то й не адна. Гэта было звычайна і звычна: вайна перыядычна выконвала сваю жудасную «праполку», зменшваючы колькасць спажыўцоў зямных рэсурсаў.**

Ужо амаль тры пакаленні запар у нас вырасла без вайны. І псіхолагі з сацыёлагамі насцярожана прыглядваюцца да «нетрадыцыйнай» генерацыі людзей, аналізуючы, а што ж прынесла ёй безваенне…

Даводзіцца чуць і час ад часу пераконвацца нават, што моладзь сённяшняя забыла божыя запаведзі, што свет дэградуе, перапаўняецца фальшам, злом і скваПнасцю, што несправядлівасць заваёўвае ўсё новыя і новыя пазіцыі. Магчыма. Цалкам магчыма. Але нават тыя, хто перажыў вайну не на фронце, а ў акупацыі ці нават у тыле, наўрад ці прагаласуюць за тое, каб зніжэнне маральнага стану грамадства лячыць новай вайной. Надта ж люты ўдасканальвальнік людской пароды — вайна…

Нарадзіўся я за тры гады да вайны ў Любечы на Чарнігаўшчыне. Гэта на Дняпры. Смутна прыгадваю шырэзны луг, што пачынаецца ўнізе, пад гарою, і працягваецца далёка, да рэчкі. Рэдкія хаткі, спавітыя лёгкім туманцам. І ты быццам ляціш над усім гэтым прасторам. Адчуванне лёту, спакою, святла і дзіўнай радасці… Бо сташ на ўзвышшы… Маці, сама ўлюбёная ў Любеч, расказвала, як я часта і падоўгу ўзіраўся ў затуманенае бязмежжа. Не выпадкова, мабыць, вабіла мяне яшчэ тады загадкавая, чароўная задняпроўская далёкасць. Там пачыналася Беларусь, дзе жыву я апошнія амаль 43 гады…

Як даўняе, няяснае ўяўленне, прыпамінаюцца першыя адчуванні вайны. Яны — без кроплі страху. Мы двое сутак павольна цягнуліся ў калоне бежанцаў на падводзе, набітай убогім скарбам, — на радзіму маці, у сяло Тупічаў (60 км на ўсход). Часам нізка-нізка над намі прашугвалі нямецкія самалёты. Вознік кідаўся трымаць каня, маці, спаралізаваная страхам, падала ў ковет, адкуль глядзела, як мы з братам на возе захлынаемся смехам, бо ў нас самалёты выклікалі прыступы весялосці…

Прысунуліся мы ў Тупічаў увечары 28 жніўня 41-га года і супыніліся часова ў былой дзедавай хаце скрай сяла. Яшчэ дарогаю суправаджала нас амаль суцэльная прыглушаная кананада і аддаленыя, ледзьве чутныя аўтаматныя чэргі, адзінкавыя стрэлы. А тут, у вёсцы, усё гэта хутка стала больш выразным. Раніцою 29-га — досыць блізка. Мы палезлі ў схавішча да суседа Шкіліндзея. (У Тупічаве шмат звычайных, зразумелых старажытных прозвішчаў: Лях, Чэх, Швед, Літвін, Аўчар, Туз, Баран, Казёл, Тупік, Сянюк, Майсюк,



Магілёвец, Маскалец… Але ж нямала і дзіўнаватых: той жа Шкіліндзей, а яшчэ Бакцідан, Сапітон, Пакармяка, Лычуха, Мазголік, Пініца, Сорва…). Дык вось, па абедзе зусім побач узнялася новая страляніна, аж часам сыпаўся пясок са столі, — ужо недзе тут, адразу за сялом.

Праз пару дзён за дваром, каля дарогі на Чарнігаў, выяўляем мы з братам вялізныя свежыя могілкі з бярозавымі крыжамі і каскамі на магілах. Бабуля штодзень загадвае нам: «Да магілаў — ні нагою. Немец пастраляе!». Яна тады яшчэ не хварэла і пільна сачыла, каб не ўляпаліся мы ў якую бяду.

Неяк пазней, відаць, у снежні, бабуля раптам — за нас і ў царкву, бо папаўзлі чуткі, што нехрышчоных дзяцей немцы страляцьмуць… Жывая яшчэ хрышчоная маці наша, Марыя Якаўлеўна Швед, а бацьку хрышчонага, настаўніка Васіля Туза, хутка пасля таго застрэлілі партызаны. Быццам бы памылкова. Бабуля Фядося, усе да ніткі сілы патрацішы, каб мы выжылі тады, адышла на вечныя сны ў канцы мая 45-га…

Выжываць маці з бабуляй і намі, двума малалеткамі, без пастаяннага свайго кутка, без мужыка ў хаце (бацька з 39-га па канец 46-га — у войску) было няпроста. Не было ж ні грошай (дырэктар Любяцкой школы Фёдараў з адпускнымі ўсіх школьных настаўнікаў збег у эвакуацыю), ні запасаў, ні каштоўных рэчаў, каб прадаць, не было. Найчасцей выручала цётка Моця, старэйшая сястра маці. А так — ні хлеба, ні іншага харчу, ні солі, ні запалак, ні дроў. Анічога. Прыгадваю: пазычыўшы недзе пілу, маці з намі хадзіла ноччу ў маразы-снягі пілаваць галіны ў яблыневым садзе. Яна з аднаго боку, мы — з другога смыкаем пілу, рукі-ногі акалелі. Але такі чароўны пах вырываўся з-пад пілы!.. Голле яшчэ перацягнуць да хаты трэ было, спілаваць на паленцы, пакалоць-пасекчы… А яны ж, дровы сырыя, не хочуць у грубцы гарэць, паддуваем у тры раты, якія жэрці прагнуць, а не дзьмуць…

Неяк, хоць і ноч, падлавіў нас Іван Ілліч, які садоўнічаў і ў памешчыка, і ў калгасе, а цяпер… Стары доўга прабіраў (быццам нам самім не горка было дровы калечыць!), абяцаў заявіць немцам, якія за падобныя дзеі маглі стрэльнуць. Злітаваўся, мабыць…

Раз маці схадзіла за 22 км у Седнеў і на кірмашы выменяла (за якую рэч?) шклянку солі. Во свята было! А яшчэ часта чадзелі мы з братам. Бабуля, каб захаваць цяпло і вуголле да раніцы, дачасна закрывала юшку. Нярэдка, атручаных чадным газам, з невыносным галаўным болем, нас няшчадна ўсю раніцу ванітавала. І добра яшчэ, калі ўдавалася захаваць жар. Часцей жа хапала бабуля бляшанку і сыходзіла за ім да нябліжкіх суседзяў…

Ледзве ўцалелі мы ў першую ваенную зіму. Вясною надыбалі нейкі кавалак зямлі, засадзілі-засеялі (зноў цётка Моця паспрыяла), восенню тое-сёе сабралі — і зіму сустрэлі з пэўнымі запасамі. Не было ніякага тлушчу, але ж бульба, бурачкі з морквай і фасолькай не далі прапасці з голаду. А вось абутак мы дабілі ўшчэнт, і што робіцца ў двары, маглі назіраць (як у тэлевізар) праз шыбкі, якія пры добрых маразах даводзілася часта прашкрабваць. Так што гэтую і яшчэ адну ці дзве зімы заставаліся мы без вуліцы, без свежага паветра, кісліі ў хаце…

Нямала ўспамінаў звязана з ліпняком, былым памешчыцкім паркам, бо жылі мы вельмі блізка ад яго. Падчас акупацыі ў Тупічаве было адносна ціха, да партызанскага краю ці зоны было кіламетраў 20-30. Немцы і паліцаі паводзілі сябе па ваенным часе досыць стрымана, больш жорсткімі былі мадзяры.

Захаваўся калгас. Яго старшыню, Алейніка, мужыка маладога, кемлівага і рупнага, паставілі немцы па просьбе сялян яшчэ і старастам. Людзі былі ім задаволены, ён стараўся па магчымасці не крыўдзіць нікога, многім дапамог пазбегнуць адпраўкі ў Нямеччыну. Вярнуліся нашы, яму і паліцаям упаялі па дваццаць пяць гадоў лагераў.

На тле аднаснага спакою позняй восенню 42-га наляцелі раптам партызаны (каб адбіць захопленую немцамі партызанку). Не адбілі. Расстралялі яе немцы потым. Закапалі каля глінішча. Помню — дзе. А сам бой адбываўся ноччу, блізка ад нашай хаты. Выбухі, страляніна. Кулямі выбіла ў нас колькі шыбак. Загарэлася школа-казарма. Мы з братам на печы «надзейна» схаваліся пад радном. Вызірнеш — страхата: ад сцяны блізкага ліпняка адбіваюцца водблікі пажару, дый бухі-стрэлы збоку, злева ад хаты… Потым хадзілі на папялішча. Шкадавалі. Яшчэ летам круціліся мы часцяком тут, ля казармы, хоць маці строга забараняла. Неяк паспыталі нават нямецкага гарохавага супу. Варожы, а смачны, халера... Упершыню бачылі тут нейкае прапагандысцкае кіно (само кіно — упершыню!), у якім нямецкія салдаты за шкірку выцягвалі з-пад лістоты ў лесе мізэрна-нікчэмных барадатых партызанаў, а тыя падалі на калені і, пэўна, малілі не забіваць…

Перад прыходам нашых ліпняк запоўніўся падводамі з сем'ямі нетутэйшых паліцаяў, якія разам з немцамі планавалі рухацца на захад. Адзін з іхніх мальцоў доўга і настырна задзіраўся біцца да майго брата. Той не вытрымаў і адгамселіў нахабніка. Як развершачўся ж той паліцайчык і пад крыкі «Зараз прийде мій тато і постріляє ва-а-ас!» пабег у ліпняк. Мы доўга хаваліся, і толькі цёмначы ціхенька прашкрэбліся ў хату. Ледзь заспакоілася маці, якая была ўжо ў адчаі. А раненька бабуля пабудзіла нас, бо не змагла адчыніць дзвярэй з сенец на вуліцу. Мяне, дробнага, выпхнулі праз дзірку ў акне. Клямка звонку была закручана дротам, а на атынкаванай белай сцяне цямнела велізарная пляма ад газы ці бензіну, якую потым так і не ўдалося забяліць. Хацелі спаліць нас, ды нешта перашкодзіла. Мабыць, дачуліся пра нашых, што з'явіліся праз якую гадзіну…

У дзень вызвалення, 23 верасня 43-га года, майму брату Уладзіміру, тады Вову, стукнула якраз 6 гадоў. Выйшла, што зрабілі яму падарунак не толькі нашы, але й немцы: нашы — што прыйшлі, немцы — што сыйшлі. Як зачаканіўся ў памяці шэраг эпізодаў гэтага дня. Выбраўшыся з хаты, падбягаем да вогнішча, у якім гарыць усялякі хлам, і тут брат кідае ў полымя знойдзеную паблізу чорную паліцайскую пілотку. Потым паасобку пачынаем абследваць двор. Вось я знаходжу ладны хімічны аловак: «О!» Вось за рэмень падвалочваю да чырвонаармейца знойдзены ў бур'яне ці кустах нямецкі карабін, і той гучна і павольна, з усмешкай, цягне: «Ну ма-ла-дзец!». Хутка падбягае брат і за руку цягне мяне ўбок, сярдзіта шэпчучы: «Нашто аддаў?! Самі б стралялі…» Вось, узяўшыся за рукі, імчымся ў любы ліпняк. Ён ужо — без паліцайскага абозу! Там скраю стаяць кінутыя немцамі і паліцаямі павозкі і легкавікі без колаў, у адным з якіх знаходжу шафёрскія акуляры. Далей, у копанцы без вады — ХТЗ-шны колавы трактар і з пагнутым рулём матацыкл. Скрозь рознае смецце, нечыстоты і няздобрыя, чужыя пахі. Вывуджваем з бруду савецкую кулямётную стужку з патронамі, цягнем і кідаем яе ў папялішча збожжасховішча. Праз якую хвіліну ўсчынаецца бязладнае бабаханне…

Пазней даведаліся, што перад падпалам частку збожжа немцы раздалі вяскоўцам…

Вельмі ж пашыранымі ў вайну былі словы, вытворныя ад «страляць»: стрэл, пастраляць, выстраліць, стрэліць, застрэліць, расстраляць… Яны часта ўжываліся ў размовах дарослых і пацанвы ці проста віселі ў падсвядомасці. З часам гэтыя грозныя словы зрабіліся звычна-будзённымі. У вайну і доўга пасля стралялі мы з самапалаў, напеканак, пісталетаў, а болей — узрывалі патроны, міны, снарады, саматробныя, з выкарыстаннем буйнога артылерыйскага пораху (яго нямала было на гародах), выбуховіны. Неяк сядзелі мы ў двары, і Вова па маёй просьбе выцягнуў кальцо (падалося мне, што яно лішняе там) з цыліндрычнай гранаты (накшталт РГД-42), ды калі нешта ў ёй пстрыкнула, спалохана адкінуў убок. Выбухам нас адшпурнула пад плот. Падхапіўшыся, аглушаныя, задымленыя, ашалела бяжым з двара, у Вовы кальцо на пальцы целяпаецца, а збялелая маці з парога нешта адчайна крычыць услед…

Гінулі, калечыліся дзеці. А дарослыя… Перамога з самага пачатку вайны здабывалася небывалай крывёю. Тупічаўцы ваявалі на розных франтах. Не вярнулася з вайны 345 чалавек. Яны загінулі, бароначы ці вызваляючы хаты незнаёмых суайчыннікаў. Велічны помнік ім стаіць на беразе ставу. За Тупічаў ваявалі і гінулі іншыя, хоць і свае, салдаты і камандзіры. Ляжаць яны ў двух брацкіх магілах у цэнтры сяла…

На гародах некалькіх суседзяў, дзе зараз бацькоўская хата, былі пахаваны ў брацкіх магілах многія чырвонаармейцы, ахвяры 41-га. Помню, як парэшткі іх перахоўвалі ў агульную брацкую магілу ў цэнтры сяла ў 1949-м. Суседзі расказвалі, што не вельмі ўдалая атрымалася іх смерць, бо спачатку яны адступілі да спіртзавода, дзе, начаставаўшыся каварнай прадукцыяй, раніцой рашуча рванулі назад, у контратаку, ідучы на варожыя кулямёты ў поўны рост. Немцы іх на тых агародах і паклалі. Няспешна, быццам на палігоне. Мабыць, радаваліся лёгкай перамозе. Ды помста нядоўга чакала…

А «аўтарам» згаданых вышэй нямецкіх могілак быў наш невысокі чарнявы салдацік з невядомым прозвішчам па імю Мікалай, які, ці каб прыкрыць адыход савецкіх часцей, ці каб дабравольна-самаахвярна адпомсціць за нядаўнюю, такую недарэчную гібель сваіх таварышаў, забраўся з «дзегцяром» на старую вярбу і, падпусціўшы калону, што выйшла з узятага Тупічава да Чарнігава, расстраляў яе ва ўпор. Немцы ад злосці скалолі ўжо мёртвага байца штыкамі і забаранілі вяскоўцам яго хаваць. Ды сусед Андрэй Кароткі перанёс ноччу цела героя да сябе ў сад і там таемна пахаваў. На месцы гібелі таксама даўно стаіць помнік з надпісам «…знішчыў да паўроты фашыстаў…».

Вайна яшчэ працяглы час жыла ў нас, нагадвала пра сябе. І тым, што ў класах з трыццаці чалавек бацькоў мелі не болей трох-пяці вучняў, і тым, што даўжэнька амаль не было ў калгасе коней ды машын-трактароў, і людзі (школьнікі ў тым ліку) апрацоўвалі свае гароды рыдлёўкамі, і тым, што на працадзень у калгасе давалі капейкі дый паліцы ў прадуктовых і прамтаварных крамах пуставалі. Я, з'ехаўшы з Тупічава ў 55-м (пасля дзесяцігодкі, на Херсонскі суднабудаўнічы завод), толькі праз год перастаў адчуваць, што неадчэпна хочацца есці…

Адно вошай было доўга ў дастатку…

РЭЦЭНЗІЯ

# ДАСТАЦЬ З ВОКА ПАРУШЫНУ ЗДЗІЎЛЕННЯ

*Леанід ГАЛУБОВІЧ*

**Калісьці ў «ЛеГАЛізацыі» я пісаў пра кніжку Сяргея Рублеўскага«Азярод» так: «У гэтым годзе ў часопісе «Маладосць» я ўжо спрабаваў увесці ў кантэкст сучаснага літаратурнага працэсу кніжку прозы гэтага віцебскага аўтара. Называлася яна «Апостраф». Таму новае выданне Сяргея чакалася са своеасаблівым пачуццём трывогі: што ж далей?.. Аднак «адарвацца» ад першай сваёй адметнай кніжкі рэдка якому, нават вельмі таленавітаму, аўтару ўдаецца. Не ўнік гэтага і С.Рублеўскі. «Азярод» трымаецца за «Апостраф». Уласна я думаю, што гэта няблага. А наколькі яно будзе добра, пакажуць ужо наступныя кніжкі аўтара».**

Кніжка С. Рублеўскага, пра якую я пішу зараз, называецца «Паспець надыхацца», і выйшла яна напрыканцы 2012 года адначасна з яшчэ адным зборнікам малафарматнай прозы гэтага выбітнога пісьменніка з Віцебшчыны («Святло лускі»).

Як аказалася, аўтар — заўзяты рыбар, а таму яго знакавая характарыстыка мысляра-адзінотніка асабліваму сумненню не падлягае. Ды й казаць, што ўсе гэтыя гады я чакаў ад пісьменніка нейкага фундаментальнага твора, тыпу рамана, было б няпраўдай. Чакаў якраз менавіта таго, што цяпер і маю пад рукою — кніжку кароткіх эсэ, ёмкіх разважных зацемак ды лірычных мініяцюр... Нешта ёсць у С. Рублеўскім і ў яго творчасці ад вядомых мэтраў сціслага жанру М. Прышвіна і Я. Брыля. Ну вось, скажуць, рэцэнзент у сваім рэпертуары, на каго замахнуўся, з кім параўнаў! А няўжо ж, парырую я, мне замахвацца на Галубовіча ці Камейшу, хоць і гэткі варыянт, можа, не такі ўжо кепскі... Пішу як думаецца і, спадзяюся, што так яно і ёсць.

У своеасаблівым зачыне да кнігі С. Рублеўскі даводзіць чытачам, што піша алоўкамі, распавядае пра сам працэс падрыхтоўкі да літаратурнай працы і прыпісова дадае ў фінале: «Неўзабаве я зразумеў, што галоўная праблема пры пісанні алоўкамі — гэта іх завостраванне, падчэсванне грыфеля да шылавай дзюбкі». І тут, я вам скажу, пазначана не толькі абгавораная «праблема», але ў падтэксце прасвечваецца намёк на «завостраванне» і «падчэсванне» да тонкай вастрыні самой мастацкай асновы твора, гэта значыць, аловак, як прылада працы, адкідвае свой «цень» і на творчасць, як на сэнс і сутнасць самой працы.

У тэкстах С. Рублеўскага няма пустаслоўных ходаў на публіку і чытача (сцёбу, правакацый, шакіруючых сцэн і цынізму). Ёсць выверany класічна-традыцыйны стыль, пазбаўлены «ружова-туманнага» сацрэалістычнага ідэйнага стрыжня. Шчыры, цёплы і даверлівы маналог (які нярэдка пераходзіць у дыялог) з магчымым чытачом-чалавекам насупраць, якога ён абірае за слухача і субяседніка.

Ёсць вялікая, не напускная, а непасрэдная, не трафарэтна-лозунгавая, разлічаная на зваротную адэкватную плату любоў да малой і вялікай радзімы, да сваіх бацькоў і акаляючых людзей, традыцый, мовы і жыццядайнай прыроды... Не хацелася б тут дадаткова спекуляваць на гэтай тэме, бо аўтар да таго не схільны.

А вось да каго ён неспакойны, дык гэта да нашых беларускіх жанчын (каханак, палюбоўніц, жонак, маці, працаўніц і прадаўжальніц роду), хоць, бывае, выказваецца так неасцярожна, што мне як чытачу робіцца трывожна за яго. Да прыкладу, я асабіста не насмеліўся б на такую канстатацыю: «У жанчыне няма праўды, толькі — сэнс», не кажучы ўжо пра характарыстыку «слабай паловы» як асобы творчай (працытую, са спадзевам, што шмат каму, хто пра гэтую кніжку яшчэ не ведае, будзе цікава): «Жанчына-рэдактар — гэта незабыўна. Закручваеш вербальны павеў, узвіхураваеш кветкавы пылок слоў, каб з якога-небудзь новага апладнення з'явіўся вобраз ці хаця б цень самачыннага свету, дарма, што не Божага, але ж таксама незаменнага, а яна кажа:

— Крывавата напісана... І надта накручана, трэба прасцей...»; «Жанчына-крытык заўсёды падобна на маю жонку. Яніна любіць разгадваць крыжаванкі пасля мяне — падабаецца ёй упісаць у вольныя клетачкі колькі слоў і гэтым пацвердзіць: я трошкі разумнейшая за цябе, вось, зірні...»; «Жанчына-празаік... Як сказала, здаецца, руская пісьменніца Вікторыя Токарава, мужчына піша, трымаючы ў сэрцы і ў свядомасці Бога, жанчына — любімага мужчыну... (...) Жанчына, якая аналізуе каханне (а міжволі даводзіцца) усё адно што распускае вочкі свайго швэдра, да апошняга, і на сіверку рацыяналізму застаецца ў абдоймах дрыжакі. Становіцца празаікам»; «Жанчына-паэт (паэтэса, паэтка — полавае прыніжэнне, якое прыдумалі літаратурныя артадоксы) вяжа са слоў рэдкі швэдар сваёй жарсцевай закаханасці — на голае цела. Усё прасвечваецца. Неатуленае жыццё пад позіркам абачлівых і спавітых перасцярогай. Словы ёй спадарожнічаюць, але не ратуюць»...

Агулам пра літаратуру і літаратараў у кніжцы напісана шмат чаго. І пераважна цікавага, а нярэдка і займальнага. Скажам,



але тут заўважаны мной (не ў звязку з пэўнай, няхай і ўскоснай прылучнасцю рэцэнзента да прадмета гаворкі) з прычын яго палемічнасці. Спярша аўтар піша: «Пісьменнікі, якія зусім не п'юць, пачасту пішуць прыкметна горш, чым піткі. Надта напружваюцца, уважаючы літаратурную работу за давераную звышай місію. А таго не ведаюць, што ў падвясёленых жылах і словы лепш пульсуюць». А калі ведаюць (тут ужо я наўпрост даводжу ўласную заклапочанасць гэтай праблемай) і, магчыма, больш за іншых, і больш не жадаюць таго адчування ведаць? С. Рублеўскі, як прадчуваючы падобныя пытанні, схакаўшы, піша наступнае: «Калі прыпынюся, азірнуся на пражытае, шкадую п'яных дзён... (...) Бо страчаны ж не столькі напой, колькі хвіліны натхнення, супакою, шчодрай адзіноты». Хоць па вялікі рахунку, на мой досвед, аўтар мае рацыю ў абодвух выпадках. Вось шчаслівыя творцы, якія могуць іх спалучыць і мець з той гармоніі шчодры літаратурны плён. Бо паклаcці ўласнае жыццё «на аўтар Бахуса» адважваюцца толькі адзінкі, ды і тыя, відаць, ці то Богам абраныя, ці то д'яблам пакліканыя...

Як трапна казала маці С. Рублеўскага: «Хіба можна столь з нябёсамі раўняць?!».

Цікавы ў гэтым плане іранічна-спачувальны (да сябе і калег) запіс-згадка пра тое, як у 60-х гадах адзін пісьменнік прыехаў у глыбінку напісаць пра калгаснае жыццё. Выпіў з мужыкамі ды і прыснуў на ўскрайку дарогі. І тут «як на тое, ехаў кіраўнік гаспадаркі.

— А хто гэта ляжыць? — зацікаўлена пытаецца ў шафёра.

— Ды пісьменнік са сталіцы прыехаў...

— Стой, тармазі. Давай назад, — загадаў узрушаны старшыня. — Ніколі не бачыў жывога пісьменніка...

Цяпер і блізка няма такой цікавасці да майстроў слова».

«Як на тое, ехаў кіраўнік гаспадаркі.
— А хто гэта ляжыць? — зацікаўлена пытаецца ў шафёра.
— Ды пісьменнік са сталіцы прыехаў...
— Стой, тармазі. Давай назад, — загадаў узрушаны старшыня. — Ніколі не бачыў жывога пісьменніка...
Цяпер і блізка няма такой цікавасці да майстроў слова»

Незважаючы на падтэкставую анекдатычнасць запісу, трэба пагадзіцца хаця б з тым, што ў цяперашняй нашай няпростай літаратурнай і грамадскай сітуацыі аніякі, няхай нават і былы, старшыня калгаса ўжо не спыніцца, не прытармозіць і назад не дасць. Бо ёсць як ёсць. У кожнага часу свае часовыя старшыні і пісьменнікі. За рэдкім выключэннем. Хоць непадалёк аўтар і прагаворваецца, што яму «хацелася б пасябраваць з якім-небудзь пісьменнікам, але, відаць, не атрымаецца. Калегі дужа ганарлівыя, самадастатковыя, эгаістычныя. Вось жа і мне хочацца стаць такім...». Тут, на маё разуменне, найбольшы ўнутраны акцэнт (завуаліраваны, вядома) пастаўлены не на «якім-небудзь» пісьменніку, а менавіта на «такім», якім аўтару хочацца стаць самому...

У саміх тэкстах шмат згадак пра сучасных, у тым ліку і маладых, паэтаў і пісьменнікаў, з лаканічнымі, але арыгінальнымі і нярэдка трапнымі характарыстыкамі іх жыцця і творчасці...

У чытача можа скласціся ўражанне, што кніжка спрэс трымаецца на літаратурных асацыяцыях ды ўнутраных праблемах і перажываннях аўтарам свайго творчага выраку, яго суб'ектыўных поглядах на пісьменніцтва ды ўласных лабараторных спробах яе аналізу... Зусім не. Кніга шматгранная і шырока разгалінаваная як само чалавечае жыццё. Пісьменнік спрабуе зазірнуць у нутро самога сябе, пераадолеўшы ўласнае эга, высновааць вартасную сутнасць чалавека як боскага правобраза і самага разумнага зямнога індывіда агулам. У чым наша прызначэнне, хто мы ёсць, каму, навошта і для чаго?... Так проста і аднaзначна на такія пытанні не адкажаш, а ўскладняючы адказ задачу тым больш не вырашыш... Што ж застаецца? Развага, пошук, прадчуванне і празарэнне... Калі кароткa: творчасць і літаратура, як у нашым выпадку.

І тут пачынаць трэба, прабачаючыся за таўталогію, з уласнага пачатку. Ці не таму вялікая доляататак і мініяцюр аддадзена спрадвечнай тэме радзімага кутка, бацькам (найперш маме), знаёмым, роздумам над лёсам Айчыны, яе народа, мовы...

Што да мацярынскай мовы, то ў зборніку пра яе напісана з сыноўняй любоўю да абедзвюх, каб не быць галаслоўным, прывяду колькі малавядомых (прынамсі мне) слоў і выслоўяў мамы С. Рублеўскага: вада на дне вядра —ападонне, зрэбная саматканая посцілка на ложку — радабоць, цыраваць адзенне ды мяхі — лапіць, мацаваць вялікодныя яйкі —пазубіць, зняславіць, прынізіць — здалізаваць , ракавыя клюшні — абцужкі, спешчана-мондрыя людзі — нотныя, сагнуць, скрывіць — «старую вярбу вецер вывіхнуў», альбо такія выслоўі: «во сёлета бульба ўрадзіла — адгробу няма», «з гумавага шарыка выпаціньвае паветра»...

Увогуле пра маму напісана вельмі душэўна, шчыра, з сыноўняй любоўю і слязой на сэрцы. Проста з налапу чалавек так не скажа: «Няма на свеце больш трывушчай беларускі, чым мая мама». І гэтак, я перакананы, сказаў бы і не раз яшчэ скажа амаль кожны з нас пра сваю маці. У тым ліку — і пра нашу маці-Беларусь...

Запомніліся выбітныя афарызмы С. Рублеўскага, рассыпаныя па ўсім тэксце кнігі: «Пісьменнік хоцькі-няхоцькі, пакрысе становіцца магілкавым кладзішчам сваіх задум»; «Празаікі — гэта працаваразелыя ад хмельнай раніцы жыцця паэты»; «Не рабі вялікі запас, каб не сказалі: ну, гэтага табе хопіць да самай смерці»; «Прарочае слова — азіміна, усе астатнія — паспешлівая ярына», «У дзяцей куды менш грахоў, чым у бацькоў. А мы іх вучым, вучым...»; «Пішу, як грашу, знарок і заўсёды нібы ўпершыню»; «Пішаш каторы раз адну і тую ж кніжку... А трэба пачынаць новую»...

Трэба сказаць, што, чытаючы С. Рублеўскага, сям-там мне карцела нешта папраўляць у мове, але нейк тут жа рукі і апускаліся, думалася: мабыць, там, на Віцебшчыне, яно так і трэба: «нарадзіць свайго (а не сваё. — ЛеГАЛ) цяля», «выносіць на руках, як немаўляці (а не як немаўля ці немаўлё. — ЛеГАЛ)»... Але гэта такія як бы між іншым вымаўленыя дробязі.

Уразіла кароткае эсэ-ўспамін пра бацьку «Не міргаючы вачыма», той навык, пераняты ад вясковай бабы Ганны, якая даставала языком парушыны з дзіцячых вачэй, які спатрэбіўся, калі бацька пры пагрузцы сена запарушыў вока і сын насмеліўся дастаць тое парушшо сваім языком... Асабліва вось гэтая безвыможная ў творчым аспекце і нерукатворная канцоўка: «У дзяцінстве куды часцей запарушваеш вочы, чым у сталыя гады. Глядзіш на свет яшчэ здзіўлена, амаль не міргаючы, — вось і маеш».

Маеш сваю долю, свой светапогляд, свой стыль, сваю кніжку, у рэшце рэшт, самога сябе: таленавітага пісьменніка Сяргея Рублеўскага...

Зрэшты, як прызнаецца аўтар, і я тут з ім зноў жа салідарны: «Люблю шматкроп'е. Усяго не скажаш...».

ЛІТКАЛЕЙДАСКОП

# КІПЛІНГ І ПЛАГІЯТ

**У Вялікабрытаніі выстаўлены на таргі ліст класіка ангельскай літаратуры Рэдзьярда Кіплінга, у якім пісьменнік прызнаецца ў плагіяце асобных ідэй з «Кнігі джунгляў».**



Ліст, адрасаваны невядомай жанчыне, быў выяўлены ў красавіку гэтага года сярод кніг і дакументаў, якія захоўваліся ў адной з брытанскіх антыкварных крамаў.

У сваім пасланні Кіплінг распавядае, што запазычыў частку задум для «Кнігі джунгляў» з фальклору эскімосаў, акрамя таго прызнаецца: «Вельмі імаверна, што я паддаўся запазычанням, але цяпер ужо не магу згадаць, чые гісторыі я ўкраў».

Ліст датаваны 1895-м годам.

Таргі праводзіць брытанскі аўкцыённы дом Andrusier Autographs. Стартавы кошт ліста 2, 5 тысячаў фунтаў стэрлінгаў (3,7 тысячаў даляраў ЗША).

«Кніга джунгляў» (1894), якая распавядае пра прыгоды хлопчыка Маўглі — адзін з найвядомых твораў Кіплінга.

У 1907 годзе Кіплінг стаў першым ангельцам, які атрымаў Нобелеўскую прэмію па літаратуры.

# ФІЛЬМ ПРА АСТРЫД ЛІНДГРЭН

**Ужо вядома, што карціна пра выдатную шведскую пісьменніцу будзе называцца «Астрыд», а яе стварэннем зоймецца дацкая рэжысёрка Перніле Фішэр Крыстэнсэн.**

Паводле яе слоў, творчасць Ліндгрэн вельмі блізкая рэжысёрцы, і ў стужцы Крыстэнсэн плануе перадаць працэс стварэння вядомых казак пісьменніцы праз прызму яе нялёгкага лёсу. Праца над фільмам будзе завершаная ў 2014 годзе, а прэм'ера запланаваная на пачатак 2015-га.

Адной з цэнтральных тэмаў стужкі «Астрыд» будуць адносіны паміж пісьменніцай і яе сынам Ларсам. Зацяжарыўшы ў 18-гадовым узросце (у 1926-м) ад жанатага мужчыны, Астрыд аддала сына ў дацкую прыёмную сям'ю, бо не мела магчымасці клапаціцца пра хлопчыка. Пазней, знайшоўшы пастаянную працу, пісьменніца забрала хлопчыка, а ў 1934 годзе нарадзіла дачку Карын, для якой, дарэчы, прыдумала першыя гісторыі пра Піпі Доўгуюпанчоху, якія пазней леглі ў аснову аповесцяў.

Сярод кніг пісьменніцы, якія з дзяцінства знаёмыя многім з нас, — казкі пра Эміля з Лёнебергі, Малога і Карлсана, серыя апавяданняў пра Кале Блюмквіста, аповесці «Міё, мой Міё» і «Роні, дачка разбойніка».

Астрыд Ліндгрэн памерла ў 94-гадовым узросце ў 2002 годзе ў Стакгольме. Яе імем названая прэстыжная міжнародная прэмія за ўнёсак у дзіцячую літаратуру, цырымонія ўручэння якой штогод праходзіць у Швецыі.

# ІЗРАІЛЬ, ГРОШЫ І ПАЭТЫ

**Улады Ізраіля зацвердзілі канчатковы выгляд дзяржаўных грашовых знакаў. Замест партрэтаў палітыкаў на банкнотах будуць выявы паэтаў.**



Аднак выбар партрэтаў адразу выклікаў крытыку. Банкноты вартасцю 50 і 200 шэкелей выйдуць у манетарны абарот да канца 2013 г. На іх будуць партрэты класікаў нацыянальнай літаратуры Шаўля Чэрніхоўскага і Натана Альтэрмана. На банкнотах вартасцю 20 і 100 шэкелей будуць партрэты паэтэс Рахелі (Блуўштэйн) і Леі Гольдберг. Эмісія гэтых купюраў запланавана на пачатак 2014 г.

Прычына, праз якую ўрад Ізраіля быў абвінавачаны апазіцыяй у астракізме, «геаграфічная»: на банкнотах зноў знайшлося месца толькі для ашкеназі (габрэі, выхадцы з Паўночнай Амерыкі і Еўропы), а ўсходні габрэй-сефард толькі адзін раз быў адлюстраваны на купюрах — Майсей бэн Маймон (Маймонід), сярэднявечны вучоны, філосаф і багаслоў. Ар'е Дэры, адзін з лідараў ізраільскай рэлігійнай сефардскай партыі ШАС, абвінаваціў урад у дыскрымінацыі сефардаў і заявіў журналістам: «Цяжка сабе ўявіць, што з ліку ўсходніх габрэяў не атрымалася знайсці ніводнага паэта… Банкноты з такім партрэтам не страцілі б у вартасці».

Варта адзначыць, што выбар «кандыдатаў» для размяшчэння на новых купюрах Ізраіля быў праведзены папярэднім кабінетам міністраў краіны з удзелам фракцыі ШАС…

Крытыка, аднак, была пачута. Кабмін звярнуўся да Банка Ізраіля з прапановай змясціць на банкнотах «партрэты мужчын і жанчын, прадстаўнікоў усёй ізраільскай грамады». У якасці першай кандыдатуры Біньямін Нетаньяху, прэм'ер-міністр Ізраіля, прапанаваў Егуду ха-Леві, сярэднявечнага паэта з арабскай Іспаніі, дзе і была сфармавана грамада сефардаў.

# ДА ЮБІЛЕЮ ШАЎЧЭНКІ

Дзяржкамтэлерадыё Украіны падрыхтаваўся да 200-годдзя з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі. Да гэтай даты ўкраінская шаўчэнкіяна папоўніцца многімі новымі выданнямі, якія запланаваныя ў межах праграмы «Украінская кніга». Акрамя замоўленых Дзяржкамтэлерадыё Украіны, выйдзе «Шевченківська енциклопедія» ў 6-ці тамах, якая змяшчае каля 6500 артыкулаў пра жыццё, творчасць, асобу Вялікага Кабзара, яго атачэнне ды тагачасную эпоху.

# ПОМНІК СЯРГЕЮ МІХАЛКОВУ

Манумент савецкаму пісьменніку Сяргею Міхалкову да Дня горада з'явіцца ў Арбацкім раёне ў цэнтры Масквы. Побач плануецца стварыць дзіцячую пляцоўку, якую ўпрыгожыць скульптурная кампазіцыя з вывамі герояў кніг С. Міхалкова. Рашэнне пра ўсталёўку помніка і пра стварэнне сквера, які назавуць імем вядомага пісьменніка, было прынята ў сярэдзіне сакавіка 2013 года.

# ДЭН БРАЎН І ФІЛІПІНЫ

**Мэр Манілы, філіпінскай сталіцы, Франсіс Таленціна напісаў адкрыты ліст амерыканскаму пісьменніку Дэну Браўну, у якім абвінаваціў аўтара ў аднабокім апісанні горада.**

Мэр заявіў, што Браўн апісаў толькі дрэнныя бакі жыцця філіпінцаў і праігнараваў добрыя якасці. Ён назваў апісанне горада «недакладным» і падкрэсліў, што філіпінцы здольныя на добразычлівае і спачувальнае стаўленне адзін да аднаго. «Наша мясцовасць — уваход у рай», — заявіў чыноўнік.

У кнізе Дэна Браўна «Інферна» гераіня апісвае Манілу як «браму пекла». Яна едзе туды ў надзеі ўбачыць «краіну цудаў» з незвычайна прыгожай прыродай, аднак сутыкаецца з крыміналам, галечай і дрэннай экалогіяй. Сярод іншага, яна апісвае сэкс-індустрыю краіны, якая складаецца толькі з дзяцей, прычым часцяком іх у прастытуцыю прадаюць самі бацькі. Паводле яе, у горадзе людзі падпарадкаваны прымітыўнаму інстынкту выжывання і, прабываючы ў роспачы, ператвараюцца ў жывёлаў.

Гэта не першы раз, калі кіраўніцтва Манілы абражаецца апісаннем горада ў мастацтве. У 1998 г. Філіпіны абвясцілі персонай нон-грата амерыканскую актрысу Клэр Дэйнс і забаранілі да паказу ўсе фільмы з яе ўдзелам. Гнеў кіраўніцтва краіны выклікала адно з інтэрв'ю, у якім Дэйнс апісала краіну як «прапахлую прусакамі». «У Маніле няма каналізацыі, у людзей тут няма наогул нічога. Часцяком у іх няма нават рук, ног, зубоў ці вока», — распавяла актрыса.

Кніга Дэна Браўна «Інферна» выйшла 14 траўня 2013 г. і стала шостым раманам пісьменніка.

ПРЭМІІ

# ПЯЦЬ НАМІНАНТАЎ НА НОБЕЛЕЎКУ



Нобелеўскі камітэт вызначыўся з папярэднім «кароткім спісам» прэтэндэнтаў на Нобелеўскую прэмію па літаратуры за 2013 год. Пяцёра кандыдатаў ужо адабраныя, паведамляецца на «нобелеўскай» фэйсбук-старонцы са спасылкай на сакратара Шведскай акадэміі.

Што да канчатковага шорт-ліста, рашэнне па ім было прынята 30 траўня 2013 г.

Па традыцыі імёны прэтэндэнтаў на «Нобелеўку» па літаратуры не агучваюцца, але ў блогу Петэра Энглунда (сакратара Шведскай акадэміі) магчымыя постаці ўжо абмяркоўваліся. Было агучана, што лонг-ліст 2013 г. налічваў не 195, як летась, а 210 імёнаў.

Хто стане нобелеўскім лаўрэатам у галіне літаратуры ў 2013-м г., будзе абвешчана ў лістападзе. Нагадаем, у мінулым 2012-м г. Нобелеўскую прэмію атрымаў кітайскі пісьменнік Мо Янь.

# ПРЭМІЯ ІМЯ КАФКІ

На паседжанні міжнароднага журы экспертаў Літаратурнай прэміі Франца Кафкі было абвешчана імя лаўрэата. Сёлета прэстыжнай узнагародай адзначаны Амос Оз, ізраільскі пісьменнік расійскага паходжання. Празаік быў прызнаны лепшым з 28 кандыдатаў, якія займаюць высокае становішча ў сучаснай літаратуры. Узнагароду — бронзавую статуэтку Франца Кафкі, створаную скульптарам Яраславам Ронам, — уручаць у канцы кастрычніка на ўрачыстай цырымоніі, якая, па традыцыі, адбудзецца ў Старой Ратушы ў Празе.

Амос Оз нарадзіўся ў сям'і выхадцаў з Расіі ў 1939 годзе ў Іерусаліме. Сярод найбольш вядомых яго твораў — раманы «Мой Міхаэль», «Спазнаць жанчыну», «Трэці стан», зборнік эсэ «Маўчанне нябёсаў».

Штогадовая прэмія Франца Кафкі ўручаецца з 2001 года. У ліку яе лаўрэатаў — першы прэзідэнт Чэхіі, пісьменнік-дысідэнт Вацлаў Гавэл, японскі пісьменнік і перакладчык Харукі Муракамі, амерыканскі раманіст Піліп Рот, уладальніца Нобелеўскай прэміі 2004 года па літаратуры Эльфрыда Элінэк.

# РЭВІЗІЯ АРХІВАЎ ПЕРАДЗЕЛКІНА

**Міністэрства культуры Расіі вырашыла правесці рэвізію архіваў, якія захоўваюцца на дачах сваякоў пісьменнікаў у Перадзелкіна. Праверка павінна завяршыцца да 1 верасня.**

15 траўня міністр культуры Расіі Уладзімір Медзінскі правёў пасяджэнне, на якім абмяркоўваліся пытанні захоўвання літаратурна-гістарычнай спадчыны, якая знаходзіцца на тэрыторыі пісьменніцкага мястэчка, і забеспячэнні яго бяспекі.

Перад міністэрствам пастаўленая задача захаваць чатыры музеі, якія працуюць у Перадзелкіна, а таксама «разабрацца з архівамі». Распрацоўваецца праект па іх перадачы Дзяржаўнаму літаратурнаму музею ці Дзяржаўнаму архіву РФ.

Рэвізію архіваў плануецца правесці ў рамках закона, па дамоўленасці са спадчыннікамі, каб зразумець каштоўнасць архіваў для даследавання творчасці пісьменнікаў. Пытанне аб перадачы архіўных дакументаў і матэрыялаў будзе вырашацца індывідуальна, шляхам перамоў.

Мінкульт заклапаціўся станам Перадзелкіна пасля таго, як у мястэчку адбыліся некалькі значных пажараў. У 2012 г. згарэла дача Анатоля Рыбакова, у выніку чаго быў знішчаны ўвесь архіў. У ноч на 9 траўня 2013 г. згарэла дача пісьменніка, літаратуразнаўцы, гісторыка літаратуры, доктара філалагічных навук Алега Міхайлава. Згарэў дом Міхайлава, яго бібліятэка, перапіска з пісьменнікам Барысам Зайцавым і іншыя матэрыялы.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў Newsru.ua, novostiliterature.ru, Associated Press, РИА Новости, ЗІК.**

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 5 ЛІПЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**10.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** Вайсковы дэтэктыў "У жніўні 44-га» (Расія-Беларусь).
**14.25** Дакументальны фільм «Георгій Жукаў. Вайна і мір маршала Перамогі» («Беларусьфільм»).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.40** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**19.20, 23.45** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.55** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Працяг» (Расія).
**21.00** Панарама.
**22.00** Крымінальны трылер «Матадор» (ЗША-Германія).
**00.35** Дзень спорту.
**00.50** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Жаночы доктар 2». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**14.05** «Модны прысуд».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «Лары Краун».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Фільм «Троя».
**00.05** Прэм'ера дакументальнага фільма «The Rolling Stones - Crossfire Hurricane».
**02.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Чаклун і Румба». Беларусь, 2007 г.



**15.30** «Ашуканыя навукай».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «На спіне ў чорнага ката». Беларусь, 2008г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**00.50** Фільм «Зграя». Беларусь, 2008г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прыгодніцкі баявік «Снайпер. Зброя адплаты» (Беларусь-Расія). 4-я серыя, заключная.
**10.20** Час футболу.
**11.10** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе» (Аўстралія).
**11.45** Тэніс. Уімблдон. Агляд.
**12.40** Франтавая драма «Вышыня 89» (Расія).



**14.45** Ваенная драма «Рыярыта» (Расія).
**16.45** Дакументальны серыял «Усе грані вар'яцтва» (Германія). 1-я серыя.
**17.20** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Драма «Варашылаўскі стралок» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйная меладрама «Фальшывае вяселле» (ЗША).
**23.15** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**00.05** Валейбол. Еўраліга. Мужчыны. Беларусь - Турцыя.
**01.45** Арэна.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Адмысловы выпадак».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Раскол».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.50** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**22.40** Тэлесерыял «Земскі доктар. Працяг».
**23.40** Навіны - Беларусь.
**23.50** «Пацалуйце нявесту!». Тэлесерыял.
**00.45** Фільм «Прымета на шчасце» (2012 г.).

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял "Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**10.55** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Кодэкс гонару».
**23.05** Прэм'ера. «Кодэкс гонару. Мужчынская гісторыя».
**23.55** «Ты не паверыш!».
**00.45** «Першая кроў».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** М/ф «Дванаццатае лета».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00** Навіны Садружнасці.
**09.10, 23.05** М/ф «Дадатковы прыбывае на другі шлях».
**11.30** «Партызанскі край».
**12.25, 02.00** М/ф «Крыніца».
**14.15** «Рэспубліка сёння».
**14.30, 01.35** «Сардэчна запрашаем».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** «Сакрэтныя матэрыялы».
**17.30** «Злачынства і пакаранне».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45** М/ф «Уваход праз акно».
**21.00** Канцэрт "Квітней мая Беларусь».
**03.20** М/ф «Цырк».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**08.10** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 9 серыя.
**09.00** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Партызанская школа», дак. фільм, 2002 г., Польшча.
**09.30** На колах.
**09.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 10 серыя.
**17.30** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 5 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 5 серыя.
**18.55** Еўропа сёння.
**19.20** Невядомая Беларусь: «Амаль забыты фатограф», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзікі».
**20.00** Форум (ток-шоу).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**22.15** «Кароль-вінароб», серыял: 10 серыя.
**23.00** «Вялікі звер», драма, 2000 г., Польшча.
**00.10** Лета з дэтэктывам: «Дэфект», тэлесерыял: 5 серыя.
**01.05** Аб'ектыў.
**01.30** Студыя «Белсат».

## 6 ЛІПЕНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**05.40** Эксцэнтрычная камедыя «Залатое цяля» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Камедыйны серыял «Таткі».
**10.45** Здароўе.
**11.30** Усё як мае быць!
**12.10** Лірычная камедыя «Будзьце маім мужам» (СССР).
**14.05** Дакументальны серыял «Паміж мірам і вайной» (Беларусь).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** «Усе песні для каханай». Канцэрт.
**17.25** Каробка перадач.
**18.00** Таямніцы следства.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Камедыйная меладрама «Каханне з акцэнтам» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Рамантычная камедыя «Пакуль ты спаў» (ЗША).
**23.35** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Камедыйны серыял «Таткі».

### ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі. Новыя прыгоды».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Ералаш».
**12.20** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Рамантычная камедыя «500 дзён лета».
**18.15** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.50** Фільм «Адважнае сэрца».

### СТВ

**06.20** «Салдаты». Серыял.
**08.00** Фільм «На спіне ў чорнага ката». Беларусь, 2008г.



**09.40** «Чыстая праца».
**10.30** «100 адсоткаў».
**11.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтная тэрыторыя».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** Фільм «Пасля кірмаша». СССР, 1972 г.
**15.00** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Такі лёс».
**18.30** «Дзіўная справа».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Міс-Мінск 2013. Фінальнае шоў.
**23.00** «Зорны рынг». Дайджэст.
**23.55** Фільм «Кадэт». Беларусь, 2009г.
**01.30** «Глядзець усім!».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.50** Мультфільмы.
**08.35** Фільм «Бронзавая птушка» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**10.45** Пазакласная гадзіна.
**11.10** Тэлебарометр.
**11.15** Драма «Варашылаўскі стралок» (Расія).
**13.05** Тэніс. Уімблдон. Агляд.
**14.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.40** Беларуская кухня.
**15.15** Дакументальны серыял «Усе грані вар'яцтва» (Германія) 2-я серыя.
**16.00** Тэніс. Уімблдон. Жанчыны. Фінал.
**18.25** Фактар сілы.
**18.55** «Беларускі народны каляндар. Купалле». Дакументальны фільм (Беларусь).
**19.15** Ваша лато.
**20.00** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.10** Вышэй за дах.
**20.50** Тэлебарометр.
**20.55** Футбол. Чэмпіянат свету U-20. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя. У перапынку. 21.35 «КЕНО».
**22.55** Валейбол. Еўраліга. Мужчыны. Беларусь - Ізраіль.

### РОССИЯ

**07.00** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**08.25** Фільм «Прымета на шчасце». 2012 г.
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.25** Фільм «Аднойчы дваццаць гадоў пасля».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Хвілінная справа». Забаўляльная праграма.
**15.15** Фільм «Багатая Маша». 2010 г. 1-я серыя.
**17.05** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Фільм «Палёт матылька» (2012 г.).
**00.10** 1/4 фіналу Першай лігі МС КВЗ.

### НТВ

**06.30** Серыял «Злачынства будзе раскрыта».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Іх норавы».
**08.55** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны пяодынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Прафесія-рэпарцёр».
**13.50** «Следства вялі..».
**14.40** «Вочная стаўка».
**15.30** «Казнакрады».
**16.20** Прэм'ера. Вострасюжэтны баявік «Другі ўбойны».
**19.00** Сёння.
**19.25** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Другі ўбойны».
**23.50** Дэтэктыўны серыял «Дарожны патруль».

### МИР

**05.00** Д/ф «Галівудскія пары».
**06.10** Мультфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**07.50** М/с «Смешарыкі».
**08.15** «Эксперыментатары».
**08.30** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «На шашлыкі».
**09.40** «Зроблена ў СССР».
**10.10, 00.05** М/ф «Трыццаць першае чэрвеня».
**12.40** М/ф «Уваход праз акно».
**15.10** Т/с «Амапола».
**20.50** «Навіны Садружнасці. Культура».
**21.35** М/ф «3 ног на галаву».
**23.35** «Музычны ілюмінатар».
**02.30** М/ф «Музычная гісторыя».
**05.00** «Цыркі Расіі».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.15** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы», «Пацукі».
**08.45** «Між намі, буслямі», анімацыйны серыял для дзяцей: 5 серыя.
**09.10** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 9 серыя.
**09.40** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 5 серыя.
**10.25** Форум (ток-шоу).
**11.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.45** Невядомая Беларусь: «Менскае падполле. Героі і мярзотнікі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**12.15** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 9 серыя.
**13.00** «Час гонару», серыял: 41 серыя.
**13.50** «Вялікі звер», драма, 2000 г., Польшча.
**15.00** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Найзвярнейшы жаўнер Гітлера».
**15.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**16.00** «Кароль-вінароб», серыял: 10 серыя.
**16.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.00** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 1 серыя.
**17.25** «Барбі», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**17.40** «Усмешка на вуснах ды слёзы ў вачах», дак. фільм.
**18.35** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў: «Жаночы бізнес», 1996 г.
**19.35** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.00** Паляванне на дзівосы (спазнавальная праграма).
**20.20** Невядомая Беларусь: "Як пошуг маланкі», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Цудам ацалелы», маст. фільм, 2004 г., Польшча.
**22.50** Невядомая Беларусь: «Амаль забыты фатограф», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**23.20** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 5 серыя.
**00.05** Аб'ектыў.
**00.20** МакраФон: «Права быць свабодным» (канцэрт альтэрнатыўнай музыкі «Луцк-2007»): выступ гуртоў «Сцяна», «Б:Н», «Тінь Сонця»: ч. 1.
**00.50** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 7 ЛІПЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.15** Лірычная камедыя «Будзьце маім мужам» (СССР).
**08.50** Слова Мітрапаліта Філарэта.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна). Заключная серыя.
**10.45** Медычныя таямніцы.
**11.10** Зона Х. Вынікі тыдня.
**11.45** Нашы.
**12.10** Эксцэнтрычная камедыя «Залатое цяля» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**16.30** Драма «Таварыства мёртвых паэтаў» (ЗША).
**18.45** «Александрыя збірае сяброў». Свята «Купалле».
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Крымінальная камедыя «Гульні джэнтльменаў» (ЗША).
**00.30** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна). Заключная серыя.

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Ералаш».
**11.50** Прэм'ера «Тамара Сіняўская. Свята майго кахання».
**12.50** «Жыццё і прыгоды Мішкі Япончыка». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Адгадай мелодыю».
**17.05** «Форт Баярд».
**18.35** «Дзень сям'і, кахання і вернасці». Святочны канцэрт.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Вышка».
**23.00** Прэм'ера. «Дзеці Трэцяга Рэйха». Фільм 3-і.
**00.00** Фільм «Планета малп».

### СТВ

**06.05** «Салдаты». Серыял.
**07.40** Фільм «Павадыр». Беларусь, 2001г.
**09.30** «Прадстаўце сабе».
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Нашы суседзі». СССР, 1957г.
**14.20** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Інсайт». Беларусь, 2009г.
**22.20** «Якія людзі!».
**23.15** Фільм «Спакуса». Беларусь, 2006г.
**00.50** Дакументальны праект: «Закінуты свет».
**01.40** Дакументальны праект: «Марская планета».

### Беларусь 2

**07.55** Мультфільмы.
**08.50** Фільм «Бронзавая птушка» («Беларусьфільм»). 3-я серыя, заключная.



**09.55** Пазакласная гадзіна.
**10.15** Камедыя «Купальская ноч» («Беларусьфільм»).



**11.35** Тэлебарометр.
**11.40** Пра мастацтва.
**12.10** Тэніс. Уімблдон. Агляд.
**13.05** Містычная фантазія «Вій» (СССР).
**14.40** Фантастычная камедыя «У павуціnні страху» (ЗША-Венесуэла).
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.20** Навіны надвор'я.
**20.55** Чэмпіянат свету U-20. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя. У перапынку. 21.35 «Спортлато 5 з 36», «КЕНО».
**22.55** Валейбол. Еўраліга. Мужчыны. Беларусь - Харватыя.
**00.40** Спорт-кадр.

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Палёт матылька» (2012 г.).
**10.10** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Фільм «Апладысменты, апладысменты...».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Чорныя дзюры. Белыя плямы».
**15.05** «Нінэль Мышкова. Да і пасля «Гадзюкі».
**16.05** Фільм «Багатая Маша» (2010 г.). 2-я серыя.
**18.05** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм «Пятровіч». 2012 г.
**23.30** Фільм «Аддаленыя наступствы» (2008 г.).

### НТВ

**06.25** Серыял «Злачынства будзе раскрыта».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** Прэм'ера. «Кулінарныя курсы: Італія. Таскана».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Прафесія - рэпарцёр».
**13.50** «Следства вялі...».
**14.40** «Вочная стаўка».
**15.25** «Казнакрады».
**16.20** Прэм'ера. Серыял «Другі ўбойны».
**19.00** Сёння.
**19.25** Прэм'ера. Серыял «Другі ўбойны».
**23.50** Серыял «Дарожны патруль».

### МИР

**05.00** Д/ф «Галівудскія пары».
**06.10** Мультфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**07.50** М/з «Смешарыкі».
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Даведнік».
**09.35** «Ежа».
**10.05** «Незорнае дзяцінства».
**10.30, 23.55** М/ф «Вяртанне дадому».
**13.35** М/ф «Забаржад».
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50, 21.00** Т/с «Мая мяжа».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**22.15** Дэльфійскі эфект.
**02.55** «Любімыя акцёры».
**03.25** М/ф «Светлы шлях».

### БЕЛСАТ

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Невядомая Беларусь: «Амаль забыты фатограф», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**07.40** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**07.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.05** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**08.35** «Букаландыя», мультсерыял для дзяцей: 1 серыя.
**09.00** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 10 серыя.
**09.35** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 5 серыя.
**10.00** «100 хвілін вакацыяў», тэлесерыял: 5 серыя.
**10.25** Басанож па свеце.
**10.55** «Глыбокая вада», серыял: 4 серыя.
**11.40** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 5 серыя.
**12.10** «Цудам ацалелы», маст. фільм, 2004 г., Польшча.
**13.45** «Усмешка на вуснах ды слёзы ў вачах», дак. фільм.
**14.45** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 5 серыя.
**15.30** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 5 серыя.
**16.25** «Праведнікі», тэлесерыял: 5 серыя.
**17.10** Без рэтушы: «Тры кіламетры да неба», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.55** Чорным па белым.
**18.25** «Лікёра-гарэлачны завод», дак. фільм, 2010 г., Швецыя.
**19.25** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**19.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.55** Невядомая Беларусь: «Каўчэг», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**20.30** Побач з намі.
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Размовы эксперта.
**21.15** Фільматэка майстроў: «Наўскач», маст. фільм, 1995 г., Польшча.
**23.00** Лета з дэтэктывам: «Мент», дэтэктыўны серыял: 5 серыя.

---

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанк», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 930 79 22, Міхась
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 029) 364 42 60, Зінаіда
Гомель (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 _____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

### Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________

Кассир Всего ________




# РУНЭТ І НАШЫ ГЕІ

Алег НОВІКАЎ

**Адной з галоўных тэмаў на расійскіх інтэрнэт-форумах апошнім часам была запушчаная «Беларускім партызанам» інфармацыя пра тое, што ў беларускі Крымінальны кодэкс збіраюцца вярнуць артыкул пра гомасэксуалізм. Прапануем агляд расійскай блогасферы.**

Агучаны на сайце «Беларускі партызан» 10-гадовы тэрмін турэмнага пакарання за гомасэксуальныя адносіны і 5-гадовы — за прапаганду гомасэксуалізму, шмат каму з рускіх падаўся занадта мяккім. Гамафобы з суседняй краіны лічаць, што ў дачыненні да грамадзян РБ іншай сэксуальнай арыентацыі павінны быць ужытыя больш суровыя меры.

«Лукаш малайчына! Але лепш, я думаю, расстрэл! Яшчэ можна забіць камянямі, як у старажытнасці, а таксама ёсць яшчэ адзін варыянт — прымушаць іх капаць каналы, валіць лес, такі ГУЛАГ невялікі адкрыць!» — піша блогер Дзмітрый Працэнка. «Даеш блакітныя зоны і печы!» (Ігар Александроўскі). А вось думка блогера Надзі Сідаравай: «Усіх гомасэксуалістаў выслаць на бязлюдны востраў, каб жылі там. Праца з іх зробіць чалавека».

Аднак у большасці пастоў, якія пакінулі ў сецiве славянскія браты, рэагуючы на навіны з Беларусі, прысутнічае захопленасць нашым кіраўніком. «Бацька руліць! Даўно час. Гомасэксуалістаў за краты, злодзеяў да сценкі!» (Pixsa). «Бацька — прыгажун, не дае нацыі выраджацца!» (Do4a.com Tolerance public). «Малайчына, я б яшчэ на кол садзіў бы гэтых п…аў. Бацька, рэспект табе» (Улад Сценін). «Каб Лукашэнка да 100 000 гадоў жыў!») (Alyona Varikas).

Натуральна, не абышлося без каментараў, кшталту: «Нам бы такога лідара». Арцём Волкаў піша: «Рыгорыч — малайчына! Сячэ талерантнасць у зародку))) .... Змяніць б нам цара Уладзіміра Нафтавага ды князя ўсяе фэйсбуку і твітара Дзімона на Бацьку МТЗаўскага, МАЗаўскага і Хроснага БелАЗа».

У салідных СМІ лічаць, што падстава такіх змяненняў у КК — асабістая антыпатыя беларускага лідара да сэксменшасцяў. Вядома, што Аляксандр Лукашэнка раней неадназова выказваў сваё рэзкае асуджэнне аднаполых адносін. У сувязі з гэтым выданне «Росбалт» піша: «Увогуле, культурна-палітычны бэкграўнд для крыміналізацыі гомасэксуалізму ў Беларусі ёсць. Але ісці ў разрэз з агульнасусветнымі тэндэнцыямі, якіх прытрымліваліся нават у Расіі, Лукашэнка не адважваўся. А цяпер Пуцін даў калегу выдатную медыя-нагоду… Здаецца, Бацька проста знайшоў удалы момант для рэалізацыі сваіх персанальных комплексаў».

**Сярод рускіх папулярны міф, што прадстаўнікі іх поп-сцэны пагалоўна практыкуюць нетрадыцыйны сэкс, і таму папросту пабаяцца ехаць у Беларусь, каб не трапіць пад новы артыкул КК**

Некаторыя блогеры пабачылі тут руку Масквы. Alex Efimov піша: «Гэтая ідэя Вялікага Брата. Няўжо не зразумела, што Расіі патрэбны саюзнікі ў гэтым пытанні, Гэта, напэўна, яму сябры з Крамля сказалі, каб ён першым увёў артыкул, каб удар Захаду прыйшоўся на Беларусь. А потым і Расія прыме, ужо са спасылкай на Беларусь».

А вось Anka Mesherskaja на сайце gay.ru лічыць, што Мінск проста жадае гандляваць правамі геяў з Захадам, як раней палітвязнямі. Anka Mesherskaja развівае гэты тэзіс: «У Лукашэнкі адмоўны гандлёвы баланс, крэдыт МВФ яму не даюць, эканоміка вось-вось апынецца ў калапсе з чарговай дэвальвацыяй беларускага «зайчыка». Калі Лукашэнка вырашыў паказытаць Захад наконт правоў геяў, то ён дарэмна гэта робіць. Калі гэтая навіна — не правакацыя «Белпартызана», а ўцечка ад Лукашэнкі, то гэта дрэнны знак перш за ўсё для беларусаў. Значыць, кепскія справы ў беларускай эканоміцы».

Некаторым расійскім блогерам тэма геяў яўна пачынае надакучваць. 4Man Гес: «Закон супраць п…аў прыняць значна прасцей, чым, напрыклад, з эканомікай пачаць пытанні вырашаць або з наркатрафікам і алкагалізмам. Гамафобія — гэта ОК. Тое, што яе выкарыстоўваюць для адцягнення ўвагі ад галоўных праблем, — гэта не ОК. Вось навошта ў Беларусі саджаць п…аў? Лепш бы думалі, як маладой сям'і хату пабудаваць без продажу ныркі аднаго з сужонкаў».

Асобная катэгорыя каментатараў — тыя, хто не можа зразумець, як у XXI стагоддзі можна на практыцы рэалізоўваць такія цемрашальскія прававыя акты. Блогер Міхаіл Фельдман адзначае: «Каб прыцягнуць да адказнасці хоць бы 10% парушальнікаў гэтага закона, давядзецца ў спальні кожнага грамадзяніна ўсталяваць «жучкі» або схаваную камеру. Атрымліваем чарговае мёртванароджанае тварэнне заканадаўцаў. Плодзячы невыканальныя законы, дзяржава распісваецца ва ўласнай прафнепрыдатнасці. А значыць, паступова губляе павагу ўласных грамадзян». Іншы блогер Уладзіслаў Васільеў піша: «Яны там зусім звар'яцелі? Як можна забараняць фізічнае адхіленне? Давайце яшчэ забаронім і на грып хварэць!»

Некаторыя пішуць, што цяпер Лукашэнка стане асабістым ворагам феміністак. Яны, быццам, ніколі не прабачыць яму тое, што караць у РБ будуць толькі геяў, а лесбіянак пакінуць на волі (пра лесбіянак у матэрыяле «Белпартызана» няма ні слова). Некаторыя баяцца, што штогадоваму фестывалю «Славянскі базар» у Віцебску цяпер прыйдзе канец. Сярод рускіх папулярны міф пра тое, што прадстаўнікі іх поп-сцэны пагалоўна практыкуюць нетрадыцыйны сэкс, і таму папросту пабаяцца ехаць у Беларусь, каб не трапіць пад новы артыкул КК. А блогер nalya_om баіцца імпарту беларускага заканадаўства ў Расію, сыходзячы са свайго бытавога вопыту: «Нап'юцца два мужыкі, прачнуцца ў адным ложку))) Такое бывала ва ўсіх. І хоць нават апранутыя, можна саджаць!»

У выніку аказалася, што падстаў для такога напалу эмоцый няма. Ніякага закону пра крыміналізацыю аднаполага сэксу ў Беларусі, быццам, не будзе. Адразу ў рунэце знайшлі новы занятак: спрачацца, каму была патрэбна правакацыя. Думку большасці агучыў блогер cpl_willy: «Гэта інфармацыйны ўкід, задача якога — сарваць няпростыя перамовы беларускіх уладаў з кіраўніцтвам Еўрасаюзу: Аляксандр Лукашэнка ўсімі сіламі імкнецца адвесці эканамічныя і палітычныя санкцыі з боку ЕС і ЗША».

Праўда, задумацца ўсё роўна ёсць пра што. Калі разглядаць апісаную гісторыю як нейкі зандаж расійскай грамадскай думкі на прадмет прыняцця беларускімі ўладамі акту пра пакаранне гомасэксуалістаў, то можна зрабіць наступную выснову: з'яўленне ў айчынным КК артыкула пра забарону аднаполых сэксуальных кантактаў, сапраўды, здольнае выклікаць у расійскай супольнасці свежы прыліў сімпатый да нашага рэжыму.

Аднак рызыкі тут відавочныя. Гаворка нават не пра адмоўную рэакцыю на Захадзе. Значная частка расійскай супольнасці, якая трымаецца гамафобных настрояў, вельмі агрэсіўная і яўна гатовая дзейнічаць, ігнаруючы рамкі прававога поля. Апошнім часам у Расіі было забіта ўжо сем грамадзян, што падаліся падобнымі да геяў ці сапраўды былі геямі. З улікам таго, што Дзярждума і далей штампуе антыгейскія законы, наўрад ці градус істэрыкі, а значыць, і статыстыкі злачынстваў на гэтай глебе, будзе падаць. Больш за тое: усё больш расіян баяцца, што атмасфера нянавісці ў хуткім часе справакуе пагромы ліберальнай інтэлігенцыі і іншаземцаў. Думаецца, наўрад ці якому палітыку хацелася, каб забойцы і пагромшчыкі займаліся злачынствамі, прыкрываючыся яго імем.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

З'яўленне Украіны за еўразійскім сталом нават у статусе назіральніка рэзка змяніла пазіцыі Беларусі. Зразумела, што Мінск імгненна аказваецца на перыферыі інтэграцыйных прыярытэтаў Расіі, якая ў дадзеным выпадку, не лічачыся з рэсурсамі, прыкладзе максімум намаганняў для ўцягвання Кіева ў інтэграцыйны праект. А за гэтым стаіць доступ да расійскіх рэсурсаў, якія ў Мінску даўно лічаць сваімі. Аднак у беларускага кіраўніцтва няма якіх-небудзь пераваг і рэсурсаў, каб прыцягнуць Украіну да сябе. Хутчэй, наадварот. Імідж рэспублікі і яе кіраўніцтва на постсавецкай прасторы выключна негатыўны. Варта нагадаць, што адсутнасць А. Лукашэнкі ў Бішкеку толькі паглыбіла агульны недавер і непрыманне Мінска ў рэгіёне СНД.

**politoboz.com**

Вынікі сустрэчы прэзідэнтаў Беларусі і Украіны сведчаць, што Мінск і Кіеў вядуць «сваю гульню», выкарыстоўваючы магчымасць палітычнага манеўру паміж ЕС і Еўразійскім саюзам. І ў гэтай абумоўленасці і для Кіева, і для Мінска — падабенства перспектыў далейшага развіцця адносінаў з Еўрасаюзам, калі кіраўніцтва абедзвюх краін спрабуе «ўсядзець на двух крэслах» і выгандлеваць для сябе найбольшыя дывідэнды з дапамогай звыклага палітычнага лавіравання паміж Брусэлем і Масквой. Пры гэтым відавочна, што Украіна і Беларусь ідуць кожная сваёй дарогай. Нягледзячы на адзіныя праблемы ў галіне правоў чалавека і ў рэфармаванні эканомікі, Мінск і Кіеў адрозніваюцца хуткасцю руху ў еўрапейскім кірунку. Прычым беларускія ўлады нібы не заўважаюць, што ў перамоўным працэсе з ЕС і пошуку кансенсусу па розных пытаннях удзельнічае не толькі Украіна, але і Расія, і Казахстан. Так што пагроза застацца за бортам Еўропы застаецца рэальнай толькі для Беларусі.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Стварэнне Мытнага саюза зрабіла даступным расійскі рынак працы, дзе таксама хутка палюбілі працавітых беларусаў. Нежаданне беларусаў працаваць за капеечныя заробкі фіксуюць і кадравыя агенцтвы. Іх спецыялісты адзначаюць, што суіскальнікі працоўных месцаў хутчэй аддадуць перавагу выдаткаваць паўгода на пошук працы, чым пагодзяцца працаваць за капейкі. Не знайшоўшы прымальны ўзровень аплаты працы, яны накіроўваюцца ў суседнюю Расію. «Саша, аднойчы ты прачнешся, а нас няма», — пішуць беларусы на форумах, прысвечаных пытанням працоўнай міграцыі. Ва ўмовах адкрытага рынку, мяркуюць эксперты, ніякія артыкулы за дармаедства не спыняць гэты працэс.

**«Независимая газета» (Расія)**

Знешнепалітычная пазіцыя Вільні мае простае тлумачэнне: амаль 30% мясцовага бюджэту фарміруецца за кошт беларускага транзіту, спыненне якога наўрад ці будзе кампенсавана ЕС. Таму літоўскае старшынства не прынясе ніякіх сур'ёзных узрушэнняў ва ўзаемаадносінах з Беларуссю. Адзінай магчымай праблемай для Літвы як краіны, якая ўзначальвае ЕС, можа стаць патрабаванне з боку буйных еўрапейскіх дзяржаў змяніць сваё адносіны да Беларусі ў сувязі з неабходнасцю правядзення паслядоўнай еўрапейска-амерыканскай палітыкі ў дачыненні да Аляксандра Лукашэнкі. У гэтым выпадку Вільні давядзецца альбо цягнуць час да заканчэння свайго старшынства, або ісці на прытоеную дамоўленасць з Мінскам.

**«Newsbalt» (Расія)**

Беларусь — маленькая брудная таямніца Еўропы. З-за яе існавання еўрапейцам варта было б адчуваць сорам, а ЕС — мець пачуццё віны. Інстытуцыя, якая захапляецца прамовай высокіх словаў пра агульнае маральнае прызначэнне ў галіне правоў чалавека, мала што робіць, каб навесці парадак каля ўласнага парога.

**«Foreign Policy» (ЗША)**

Адзін з самых гучных шпіёнскіх працэсаў у Беларусі можа скончыцца канфузам для КДБ, які адрапартаваў у мінулым годзе пра затрыманне «здрадніка». Ім аказаўся слесар з Наваполацка, які, на думку чэкістаў, супрацоўнічаў з замежнай выведкай. Спроба «судзіць шпіёна» выклікае ў людзей толькі сумны смех. Смех з-за таго, наколькі ўсё неразумна і па-бутафорску зроблена. Сумны — бо шкада хлопца, што патрапіў у жорны, з якіх цэлымі людзі не выходзяць. Перафарматаванне справы ў іншую плоскасць паказала: довады чэкістаў не пераканалі нават закрыты і цалкам падкантрольны ўладам суд.

**«Газета.ру» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### МАЛДОВА. УРАД ЧАКАЕ АНАФЕМА

У ноч з 19 на 20 чэрвеня скончыўся тэрмін ультыматуму, які праваслаўная мітраполія Малдовы выставіла ўладам краіны. 30 дзён таму мітрапаліт Кішынёўскі і ўсяе Малдовы Уладзімір асабіста даў уладзе роўна месяц на тое, каб адмяніць Закон аб гарантыях роўнасці (акт таксама часта называюць у краіне законам супраць дыскрымінацыі). Закон, нагадаем, забараняе дыскрымінацыю ў публічным жыцці, у тым ліку прадстаўнікоў сэксуальных меншасцяў, што было ўспрынята кансерватыўнай часткай малдаўскага грамадства як прадвесце прыходу новых Садомы і Гаморы. Адсюль і такі радыкальны ўчынак царквы, як ультыматум. Улады, аднак, ультыматум праігнаравалі. Без згаданага закону працэс інтэграцыі Малдовы ў склад Еўропы можа затармазіцца. З улікам гэтага самая прарасійская частка мясцовага палітыкуму заклікае мітрапаліта накласці на кіраўніцтва Малдовы анафему — праклясце. «Ці царква стане на бок большай часткі народа і адлучыць некаторых чыноўнікаў, ці стаўленне людзей да царквы паступова будзе такім, як і да цяперашніх палітыкаў, парламенту, прэзідэнта. І ў выніку анафеме будзе аддадзеная сама краіна», — піша адзін з панславісцкіх публіцыстаў. Нягледзячы на ваяўнічыя заклікі, пакуль мітраполія ніякай актыўнасці ў пытанні пра закон аб забароне дыскрымінацыі не праяўляе.

**Паводле малдаўскай прэсы**

### ПАЎНОЧНАЯ ІРЛАНДЫЯ. І ТУТ ПАЦЁМКІНСКІЯ ВЁСКІ



Напярэдадні нядаўняга саміту Вялікай васьмёркі ў Паўночнай Ірландыі адміністрацыя правінцыі вырашыла навесці марафет у населеных пунктах па суседству з курортам Лох-Эрне — месцам сустрэчы вядучых палітыкаў свету. З бюджэту краю было выдзелена некалькі соцень тысяч фунтаў стэрлінгаў, якія пайшлі на тое, каб прывесці ў нармальны стан будынкі, што выходзяць на галоўныя вуліцы, абнавіць вітрыны і фасады крамаў, а некаторыя крамы — напрыклад, мясную лаўку ў адной з вёсак, якая зачынілася з-за крызісу, нават вырашылі на нейкі час адкрыць. Як жартуе прэса, такім чынам удзельнікі сустрэчы, якія вырашалі лёсы глабальнай эканомікі, павінны былі паверыць у тое, што не ўсё так кепска. Цяжка сказаць, наколькі гэта дапамагло пусціць пыл у вочы ўдзельнікам саміту. Але мясцовыя будаўнікі і рэстаўратары былі яўна задаволеныя. Як піша прэса, ніколі ў гісторыі рэгіёну не было такога попыту на рабочыя рукі.

**Паводле ірландскай прэсы**

### УЗБЕКІСТАН. ЗАБАРОНЕНЫ ПЕСНІ, ЯКІЯ НЕ ПРАСЛАЎЛЯЮЦЬ РАДЗІМУ

Міністэрства па справах культуры і спорту Узбекістана вырашала разабрацца з мясцовай папсой. На сваім вэб-сайце яно абвясціла пра забарону «бессэнсоўных песняў, якія не здольныя праславіць радзіму». Такія песні, на думку чыноўнікаў, спяваюць некаторыя салісты і поп-гурты, якіх у якасці пакарання пазбавілі ліцэнзій на канцэртную дзейнасць. «Іх песні не адпавядаюць культурнай традыцыі нашай краіны, яны супярэчаць нашай маральнай спадчыне і менталітэту. Мы не павінны забываць пра наш абавязак хваліць радзіму, наш народ і яго шчасце», — гаворыцца на вэб-сайце міністэрства. Яшчэ сямі выканаўцам было абвешчана «суровае папярэджанне» з усталяваннем тэрміну да 1 ліпеня на ліквідацыю «недахопаў у творчасці». Між тым, на думку назіральнікаў, не зразумела, чаму ў пастанове ні слова не гаворыцца пра музычную творчасць узбекскай поп-зоркі Гугушы. Гугуша — гэта сцэнічны псеўданім Гюльнары Карымавай, дачкі аўтарытарнага прэзідэнта Узбекістана Іслама Карымава. У сваім апошнім кліпе «How Dare» («Як ты можаш») Гугуша робіць недвухсэнсоўныя рухі перад аголеным мужчынам. Аматары гумару пішуць, што гэтымі рухамі Гугуша яўна праяўляе любоў да Радзімы.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. ЧАЦВЁРТЫ РЭЙХ І ПАВОДКА

Нямецкія паліталагічныя цэнтры, што займаюцца маніторынгам дзейнасці правых экстрэмістаў, папярэдзілі ахвяр паводкі, якія нядаўна мелі месца на паўднёвым усходзе ФРГ. На думку антыфашыстаў, ультраправыя партыі цяпер намагаюцца ўзняць сваю папулярнасць за кошт дапамогі людзям, якія пацярпелі ад стыхіі. Так, пры вядучай неанацысцкай партыі нацыянал-дэмакратаў створана арганізацыя «Fluthelfer 2013» («Дапаможнік ад паводак–2013»). На першы погляд, перад намі звычайная грамадзянская ініцыятыва. Аднак, аказваецца, што тая дапамога ахвярам уключае ў сябе таксама абавязковыя лекцыі пра важнасць нацыянальнай салідарнасці, пра тое, што эмігранты, якіх, быццам, кормяць за кошт нямецкіх падаткаплацельшчыкаў, не дапамагаюць немцам, пра тое, што грошы, за кошт якіх можна кампенсаваць наступствы катастрофы, урад накіроўвае на падтрымку дэпрэсіўных эканомік Грэцыі і Іспаніі. На самай справе, цяжка ўявіць, як неанацысты могуць інструментаваць паводку з улікам таго, што практычна ўсе вядучыя партыі спрабуюць зарабляць пункты на гэтай тэме. А паколькі магчымасцей практычна дапамагчы ахвярам паводкі ў гэтых партый значна больш, наўрад ці на неанацыстаў нехта зверне шмат увагі.

**Паводле нямецкай прэсы**

ЦІКАВА

# СЕРБІЯ МАРЫЦЬ ПРА МАНАРХІЮ

**Алег НОВІКАЎ**

**Улады Сербіі дазволілі пахаванне на радзіме чальцоў каралеўскай сям'і Карагеоргіевічаў, якія эмігравалі ў 1941 годзе. Урачыстае пахаванне, якое адбылося напрыканцы мая, выклікала шмат спекуляцый наконт перспектыў рэстаўрацыі ў краіне манархіі.**

Як піша прэса, каб пабачыць пахавальны картэж, на вуліцах сабраліся тысячы людзей. І хаця на цырымоніі прысутнічаў прэм'ер-міністр краіны, у цэнтры ўвагі быў 56-гадовы прынц Аляксандр — галоўны кандыдат на сербскі трон. Як толькі прынц выйшаў на публіку, натоўп пачаў скандаваць: «Няхай жыве кароль!»

Аляксандру, дарэчы, яшчэ ў 2001 годзе далі пашпарт грамадзяніна Сербіі і дазволілі вярнуцца на радзіму. Але тады сербам было не да экс-каралёў.

Ад палітычнага аптымізму таго перыяду мала што засталося. Сербская рэспубліка намагаецца знайсці сябе ў Еўропе, змагаючыся з радавымі траўмамі ўсіх постсавецкіх краін — карупцыя, нацыяналізм, папулізм. І, як у іншых краінах Усходняй Еўропы, эрозія даверу да дэмакратычных інстытутаў выклікала настальгію па часах манархіі. Нагадаем, што Карагеоргіевічы кіравалі Сербіяй з 1911 па 1941 год. За гэты час у краіне было шмат як пазітыву (перамога ў трох войнах і стварэнне Югаславіі), так і негатыву — каралеўская Югаславія заўсёды была эканамічным аўтсайдэрам у Еўропе з наборам нявырашаных этнічных, сацыяльных і палітычных супярэчнасцяў. Іх лагічным вынікам стала хуткая капітуляцыя Югаславіі перад фашыстамі ў сакавіку 1941 года і эміграцыя ў Лондан караля Пятра II.

У Лондане пабачыў свет і прынц Аляксандр. Гэта адбылося 17 ліпеня 1945 года ў нумары 212 лонданскага гатэлю «Claridge». Тое, што роды адбываліся за мяжой, было вялікай праблемай для бацькоў. Паводле законаў, югаслаўскі трон можа займаць толькі народжаны ў Югаславіі. Выйсце прыдумаў тагачасны брытанскі прэм'ер Уінстан Чэрчыль. Ён падпісаў дэкрэт, адпаведна якому нумар 212 у згаданым гатэлі на некалькі тыдняў пераходзіў пад суверэнітэт Югаслаўскага каралеўства.

Гэта было слабай кампенсацыяй за непрыемнасці, якія Чэрчыль прынёс дому Карагеоргіевічаў. У 1943 годзе, пасля Тэгеранскай канферэнцыі, Вялікабрытанія пагадзілася прызнаць партызан Іосіфа Броз Ціта асобным урадам. Гэта быў вынік сакрэтнага падзелу пасляваеннай Еўропы паміж Саветамі і Захадам. Канчатковыя мары Карагеоргіевічаў трыумфальна вярнуцца на радзіму продкаў пахаваў ужо Ціта. У 1947 годзе быў апублікаваны закон аб канфіскацыі ўсёй каралеўскай нерухомасці і забароне Карагеоргіевічам наведваць Югаславію. Той жа дэкрэт пазбаўляў жывых чальцоў каралеўскага роду і іх нашчадкаў югаслаўскіх пашпартоў.

Здрада брытанцаў і кепскія навіны з Бялграду даканалі Пятра II, які ўвесь час марыў пра вяртанне да хаты. На гэтай глебе ў яго ўзнікла цяга да алкаголю і розныя хваробы, якія ў 47 гадоў звялі яго ў магілу. Пазней у эміграцыі памерла і яго жонка. Трагедыя бацькі так паўплывала на псіхіку маладога прынца, што ён адмовіўся ад тытулу. Паводле яго слоў, ён ведаў, наколькі псіхалагічна цяжка быць каралём без каралеўства.

Замест прафесіі манарха ў выгнанні ён абраў прафесію вайскоўца. Пасля заканчэння ўніверсітэта служыў афіцэрам у Паўночнай Ірландыі. Пакінуўшы службу, адправіўся за акіян, дзе зрабіў кар'еру як супрацоўнік фінансавых інстытутаў. За акіянам засталіся і яго два сыны. Прынц, дарэчы, паспеў двойчы ажаніцца.

Між тым, на радзіме прынца пачалі адбывацца цікавыя рэчы, якія зноў прымусілі яго думаць пра вяртанне. Калі Югаславія развалілася і да ўлады прыйшоў Слабадан Мілошавіч, у Карагеоргіевіча ўзнікла надзея на рэпатрыяцыю. Тым больш, Мілошавіч быў вядомы як прыхільнік канцэпцыі Вялікай Сербіі, што была ледзь не дзяржаўнай дактрынай у даваеннай Югаславіі.

**Пасля таго, як Мілошавіча зрынулі і Бялград пагадзіўся на вяртанне Карагеоргіевічаў, іх статус заўважна вырас. Аляксандру і сям'і дазволілі жыць у адным з палацаў, які пабудаваў перад вайной яго дзед**

Аднак Слабадан не дазволіў выдаць прынцу югаслаўскую візу. У прынцыпе, пазней самі Карагеоргіевічы былі задаволеныя такім ходам падзей, паколькі імя Мілошавіча хутка стала сінонімам крывавых этнічных частак. У гэты час Аляксандр пачаў арганізоўваць сустрэчы апазіцыі з мэтай усталявання адзінства дэмакратаў.

Пасля таго, як Мілошавіча зрынулі і Бялград пагадзіўся на вяртанне Карагеоргіевічаў, іх статус заўважна вырас. Аляксандру і сям'і дазволілі жыць у адным з палацаў, які пабудаваў перад вайной яго дзед. Сёння Карагеоргіевічы вельмі актыўныя ў сацыяльна-палітычным жыцці Сербіі. Прынц ахвотна прымае розныя дэлегацыі, часта выступае на дабрачынных акцыях. Яго жонка Кацярына заснавала спецыяльны фонд дапамогі культуры і спорту. Аднак галоўным для Аляксандра было перапахаванне бацькі і маці на радзіме. Над гэтай праблемай ён біўся амаль 10 гадоў.

Цяпер, пасля таго, як сямейны абавязак выкананы, Аляксандр патэнцыйна можа падацца ў палітыку. Тым больш, ён ніколі не хаваў, што з'яўляецца прыхільнікам канстытуцыйнай манархіі. Прынц таксама падкрэслівае, што ў выпадку каранацыі адмовіцца ад тытула «кароль Югаславіі» і абмяжуецца тытулам «кароль сербаў». У 2006 годзе, пасля выхаду са складу Югаслаўскай Федэрацыі Чарнагорыі, што выклікала крах дзяржаўнай фармацыі, Сербія была вымушана прымаць новую канстытуцыю. У час дэбатаў манархістамі быў таксама прапанаваны праект канстытуцыйнай манархіі. Прынц падтрымаў ідэю.

Ён казаў: «Кароль вышэй паўсядзённай палітыкі, ён з'яўляецца захавальнікам нацыянальнага адзінства, палітычнай стабільнасці і пераемнасці дзяржавы. У канстытуцыйнай манархіі кароль з'яўляецца абаронцам грамадскіх інтарэсаў: у яго няма асабістых або партыйных інтарэсаў, што з'яўляецца найбольш важным для Сербіі. Мы павінны працаваць разам на агульнае дабро Сербіі, і сябраваць у імя будучыні нашай краіны. Я выступаю за сталы дэмакратычны дыскурс у інтарэсах Сербіі. Сербія павінна мець выразныя і рэалістычныя мэты, для чаго патрэбны інстытут манарха». Аднак ініцыятыва манархістаў не атрымала працягу.

Паводле апошніх вынікаў апытання грамадскай думкі, каля 40 працэнтаў сербаў выступаюць за пераход да мадэлі канстытуцыйнай манархіі. Аднак у патэнцыйнага караля ёсць некаторыя праблемы. Па-першае, калі ў 2001 годзе яму ўручалі сербскі пашпарт, ён на словах абяцаў не заклікаць да рэстаўрацыі. Па-другое, у прэтэндэнта на трон няма сваёй арганізацыйнай структуры і падтрымкі СМІ.

У краіне з 1996 года дзейнічае манархісцкі «Рух нацыянальнага адраджэння», аднак у яго праграме пра манархію гаворыцца даволі абстрактна. Канкрэтнай фігуры караля «Рух нацыянальнага адраджэння» не прапаноўваў. Нарэшце, прынц вывучаў сербскую мову за мяжой і, як піша прэса, дасюль размаўляе не надта добра. Гэта шмат каму з простых людзей не падабаецца. Так што пакуль прынц будзе вывучаць падручнікі па мове, у прыхільнікаў рэспубліканскай мадэлі ў Сербіі ёсць час, каб падрыхтавацца да бою з раялістамі.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ПАМІРЫЛІСЯ З БАНДЫТАМІ

Алег НОВІКАЎ

**Амерыка ўздыхнула з палёгкай. Дзве самыя буйныя вулічныя банды на кантыненце заявілі пра прыпыненне гвалту.**

Прыкладна год таму ўрад Гандураса пасадзіў за стол перамоваў прадстаўнікоў двух злачынных кланаў — Mara Salvatrucha 13 і Barrio 18 — і прапанаваў пайсці на міравую. Іншымі словамі, урад распісаўся ў тым, што знішчыць групоўкі немагчыма. З іншага боку, такі падыход, верагодна, найбольш рэалістычны.

Групоўкі накшталт Mara Salvatrucha 13 (MS 13) і Barrio 18 — з'явы глыбока выражанага сацыяльнага характару. Напрыклад, MS 13 узнікла дзякуючы нелегальнай эміграцыі з Сан-Сальвадора ў Злучаныя Штаты ў пачатку 1980-х гадоў. Сяброў групоўкі, якая ўзнікла для абароны інтарэсаў камуны, у пачатку 1990-х гадоў ФБР пакетам выслала на радзіму. Гэта была фатальная памылка. Паколькі Сальвадор на той час адыходзіў ад грамадзянскай вайны, у краіне хапала былых удзельнікаў вайсковых фармаванняў, якім было цяжка інтэгравацца ў мірнае жыццё. Дзякуючы хлопцам з MS 13 яны знайшлі сабе новае поле дзейнасці. Пашырэнню злачынных сетак таксама спрыяў крызіс даверу да Касцёлу, які раней быў аўтарытэтам ва ўсім, што тычылася маральных нормаў.

Паступова «мурашы» (так яшчэ называецца сіндыкат) узялі пад кантроль каналы нелегальнай эміграцыі. Пасля зацікавіліся наркатрафікам, прастытуцыяй і г.д. Адначасова пачалі ствараца філіялы «мурашоў» у іншых краінах. Сёння, паводле розных ацэнак, колькасць сяброў злачыннага сіндыката вагаецца ад 50 да 300 тысяч чалавек, пачынаючы з 10-гадовага ўзросту. Тое, што тынейджары ідуць у бандыты, не дзіўна з улікам нізкіх індэксаў развіцця краін Цэнтральнай Амерыкі. Дадатковы інтарэс маладых людзей выклікае добра распрацаваная эстэтыка бандаў, і перш за ўсё сакрэтная мова з дапамогай жэстыкуляцыі і татуіровак, якія сябры maras робяць нават у роце. Тату не толькі паказваюць прыналежнасць чалавека да банды, але і сваімі дэталямі распавядаюць пра старонкі яго крымінальнай біяграфіі, уплыў і статус у крымінальнай супольнасці.

Тату — адзін з элементаў субкультуры maras. Не менш важнай з'яўляецца ідэалогія. Вось як апісвае яе мексіканскі часопіс «Revista»: «Для дзяцей, якія жывуць ва ўмовах крайняй сацыяльнай дэпрывацыі, mara ўяўляе сабой адзіную магчымасць дасягнення прызнання. Маладыя людзі спаборнічаюць за магчымасць праходжання рытуалу пасвячэння, які можа вар'іравацца ад продажу наркотыкаў, жорсткага збіцця ад іншых чальцоў, нават забойства паліцэйскага. Асноўны сэнс існавання заключаецца ў барацьбе з іншымі бандамі за кантроль над тэрыторыяй». Ідэя карпаратыўнага адзінства праяўляецца таксама ў актах скрайняй варожасці да чужых. Падчас катаванняў і забойстваў чальцы банды часам адсякаюць мачэтэ галовы, рукі, пальцы або геніталіі ахвяр, скормліваюць іх сабакам.

Такое ўражанне, што ўлады Цэнтральнай Амерыкі даўно зразумелі, што прававымі інструментамі з бандытызмам не справіцца. Неаднаразова ў аперацыях супраць maras удзельнічалі вайсковыя часткі. У 1990-х гадах, у адказ на разгул злачыннасці, у Сальвадоры працаваў так званы эскадрон смерці «Sombra Negra», які праводзіў пазасудовыя расправы над сябрамі моладзевых узброеных бандаў. У суседнім Гандурасе праваабаронцы вінавацілі ўладу ў яшчэ больш страшных расправах — нібыта не без удзелу турэмнай адміністрацыі ў некалькіх пажарах, якія здарыліся ў перапоўненых пенітэнцыярных установах, загінулі дзясяткі чальцоў Mara Salvatrucha.



Цяперашняя ініцыятыва ўладаў Гандураса — прымусіць лідараў груповак (большасць з іх сядзіць у турме) падпісаць мірны пакт — выглядае як дзіўны крок

Аднак далей за ўсіх пайшоў прэзідэнт Рыкарда Мадура, які кіраваў Гандурасам у 2002–2006 гадах. Мадура (дарэчы, у палітыку ён пайшоў, каб адпомсціць за забітага бандытамі сына) увёў прынцып нулявой талерантнасці да maras. У час яго кадэнцыі за краты маглі кінуць нават за наяўнасць татуіроўкі любога грамадзяніна, якому споўнілася 15 гадоў.

Як было сказана вышэй, усе гэтыя сродкі дрэнна працавалі з-за ўкаранення maras у грамадства. Дайшло проста да фантастыкі, калі з таго ж Гандураса ці Сальвадора пачалі бегчы не з-за голаду, а з-за гвалту. Прычым дапамагаюць уцекачам пакінуць краіну ўсё тыя ж людзі са структур maras.

Цяперашняя ініцыятыва ўладаў Гандураса — прымусіць лідараў груповак (большасць з іх сядзіць у турме) падпісаць мірны пакт — выглядае як дзіўны крок. Сам факт таго, што дзяржава ўспрымае банду як роўны сабе суб'ект перамоваў, моцна б'е па прэстыжы дзяржаўных інстытутаў.

У сваю чаргу, прыхільнікі міру спасылаюцца на статыстыку. У Сальвадоры, дзе год таму было абвешчанае падобнае перамір'е, штодня сталі забіваць не 15 чалавек, а толькі пяць.

Акрамя таго, важна было зрабіць першы крок у бок рэінтэграцыі злачынцаў у соцыум, што з'яўляецца добрым прыкладам для бандытаў з больш нізкіх эшалонаў.

Сапраўды, кадры, на якіх лідары бандаў мірыліся з уладамі, выглядаюць вельмі эфектна. «Мы просім, каб Бог скіраваў нас (...), каб дапамагчы нам у гэтым працэсе, каб папрасіць прабачэння за ўсё, каб прасіць прабачэння ў грамадства і ў нашых уладаў», — сказаў адзін з чальцоў MS 13.

Той факт, што на гістарычнай сустрэчы лідараў груповак прысутнічаў Адам Блэквел — прадстаўнік створанай Вашынгтонам Арганізацыі амерыканскіх дзяржаў (OAS), выклікала вялікі інтарэс у журналістаў. Левая прэса ахвотна спекулюе версіямі пра тое, што сапраўдным замоўцам перамір'я з бандытамі было ЦРУ. Раней праходзіла інфармацыя пра кантакты maras і Аль-Каіды, якая цікавілася нелегальнымі пераходамі праз мексіканска-амерыканскую мяжу. Магчыма, у Лэнглі (месца знаходжання штаб-кватэры арганізацыі) вырашылі шукаць з гангстэрамі агульную мову, каб прыкрыць ад ісламістаў паўднёвы фланг.

Іншыя звяртаюць увагу на тое, што мірнаму працэсу папярэднічала актыўная кампанія ўладаў Мексікі і ЗША супраць тэхаскай наркамафіі, якая звязаная з maras. Быццам, наркамафія падштурхнула хросных бацькаў і дзяржаву памірыцца, каб можна было больш павольна без стрэлаў і выбухаў рабіць свае цёмныя справы.

Відавочны бонус мае факт падпісання міру і для ўраду, які можа рабіць з гэтага някепскі піяр. Дарэчы, раней урад Сальвадора ўжо абвінавацілі ў фальсіфікацыі статыстыкі за час, калі дзейнічае перамір'е. Сцвярджалі, што чыноўнікі заніжаюць лічбу. Быццам, на самай справе ўсё засталося, як і было, за выключэннем таго, што бандыты менш выходзяць за межы кварталаў, якія яны кантралююць. А што робіцца ў іх, ніхто дакладна не ведае.

Гісторыя, у любым выпадку, надзвычай цёмная і вельмі інтрыгоўная. Справа ў тым, што ў інтэрнэце з'явілася паведамленне пра тое, што на перамовах у Гандурасе, быццам, таксама абмяркоўвалася магчымасць стварэння лідарамі maras сваёй палітычнай партыі, якая зможа прыняць удзел у бліжэйшых выбарах.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### БАСТЫЯН ЛАНГБЕН




Бастыян — актывіст нямецкай партыі, якая так і называецца «Партыя». «Партыя» была створаная журналістамі сатырычнага часопіса «Titanic» як пародыя на звычайныя палітычныя партыі. Безумоўна, з такім іміджам разлічваць на сур'ёзную падтрымку нельга. Аднак у часы крызісу і, як след, дэвальвацыі даверу да старых палітычных актораў, усё раптам змянілася. 23 чэрвеня ў Любеку кандыдат ад «Партыі» Бастыян Лангбен набраў неабходную для атрымання мандату дэпутату ў мясцовай ратушы колькасць галасоў. Гэта першы дэпутат ад «Партыі» ў гісторыі ФРГ. Бастыян нават не мог паверыць у поспех, паколькі і ён, і актыў «Партыі» ў Любеку ішлі на выбары проста для смеху. Адсюль і пункты праграмы кандыдата, якую, дарэчы, цяпер Бастыян павінен будзе рэалізоўваць: забеспячэнне ўсіх публічных клазетаў туалетнай паперай і стварэнне пры ратушы дэпартамента культуры піцця. Жарты жартамі, а наступствы гэтай гісторыі могуць быць сур'ёзныя. Сёння імя Бастыяна і яго структуры на вуснах усёй Германіі, і не выключана, што «Партыя» можа стаць галоўнай пратэстнай сілай на восеньскіх выбарах у Бундэстаг. Дарэчы, кіраўніцтва «Партыі» на хвалі поспеху паабяцала сабраць увосень на выбарах 101 працэнт галасоў нямецкага электарату.

### КРЫСЦІНА ПАЎЛОВІЧ



Дэпутат польскага сейму ад кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) стала зоркай правай польскай сцэны пасля таго, як адмовіла адной дэпутатцы ў праве называць сябе жанчынай (да аперацыі па змене полу яна была мужчынам). Цяпер Крысціна яшчэ больш замацавала свой імідж паслядоўнага кансерватара. Ахвярамі яе новай кампаніі сталі прастытуткі, якіх пані Паўловіч заклікае не лічыць нармальнымі грамадзянамі і, адпаведна, пазбавіць некаторых правоў. На яе думку, артыкулы ў Канстытуцыі пра роўнасць усіх грамадзян перад законам тычацца выключна такіх асобаў, якія «паводзяць сябе ў логіцы права і прыроды». Што тычыцца жрыц кахання, то, як лічыць Крысціна, ім характэрная «ўзбуджаная псіхіка». Іншымі словамі, дэпутат лічыць гэту катэгорыю людзей «проста хворымі». Між тым, кіраўніцтва PiS яўна не ў захапленні ад актыўнасці Крысціны. Не паспела публіка праглынуць фразу пра «хворых» прастытутак, як Паўловіч заявіла пра тое, што моліцца за развал Еўрапейскага саюза. На думку экспертаў, заложнікам правакацый дэпутата-радыкала становіцца ўся партыя Яраслава Качыньскага.

### УЛАДЗІМІР ВАРОНІН



Лідар Партыі камуністаў Рэспублікі Малдовы (КПРМ) па незразумелых прычынах аддаў загад аднапартыйцам шырока адсвяткаваць 24 чэрвеня 123 гады з дня нараджэння вядомага камандарма Рыгора Катоўскага. У дзень нараджэння героя ў цэнтры Кішынёва адбыўся нават мітынг з удзелам правадыра камуністаў. На ім старшыня КПРМ прадэманстраваў натоўпу ганаровую зброю Катоўскага — срэбную шаблю, якая захоўвалася раней у музеі Катоўскага. Музей, паводле слоў Вароніна, быў разрабаваны актывістамі Народнага фронту ў пачатку 1990-х гадоў, аднак музейным супрацоўнікам удалося выратаваць частку экспанатаў і пасля перадаць іх Вароніну. Правая прэса дружна абвінаваціла КПРМ у стварэнні культу злачынцы (як вядома, пачынаў Катоўскі сваю жыццёвую кар'еру як налётчык). У сваю чаргу, левыя СМІ называюць Катоўскага «нашым Робін Гудам». Самае цікавае, што ўлады Прыднястроўя дзень нараджэння Катоўскага праігнаравалі, хаця менавіта Рыгор Іванавіч дабіўся стварэння тут у 1923 годзе аўтаноміі ў складзе Украінскай ССР, з якой, на думку мясцовых гісторыкаў, пачаўся адлік прыднястроўскай дзяржаўнасці. Больш за тое, адна з мясцовых газет нават заклікала разбурыць міф пра Катоўскага, які, быццам, тармозіць грамадскую дыскусію, якая не можа выйсці за рамкі бальшавіцкіх ідэй.

▸ **АНТЫСАВЕЦКІ СУПРАЦІЎ**

# КІРАЎНІК ПАТРЫЯТЫЧНАЙ «ЧАЙКІ»

Сяргей ЧЫГРЫН

**Васіль Супрун вядомы тым, што разам са сваімі аднагодкамі ў 1946 годзе стварыў патрыятычную антысталінскую арганізацыю «Чайка», удзельнікі якой жылі ў Слоніме, Баранавічах, Навагрудку, Пінску, Брэсце, іншых гарадах і мястэчках. За гэта ён быў пакараны 25 гадамі зняволення.**



Васіль Супрун, 1955 год



Васіль Супрун, Пачатак 1990-х гадоў

Фота з архіва аўтара



Васіль Супрун (стаіць крайні злева) у гасцях у Ларысы і Янкі Геніюшаў у Зэльве, 1950-я гады

Васіль Рыгоравіч Супрун жыў побач са мной на Брэсцкай вуліцы ў Слоніме. Я сустракаў яго амаль кожны дзень: то ідучы ў краму, то ён ехаў на дачу, то кудысьці спяшаўся на сустрэчу. Пры спатканнях Васіль Рыгоравіч стараўся гаварыць мала, ён больш любіў слухаць, а потым адным сказам ціха падводзіў вынікі ўсёй гутаркі. Ён да самай смерці быў асцярожны і маўклівы. Але я стараўся яго трохі разварушыць і гучна пытаўся: «Як справы, Васіль Рыгоравіч, чым займаецеся, над чым працуеце?»

— Вось сонейка выглянула вясновае, дык на дачу еду, варушуся там крыху. Цяжка ўжо працуецца ў маім узросце, не хапае сіл і здароўя, каб працаваць, пісаць. Хоць жаданне зрабіць тое-сёе яшчэ ёсць, — з лагоднай усмешкай, але ціха адказваў ён. Заўсёды інтэлігентны, шляхетны, быццам не з сялянскай сям'і выйшаў шукаць вольную ад паноў і таварышаў беларускую Беларусь. Ён моцна перажываў за Беларусь, казаў, што сёння ў нашай апазіцыі не хапае самаахвярнасці. А без гэтага — мы ніколі не пераможам…

## Пасля ГУЛАГу

Пра «Чайку» мы даведаліся толькі ў канцы 1980-х гадоў. Да гэтага часу ён нам ніколі нічога не казаў пра антысавецкае падполле. Калі выйшаў у 1956 годзе на волю і праз год вярнуўся на родную Слонімшчыну, быў пазбаўлены магчымасці працаваць настаўнікам, хоць меў педагагічную адукацыю: скончыў Слонімскую настаўніцкую семінарыю і Ганцавіцкае педагагічнае вучылішча. Настаўнікам працаваць не дазволілі, і Васіль Супрун мяняў заняткі і прафесіі.

Працаваў спачатку будаўніком у роднай вёсцы, быў тэхнікам-будаўніком у СПТВ у Слоніме, а потым у пошуках заробку выехаў у Крым, дзе знайшоў працу праекціроўшчыка ў падводным марскім клубе ДТСАФ СССР. Працуючы далёка ад Беларусі, паступіў на гістарычны факультэт БДУ, які завочна скончыў у 1969 годзе.

Калі вярнуўся з Крыма на Радзіму, то зноў пайшоў працаваць на будоўлю. Адначасова займаўся ў вольны час археалагічнай разведкай і раскопкамі на Гродзеншчыне і Брэстчыне. Пасля пісаў пра гэта ў мясцовым друку, у часопісе «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». Так і дажыў да пенсіі… Але гэта было пасля вяртання з ГУЛАГу, пасля 1957 года. А да гэтага была «Чайка».

## «Чайка»

Напачатку 1946 года ў асяродку настаўніцтва і моладзі Слонімшчыны ўзнікла ідэя арганізаванага супраціву камуністычнаму руху і гвалтоўнай русіфікацыі Беларусі. З гэтай мэтай у пачатку траўня 1946 года ў Слоніме актывісты руху правялі ўстаноўчы сход, на якім прынялі рашэнне стварыць падпольную беларускую арганізацыю з канспірацыйнай назвай «Чайка», якая ставіла б сваёй мэтай змаганне за нацыянальныя правы і годнасць свайго народу, яго культуры, мовы, гісторыі і, урэшце, за свабоду і незалежнасць Беларусі.

Арганізацыя не планавала займацца тэрорам, а меркавала індывідуальнай працай будзіць свядомасць беларусаў. Была прынятая праграма дзейнасці, асновы канспірацыі і абранае кіраўніцтва. У сходзе ўдзельнічалі Васіль Супрун (які быў абраны кіраўніком), Міхась Ракевіч, Міхась Чыгрын, Алесь Гардзейка, Леакадзія Кавальчук і Ніна Карач (сакратар). У сувязі з няяўкай Ніны Карач на пазнейшых нарадах і парушэннем канспірацыі, дзяўчаты былі адхіленыя ад удзелу ў падполлі, зменены яўкі.

Дарэчы, пазней Ніна Карач была асуджана на 10 гадоў. Яе забяруць ужо студэнткай Інстытута народнай гаспадаркі. І што цікава, бацька Ніны быў некалі засланы з Расіі ў Польшчу для навядзення прапаганды на карысць Саветаў. А дачка, як бачыце, вырасла свядомай беларускай.

З агульнай згоды сяброў Васілю Супруну было загадана заснаваць патрыятычнае падполле ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце, Міхасю Ракевічу — у Брэсцкім чыгуначным тэхнікуме, дзе ён навучаўся, Міхасю Чыгрыну — у Жыровіцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме, дзе ён у той час вучыўся, і Алесю Гардзейку — сярод моладзі Слонімшчыны.

У хуткім часе патрыятычныя групы падполля былі створаныя і ў Баранавічах (з дапамогай Уладзіміра Салаўя — студэнта настаўніцкага інстытуту), у Брэсце, Жыровічах і ў іншых гарадах і мястэчках.

«Чайка» за нейкі месяц выйшла далёка за межы Слонімшчыны, што патрабавала паглыбленай распрацоўкі праграмы і схемы ўнутранай будовы арганізацыі. А праз пэўны час узнікла і неабходнасць стварэння так званага Цэнтра беларускага вызваленчага руху (ЦБВР), які павінен быў ажыццяўляць агульнае кіраўніцтва рухам. Кіраўніком ЦБВР быў абраны Васіль Супрун, намеснікам па арганізацыйна-палітычнай рабоце стаў Аляксандр Барэйка, а адказным за ваенізаваны рух — Міхась Ракевіч.

Акрамя таго, дарадчымі чальцамі ЦБВР былі прызначаныя Мікалай Макарэвіч, ён жа — кіраўнік Брэсцкага абласнога падполля, Міхась Агейка — ад баранавіцкай інстытуцкай групы і Уладзімір Салавей — ад слонімскіх груп. Кантакты Васіля Супруна з А. Барэйкам і М. Ракевічам былі рэгулярнымі, з астатнімі чальцамі ЦБВР — пры неабходнасці.

Цэнтрам была прапанаваная так названая «колавая» схема кіравання. Ад ЦБВР мела адходзіць першае кола, гэта значыць, абласныя кіраўнічыя структуры, вакол якіх павінны размяркоўвацца раённыя групы — другога кола, а вакол апошніх — перыферыйныя групы — трэцяе кола.

Пры гэтым прапаноўвалася своеасаблівая схема канспірацыі і кансервацыі падполля. На пэўным этапе, калі нейкая тэрыторыя будзе арганізацыяй ахоплена, яна павінна быць закансерваваная да спрыяльнай палітычнай сітуацыі, пры якой па камандзе з цэнтра павінна была быць гатовая да любых дзеянняў…

**Вершы з перапіскі Васіля Супруна і Ларысы Геніюш упершыню былі апублікаваныя ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» вясной 1989 года. Іх публікацыя была тады вялікай падзеяй у беларускім літаратурным жыцці**

## 25 гадоў зняволення

Але за беларускімі хлопцамі і дзяўчатамі пільна сачыла спецгрупа МДБ. І ў чэрвені 1947 года беларускіх патрыётаў пачалі арыштоўваць. Быў арыштаваны і Васіль Супрун. Амаль паўгода знаходзіўся ў баранавіцкай следчай турме «Крывое кола» і мінскай «амерыканцы».

21 лістапада 1947 года Ваенны трыбунал войскаў МУС Беларускай акругі ў Мінску паводле артыкулаў 63-1 і 76 КК БССР (здрада радзіме і антысавецкая агітацыя) асудзіў Супруна на 25 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах з канфіскацыяй маёмасці. Такім суровым быў прысуд перш за ўсё за ўпартасць, нязломнасць, адмову нагаворваць на сябе і іншых, карацей — за характар, за тыя яго рысы, якіх берыеўцы не чакалі ад вясковага настаўніка, маладога народнага інтэлігента, маладога беларуса.

Пакаранне Васіль Супрун адбываў у лагерах Інты і Варкуты. У зняволенні падтрымліваў тайную міжлагерную перапіску з беларускай паэткай Ларысай Геніюш:

*Бачыш? Вялізныя шрамы па краю —*
*Лагеры, зоны, драты.*
*Там ні за што, як і мы, дагараюць*
*Нашы ў няволі браты.*

## На волі

Вершы з перапіскі Васіля Супруна і Ларысы Геніюш упершыню былі апублікаваныя ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» вясной 1989 года. Іх публікацыя была тады вялікай падзеяй у беларускім літаратурным жыцці. Аказалася, што Васіль Супрун усё жыццё пісаў вершы, найбольш патрыятычныя. А першы ягоны верш быў надрукаваны ў «Баранавіцкай газеце» яшчэ ў 1943 годзе. І толькі праз 50 гадоў дзяржаўнае выдавецтва «Мастацкая літаратура» выдала невялікі зборнічак вершаў Васіля Супруна пад назвай «Крык» з прадмовай прафесара Алега Лойкі. Вершы ў ім былі напоўненыя духоўнай сілай і верай, нязломнасцю духа ды бясконцай любоўю да роднага краю:

*Так, каб жыць, каб тварыць, каб змагацца, любіць,*
*Трэба ўмець супроць хваляў і гора*
*Непакорна плысці, сваё Заўтра знайсці —*
*Яно лепей, чым нашае ўчора.*

Потым свет пабачылі яшчэ некалькі кніг вершаў і краязнаўчых артыкулаў Васіля Супруна. Яго прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Васіль Супрун быў вельмі таленавітым чалавекам. Ён умеў добра фатаграфаваць, маляваць, выдатна іграў на скрыпцы, любіў прыроду.

Некалькі разоў ён звяртаўся ў вышэйшыя мінскія інстанцыі, каб яго рэабілітавалі, але так і не дачакаўся рэабілітацыі. Але для тых, хто ведаў Васіля Рыгоравіча, ён застаўся маральным аўтарытэтам назаўсёды.




Паштоўка, прысвечаная сябрам «Чайкі», Слонім, 2008 г.

РЭХА ПАМЯЦІ

# ПА СЛЯДАХ АДНАГО ЗДЫМКА

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Пасля публікацыі артыкулу «План «W». Абараніць «крэсы» («Новы час», №21 ад 31 мая) у рэдакцыю патэлефанаваў наш чытач, мінчанін Вячаслаў Варанецкі, і сказаў, што на групавым здымку салдат Войска Польскага пазнаў свайго бацьку, які ў 1930-х гадах служыў у польскай арміі. Мы дамовіліся пра сустрэчу, і вось яе вынік.**



На гэтым здымку Вячаслаў Варанецкі і пазнаў свайго бацьку

фота з архіва аўтара



Аркестр батальёна КАП «Стоўбцы», 2 ліпеня 1939 г.



За гэты фотаздымак партызаны забілі брата Язэпа



Музыкі аркестра батальёна КАП «Стоўбцы», другі злева Язэп Варанецкі



Парад батальёна КАП «Стоўбцы», 1939 год

## Жыхар памежжа

Язэп Іванавіч Варанецкі нарадзіўся ў 1914 годзе ў вёсцы Душкава пад Ракавам у сялянскай сям'і. Яго бацька загінуў падчас Грамадзянскай вайны, а маці працавала аканомкай у мясцовага памешчыка па прозвішчы Булгак. Да 1935 года Язэп працаваў кавалём. Паступова сям'і Варанецкіх удалося збудаваць моцную гаспадарку, у якой у 1937 годзе было ўжо чатыры каровы і два коні. Перад самай вайной цесць Язэпа набыў у мясцовага асадніка 20 гектараў зямлі, заплаціўшы за гэта царскімі залатымі чырвонцамі.

Вёска, у якой жыла сям'я Варанецкіх, знаходзілася ў кіламетры ад савецка-польскай мяжы, а Ракаў, як вядома, быў сталіцай кантрабандыстаў. Мясцовыя спрабавалі пранесці на савецкі бок усё, што магчыма, і польскія памежнікі гэтаму асабліва не перашкаджалі. Аднойчы ў Варанецкіх укралі кароў і... перавялі іх на савецкі бок. Цесць Язэпа нават хацеў перайсці мяжу. Ён дакладна ведаў, дзе яго каровы. Аднак польскія памежнікі параілі старому не выпрабоўваць лёс: «Як трапіш да бальшавікоў, то можаш не вярнуцца», — папярэдзіў беларуса афіцэр Корпуса аховы памежжа (КАП). Жыхары Душкава таксама ведалі, што савецкія ўлады рэпрэсіруюць усіх, хто мае сувязь са сваякамі ў Польшчы. Такія выпадкі былі ў вёсках Траскоўшчына і Вялікае Сяло. НКУС арыштоўвала цэлыя сем'і і вывозіла іх углыб СССР.

Калі Язэпу споўніўся 21 год, ён быў прызваны ў Войска Польскае, служыў у 69-м палку пяхоты ў Гнезна. Пасля службы ў польскай арміі, малады беларус трапіў у Корпус аховы памежжа.

## Вайсковы музыкант

Батальён КАП «Стоўбцы» складаўся з 5 памежных ротаў і ахоўваў 95-кіламетровы прамежак савецка-польскай мяжы. Усяго ў склад гэтай вайсковай адзінкі ўваходзіла 16 стражніц (памежных застаў). Язэп быў незвычайным памежнікам. Ён іграў у вайсковым аркестры. «Бацька музыцы не вучыўся. Сам неяк аваладаў ігрой на музычных інструментах, прычым на высокім узроўні», — адзначае Вячаслаў Варанецкі. «Шмат разоў ён удзельнічаў у так званых «дэфіладах» — вайсковых парадах, якія арганізоўваў батальён памежнікаў», — працягвае сын нашага героя.

Напярэдадні Другой сусветнай вайны, у жніўні 1939 года, батальён КАП «Стоўбцы» быў адмабілізаваны і ўвайшоў у склад рэзервовай 38-й пяхотнай дывізіі Войска Польскага ў якасці 1-га батальёна 96-га пяхотнага палка арміі «Малапольшча». Пасля адпраўкі асноўных частак на захад, камандаванне папоўніла шэрагі памежнікаў за кошт маладых рэзервістаў, а новы батальён «Стоўбцы» стаў часткай палка КАП «Баранавічы».

## Восень 1939-га

На досвітку 17 верасня 1939 года польскія памежныя заставы былі атакаваны часткамі Чырвонай Арміі. «Колькі іх там было, тых польскіх «капаўцаў». Усяго 5–6 на адну стражніцу. Асноўная частка батальёна была адпраўлена на Захад і змагалася з немцамі. А тут, у Заходняй Беларусі, засталася невялікая частка некалі магутнага памежнага батальёна. «Капаўцы» хадзілі па вёсках, сачылі за захаваннем святломаскіроўкі падчас налётаў нямецкай авіяцыі і з небяспекай пазіралі на ўсход», — успамінае Вячаслаў Язэпавіч.

Пасля таго, як савецкія часткі перайшлі мяжу, астаткі батальёна КАП «Стоўбцы» адступілі ў напрамку Навагрудку, дзе 20 верасня 1939 года ля Міру былі атачаны часткамі савецкай 6-й стралковай дывізіі і ўзяты ў палон. Хутка пасля гэтага Язэп Варанецкі вярнуўся дадому. У былым памешчыцкім маёнтку быў арганізаваны калгас, а саму сядзібу Булгакаў разрабавалі. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР старая мяжа намінальна захоўвалася, аднак жыхары памежных вёсак усё роўна спрабавалі наведваць адзін аднаго.

Аднойчы жонка Язэпа пайшла на савецкі бок да цёткі. Яна жахнулася ад той галечы, якую ўбачыла ў вёсцы Траскоўшчына, што знаходзілася зусім побач ад Душкава. У савецкіх беларусаў не было нават бульбы, каб пачаставаць заходніх сваякоў. Варанецкія вярнуліся дадому, узялі мяшок з мукой і ноччу панеслі гэта сваякам на савецкі бок. Аднойчы маладыя дзяўчыны «з Польшчы», сярод якіх была і жонка Язэпа, пайшлі на вечарыну «да Саветаў». А калі вярталіся, то трапілі на савецкі патруль. «Хто такія? Вопратка ў вас багатая. Вы напэўна дочкі памешчыкаў», — накінуліся савецкія памежнікі на дзяўчат. Але тым удалося даказаць, што яны звычайныя сялянкі і вяртаюцца да дому.

## Новая вайна

У чэрвені 1941 года Германія напала на Савецкі Саюз, і хутка Беларусь апынулася пад нацысцкай акупацыяй. Аднойчы, у канцы 1941 года, у вёсцы нечакана з'явіўся былы асаднік па прозвішчы Заграйскі. Да 1939 года ён валодаў асадай пад Ракавам, аднак, калі пачалася Другая сусветная вайна, прадаў зямлю і эміграваў. Былы асаднік прыехаў паглядзець, што стала з яго маёнткам, і быў вельмі ўражаны, убачыўшы, што ўсё разрабавана. Сабраўшы вакол сябе сялян, Заграйскі сказаў: «Камунізм пройдзе па ўсім свеце, але згіне назаўсёды». Хто мог тады ведаць, што гэтыя словы будуць прароцкімі.

У лясах з'явіліся партызаны. «Лясныя мсціўцы» забілі роднага брата Язэпа толькі за тое, што ўбачылі ў хаце яго здымак у польскай форме. У 1944 годзе, калі тэрыторыя Беларусі была вызвалена з-пад нямецка-фашысцкай акупацыі, пачаўся прызыў беларускай моладзі ў Савецкую Армію. Аднак на тэрыторыі заходніх абласцей БССР у маладых хлопцаў была магчымасць трапіць і ў Народнае Войска Польскае (НВП). Варанецкі і два яго браты запісаліся ў польскую армію, аднак хлопцы былі адпраўлены на ўсход, у Горкаўскую вобласць. Замест вайсковай падрыхтоўкі беларусам давялося валіць лес. Пазней іх усё ж адправілі на фронт.

## У Польшчу ці ў калгас

У 1945 годзе Язэпу Варанецкаму прапанавалі застацца ў Польшчы і не вяртацца ў СССР. «Бацька распавядаў, што польскі афіцэр, відаць з былых, сабраў іх, «крэсавякаў», і запытаў: Жадаеце ісці ў калгас? Язэп напісаў ліст цесцю і запытаўся, што яму рабіць. Той, безумоўна, не мог напісаць праўду, і вырашыў зашыфраваць свой «мэсыдж» да зяця. Былому настаўніку вясковай школы, які недалюбліваў савецкую ўладу, хапіла розуму напісаць усяго толькі адну фразу: «Калі жадаеш ісці да Вінцуся, дык вяртайся». Язэп адразу зразумеў сэнс паслання.

Старшыню калгаса ў вёсцы, дзе жылі Варанецкія, звалі Вінцэнт. Зразумела, што «ісці да Вінцуся» азначала ісці ў калгас. У выніку Язэп вырашае застацца ў Польшчы, у Гданьску. Туды павінна была выехаць і сям'я былога музыканта-памежніка. Ужо былі падрыхтаваны дакументы на рэпатрыяцыю, аднак свёкар у апошні момант прыняў рашэнне застацца ў БССР. Так сям'я падзялілася.

Пазней Язэп Варанецкі працаўладкаваўся ў Гданьскую палітэхніку і працаваў там майстрам вытворчага навучання да самай смерці. Кожны год на Дзяды Вячаслаў Язэпавіч ездзіць у Польшчу, на магілу свайго бацькі. Вось такая гісторыя сям'і, якую падзяліла вайна.

ІМПРЭЗА

# У ПОШУКАХ КУПАЛАВАЙ ПАПАРАЦЬ-КВЕТКІ

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**24 чэрвеня на пляцоўцы Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы і ў скверы імя вялікага Песняра адбылося традцыйнае свята «Купальская ноч у Купалавым доме», арганізаванае супрацоўнікамі гэтага музея пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.**

Чэрвень — месяц, калі па ўсёй Беларусі пачынаюць святкаваць Купалле. У вёсках і мястэчках моладзь, а з імі і людзі сталага веку, успамінаюць, як адзначалі гэта цудоўнае народнае свята даўней. Бывае, што яго святкуюць і ў гарадах. Канешне, гарадское Купалле — трохі іншае, чым на вёсцы. Галоўнае — у горадзе часцяком бывае нельга паліць вогнішчы, пускаць з гары палаючыя колы, што з'яўляцца візітоўкай свята. Тым не менш, і такое свята збірае шмат гараджан, якія хацелі б дакрануцца да таямніцы Купальскай ночы, як гэта адбылося ў Мінску падчас свята «Купальская ноч у Купалавым доме».

Трэба адзначыць, што арганізатары свята паруліліся, каб яго ўдзельнікаў чакала цікавая і дынамічная праграма, каб нікому не было сумна ў Купальскую ноч. Першым крокам да гэтага стаў майстар-клас па пляценні купальскіх вянкоў. Дзеля гэтага побач з музеем была разгорнута своеасаблівая майстэрня, дзе былі нарыхтаваныя бярозавыя, яваравыя галінкі, лісты папараці, а таксама букеты гожых палявых красак. Гэты матэрыял і быў выкарыстаны дзяўчатамі для стварэння сапраўдных «зялёных» кампазіцый — купальскіх вянкоў. Да гэтай справы далучаліся і хлопцы, якія потым ахвотна пазіравалі фатографам у купальскіх вянках побач са сваімі сяброўкамі.



Фота аўтара

Беларускія Купалінкі



Дзетак чакаюць падарункі

**Арганізатары свята парупіліся, каб яго ўдзельнікаў чакала цікавая і дынамічная праграма, каб нікому не было сумна ў Купальскую ноч**

Тым часам усіх ахвочых чакала захапляльная купальская віктарына «У пошуках папараць-кветкі», мэтай якой было больш шчыльна пазнаёміць прысутных з жыццём і творчасцю Янкі Купалы. Арганізатары прапанавалі ўдзельнікам віктарыны згуртавацца ў каманды і рушыць па аб'ектах, якія былі ўказаныя ў спецыяльна падрыхтаваных пуцяводніках. Удзельнікаў чакала і экспазіцыя музея, і пошук у скверы дрэваў явара і каліны з аднайменнага верша Купалы, і выраб «папараць-кветкі» з паперы. Трэба сказаць, віктарына выклікала сапраўдны фурор сярод моладзі і дзетак, якія разам з татамі і мамамі праходзілі адзін аб'ект за другім.

Вынікі віктарыны «У пошуках папараць-кветкі» былі падведзены пасля таго, як удзельнікі прайшлі ўвесь запланаваны маршрут. Вядучыя пасля падліку набраных балаў абвясцілі, што ў віктарыне перамагла дружная каманда мінскіх дзяўчат «Тутэйшыя паненкі». Паненак чакаў каштоўны прыз, ну а дзеткам, якія таксама бралі ўдзел у віктарыне, былі ўручаны сувеніры — мяккія лялькі.

Адна з частак свята «Купальская ноч у Купалавым доме» была прысвечана купальскім спевам у рамках абвешчанага арганізатарамі «Спеўнага поля». Рэй пры правядзенні гэтай часткі праграмы вялі ўнікальныя беларускія фальклорныя калектывы «GUDA» і «Гарыць». У іх выкананні загучалі купальскія песні «Царкоўка», «Ішла Купалка сялом, сялом», «Чырвона ружа», што з натхненнем былі падхоплены ўсімі ўдзельнікамі свята, якіх на той час ужо сабралася каля музея Янкі Купалы больш за тысячу чалавек. Атрымаўся ўзорны хор з прафесіяналаў і аматараў харавых спеваў, які ў будучым мог бы стаць паўнавартасным аналагам «Спеўнага поля», накшталт балтыйскага. Спеўнае купальскае свята было працягнутае карагодам, які завяршыўся калі помніка нашаму вялікаму Песняру — Янку Купалу, што выглядала вельмі сімвалічна.

Калі пляц музея зноў быў запоўнены ўдзельнікамі свята, яго арганізатары абвясцілі танцавальную праграму. Музыкі, сярод якіх былі заўважаны выканаўцы з легендарнай капэлы кафэ «Жарптушка», зайгралі беларускія народныя танцавальныя мелодыі. Загучалі полька, кадрыля, падыспань і кракавяк… Не ўсе гараджане ведалі, як трэба было танчыць пад тую ці іншую мелодыю і рытм. Ім дапамаглі маладыя і няўрымслівыя танцоры са Студэнцкага этнаграфічнага таварыства. Таму ўвесь пляц скакаў і весяліўся, захапляючы ў сваю віхуру ўсё новых і новых танцораў!

Танцавальную эстафету падхапілі ўдзельнікі самадзейнага тэатра танца «ОтражениЯ» пад кіраўніцтвам А. Руткоўскай. Нумары гэтага калектыву прысвечаны пластычнаму ўвасабленню народнай спадчыны і гісторыі беларусаў і выконваліся пад нацыянальныя мелодыі, у тым ліку і этна-трыа «Троіца».

Завяршыў праграму свята ўрывак з містычнай дзеі тэатра лялек «Дом сонца» паводле твора Уладзіміра Караткевіча «Калыска чатырох чараўніц». Шкада, што гэта быў толькі ўрывак, бо і ён заінтрыгаваў прысутных. Магчыма, у будучым на гэтым свяце мы зможам пабачыць твор паводле У. Караткевіча цалкам.

Большасць з прысутных на гэтым свяце былі натхнёныя тым, колькі людзей адгукнулася на запрашэнне супрацоўнікаў музея Янкі Купалы актыўна паўдзельнічаць у свяце «Купальская ноч у Купалавым доме». Галоўнае, стала відавочным: вельмі многа людзей не згодныя стаць часткай анансаванага імперыяй і яго тутэйшымі памагатымі «русского мира», калі побач зіхацяць сваімі дыяментамі такі цудоўны і прывабны «Беларускі свет»!



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 752

Падпісана да друку 28.06.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча